# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №52 (161), 28 СНЕЖНЯ 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ











*Гэта фрагменты новага твора мастака Аляксандра Кішчанкі — манументальнага габелена. Калі казаць пра ягоныя памеры, дык гэта набытак для "Кнігі Гінэса". Маштабы здзейсненага ўражваюць, але дальбог, не гэта галоўнае. Мастак паспрабаваў у сваім палатне асэнсаваць XX стагоддзе з усімі яго супярэчнасцямі, драмамі і трагедыямі. І, як гэта ні дзіўна, з незнішчальным аптымізмам.*

*Вера ў лепшае насуперак трагічнай рэчаіснасці — першы і галоўны парадокс новага твора А.Кішчанкі. Другі вынікае з гісторыі стварэння габелена і неакрэсленасці ягонай будучыні.*

*Зараз у нашай краіне для мастацтва не лепшыя часы. Эканамічны крызіс і палітычная нестабільнасць не спрыяюць буйнамаштабным культурніцкім праектам, ды і галіне культуры ўвогуле. І тым не менш беларускі мастак здзяйсняе тое, што зрабіла б гонар культуры Францыі, Германіі, Брытаніі. Цяпер беларуская дзяржава не можа аплаціць мастаку ягоную працу нават па мінімуме. Кажуць, няма грошай... На Беларусі няма выставачнай залы, дзе мог бы экспанавацца габелен. Дык мо' мастак сваім творам апярэдзіў час, мо' лепей было б пачакаць, пакуль дзяржава разбагацее, а яе кіраўніцтва паразумнее? Не, у тым і сэнс сапраўднага мастацтва, каб будучыню набліжаць. Лепшую будучыню...*

**П.В.**


*Матэрыял "XX стагоддзе: погляд з Беларусі" чытайце на стар.4.*


Фота Марата Коваля




З Новым годам і Калядными святамі!

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

ВЕРТЫКАЛЬ

## УРАЧЫСТАЕ ШЭСЦЕ ПА ГРАБЛЯХ

Не хацелася б у калядныя дні, напярэдадні Новага Года, кранаць палітычную тэму, але на мінулым тыдні адбылася надзвычайная падзея, праігнараваць якую было б недаравальна. Падзея, якую па крытэрыях цывілізаванага свету можна (і нават трэба) класіфікаваць як замах на Канстытуцыю, на асновы дзяржаўнага ладу, як адну з праяў "паўзучага" дзяржаўнага перавароту: на Беларусі ўведзена палітычная цэнзура.

Спачатку тэлегледачоў і радыёслухачоў пазбавілі магчымасці пабачыць і пачуць выступленне народнага дэпутата С.Антончыка на сесіі ВС, у якім ён выкрывае карупцыю ў прэзідэнцкай камандзе. А потым з белымі плямамі замест публікацыі гэтага выступлення выйшлі газеты "Советская Белоруссия", "Звязда", "Рэспубліка". Наклад прыватнай "Газеты Андрея Климова", дзе цэнзура не паспела "выбеліць" палосы, быў арыштаваны і знішчаны.

І як звычайна, калі дзеянні ўлады супярэчаць Закону, немагчыма знайсці вінаватага. Прэм'ер-міністр М.Чыгір сцвярджае, што не ведае, "хто даваў каманду", а ўлюбенец прэзідэнта Д.Булахаў спрабуе прадставіць справу так, нібыта рэдактар "Советской Белоруссии" ці не па ўласнай ініцыятыве выпусціў газету з белымі плямамі, каб спраакаваць скандал.

Калісьці маскоўская прэса назвала ігнараванне Гарбачовым палітычных рэалій (што ў нейкай ступені наблізіла крушэнне СССР) "урачыстым шэсцем па граблях". Нешта падобнае можна сказаць сёння і пра палітыку нашага прэзідэнта. Ён можа, нібыта між іншым, абразіць палітычнага апанента (дарэчы, абразы Пазьняка — гэта абраза і сотням тысяч прыхільнікаў лідэра БНФ), "не заўважыць", што ягоныя ўказы не стасуюцца з Канстытуцыяй, "забыць" сёння пра ўчарашнія абяцанкі і г.д. Пры ўступленні на пасаду А.Лукашэнка выказаў сваё палітычнае крэда словамі: "Беларусь — это небольшой колхоз". Відавочна, што гэтай лініі ён трымаецца і дагэтуль. Прынамсі, пасяджэнні Вярхоўнага Савета, у якіх бярэ ўдзел прэзідэнт, падазрона нагадваюць калгасныя сходы, дзе "президент колхоза" з лёгкасцю пускае ў абарот ненарматыўную лексіку, каб адчувалі, "хто ў хаце гаспадар".

Малаверагодна, каб прэзідэнт не ведаў аб увядзенні палітычнай цэнзуры, бо ні для кога не сакрэт ягоная схільнасць да сілавых метадаў. Аднак я хацеў бы засярodзіць увагу на іншым: белыя плямы на старонках "Советской Белоруссии", "Звязды" і "Рэспублікі" — газет, якія ў свядомасці чытачоў заўжды былі афіцыйным або афіцыёзным рупарам урада, — гэта выклік прэзідэнту, гэта нежаданне расплачвацца за ягоныя непрадуманыя ўчынкі. Гэта папярэджанне, прычым больш жорсткае, чым добраахвотная адстаўка В.Ганчара. Відавочна, што становішча прэзідэнта не такое трывалае, каб цвярозыя палітыкі альбо проста разумныя людзі шукалі месца ў прэзідэнцкай камандзе. Але, здаецца, самога А.Лукашэнку гэта пакуль не хвалюе. Падчас візіту ва Узбекістан (якраз калі газеты выходзілі з белымі плямамі) у яго запыталі, што з вопыту гэтай краіны можа быць карысным для Беларусі? А.Лукашэнка адказаў: "Сильная президентская власть, на которой всё замыкается. Сильный президент".

Такім чынам, можна быць упэўненымі, што "ўрачыстае шэсце па граблях" будзе мець працяг.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## ПЕРШАЕ СЯМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

17 снежня 1924 года была падпісана Пастанова СНК БССР аб арганізацыі ў рэспубліцы Дзяржаўнага ўпраўлення па справах кінематаграфіі і фатаграфіі — Белдзяржкіно. 70-годдзю беларускага кіно была прысвечана ўрачыстая вечарына, якая адбылася 16 снежня ў мінскім Доме афіцэраў.

Вядома, што кіно, як і іншыя віды мастацтва, перажывае сёння глыбокі крызіс — не толькі фінансавы, але і творчы. Тым не менш з нагоды свята размова ішла не аб праблемах, з якімі цяжка даць рады, а аб мінулых дасягненнях і поспехах "Партызанфільма". За сем дзесяцігоддзяў айчынная кінастудыя выпусціла ў пракат 389 мастацкіх стужак, 76 мультфільмаў , звыш 1000 дакументальных стужак. У тым ліку сёлета — 5 мастацкіх, 20 дакументальных і 5 анімацыйных фільмаў. Беларускія кінематаграфісты заваявалі 9 прызоў на міжнародных фестывалях, у тым ліку — 4 галоўныя, прычым палову гэтых прызоў атрымалі маладыя кінематаграфісты, што абяцае неблагія перспектывы для беларускай "дзесятай музы".

Прывітальны адрас удзельнікам вечарыны даслаў прэзідэнт краіны А.Лукашэнка. Паводле яго, наш кінематограф можа ўпэўнена разлічваць на маральную і матэрыяльную падтрымку з боку



дзяржавы. Сваім указам прэзідэнт абвясціў 17 снежня Днём беларускага кіно. Віншаванні ад Вярхоўнага Савета асабіста перадаў ягоны старшыня М.Грыб. Міністр культуры і друку А.Бутэвіч зачытаў прывітальны адрас прэм'ер-міністра М.Чыгіра. Міністэрства і Саюз кінематаграфістаў вырашылі супольна прысуджаць штогадовую прэмію за вялікі ўнёсак у развіццё айчыннага кінематографа. Сёлетнюю, першую, А.Бутэвіч асабіста ўручыў народнаму артысту Беларусі У.Гасцюхіну.

Адбылося таксама ўручэнне трох прэмій маладым кінематаграфістам ад інфармацыйна-выдавецкага канцэрна "Беларуская маладзёжная". Першымі яе лаўрэатамі сталіся рэжысёр Ю.Азаронак, аператар К.Рамішэўскі і артыст А.Цімошкін. Адзначым, што рытуал намінацыі ўжо трохі нагадваў вядомыя шоў уручэння "Оскараў" ды іншых узнагарод у больш "шчаслівым кіна-замежжы".

На вечарыне было шмат прыгожай музыкі — духоўнай і свецкай. Для кінематаграфістаў і іхніх гасцей спявалі Я.Паплаўская і А.Ціхановіч, В.Дайнека, І.Афанасьева, Ліка, вакальная група "Чысты голас", У.Правалінскі, новая салістка "Верасоў" І.Дарафеева, Л.Студнева, М.Ярмоленка (песню "Малітва за Беларусь" ён выканаў разам з дачкой і сынам), жартоўную кампазіцыю паказаў харэаграфічны ансамбль "Харошкі".

Паміж нумарамі канцэрта дзеячаў кіно віншавалі кампазітар І.Лучанок, паэт У.Някляеў, артыст купалаўскага тэатра Г.Давідзька, старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў М.Яроменка, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў А.Дудараў і намеснік міністра абароны А.Яцкевіч. Былі агалошаны таксама віншаванні ад Дзяржкіно і Саюза кінематаграфістаў Расіі, ад кінастудый Украіны, Латвіі, Літвы і Эстоніі.

Магчыма, найбольшае захапленне гледачоў выклікала сатырычная мініяцюра артыстаў тэатра лялек. Паводле іх, тэатр і кіно — браты-блізняты (як Ленін і Партыя), і дзяржаве сёння і тэатр, і кіно, нібы генералісімусу Сувораву, — "до первой звезды".

Пасля святочнага канцэрта адбылася прэм'ера фільма В.Турава "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", які здолеў адлюстраваць і старажытнасць, і вечную маладосць беларускай культуры. Падчас прагляду прыгадаўся "касмічны" дыялог паміж А.Герасіменкай і С.Станютай. Старшыня Мінгарвыканкама прызнаўся, што марыць, каб астраномы адкрылі новую зорку і назвалі яе Стэфаніяй. Народная артыстка, вядома, падзячыла і, з вышыні вялікага свайго жыццёвага і творчага вопыту, павіншавала беларускае кіно з "першым сямідзесяцігоддзем".

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## "ГРОДЗЕНСКІЯ САЛАВЕЙКІ" У МІНСКУ

Свет трымаецца на энтузіястах — такая думка не раз гучала падчас прэзентацыі Гродзенскага фонду "Юныя таленты" і выступлення музычнага ансамбля "Гродзенскія салавейкі", якія адбыліся 20 снежня ў Доме дружбы з замежнымі краінамі. Ала Мікалаеўна і Андрэй Сігізмундавіч Бінерты, якія прывезлі ў Мінск юных гродзенцаў, паказалі, што могуць зрабіць людзі, якімі рухае любоў да мастацтва і жаданне дапамагчы таленавітым дзецям — нашай будучыні. Навучэнцы дзіцячай музычнай школы выконвалі песні на беларускай, рускай, польскай, нямецкай, яўрэйскай мовах — і пры гэтым дэманстравалі высокі ўзровень выканання. А дыпламант рэспубліканскага конкурсу дзіцячых музычных школ Алёша Пятроў (педагог Р.Голубева) і Марыя Сяргей /педагог Л.Пякарская/ увогуле могуць супернічаць з дарослымі, прафесійнымі музыкантамі...

Прэзентацыя фонду сабрала ў гэты дзень землякоў "Гродзенскіх салавейкаў", сярод іх былі намеснік міністра культуры і друку І.Карэнда, мастак Г.Паплаўскі, старшыня Таварыства дружбы з замежнымі краінамі А.Ваніцкі і яго намеснік Н.Нерат, пісьменніца В.Іпатава.

Магчыма, землякі змогуць знайсці для фонду, які ўзначальвае А.Бінерт, спонсараў, якія дапамогуць юным талентам расквітнець на карысць нашай Беларусі, яе славы. Патрэба ў гэтым ёсць.

**Наш кар.**



## І.ЧЫГРЫНАВУ — 60

Спектаклем па п'есе народнага пісьменніка Івана Чыгрынава "Звон не малітва" быў адзначаны яго 60-гадовы юбілей у памяшканні Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы. Сюды прыйшлі павіншаваць І.Чыгрынава члены ўрада, прадстаўнікі грамадскасці з пажаданнямі творчых поспехаў.

## КНІГІ ВЯРТАЮЦЦА НА БЕЛАРУСЬ



Мінскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына" правёў прэзентацыю перавыдадзеных кніг вядомага дзеяча БЦР і БНР на эміграцыі Аўгена Калубовіча. У музеі Янкі Купалы сабраліся сябры клуба, якому, дарэчы, споўнілася ўжо 10 гадоў, артысты мінскіх тэатраў, карэспандэнты. Кнігі Аўгена Калубовіча прадстаўляў ягоны сын.

*На здымку:* прэзентацыя кніг у музеі Я.Купалы

## ААЗІС ЦЯПЛА Ў КАЛЯДНЫ ВЕЧАР

У сцюдзёны калядны вечар 25 снежня ўсе праблемы жыццявыжывання засталіся па-за сценамі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Было іншае — кветкі, усмешкі, шампанскае, песні, танцы. Саюз тэатральных дзеячаў і Беларускі цэнтр Міжнароднага Інстытута Тэатра ладзілі Калядны баль. Адбывалася віншаванне тых, хто ў адыходзячым годзе адзначыў свае юбілеі, — Віктара Тарасава і Галіны Талкачовай, Генадзя Гарбука і Святланы Некіпелавай, Валянціна Белахвосціка і Яўгеніі Кавалёвай, Валерыя Анісенкі. З дзеячамі сцэны дзялілі радасць чарговага Нараджэння Хрыста і іх сябры — парламентарыі, бізнесмены, журналісты. Усіх яднала дабрыня і любоў да тэатра.







**Наш кар.**

*На здымках, якія зрабіў падчас балю Генадзь Жынкоў:* Аляксей Дудараў і Віктар Тарасаў; фрагмент са спектакля "Чорны квадрат" дораць сваім старэйшым калегам акцёры тэатра "Вольная сцэна"; спявае Зоя Белахвосцік.

## АДЫХОДЗЯЧЫ ГОД

# "МЫ НЕ ЗАКЛІКАЕМ ПЕРАСОЎВАЦЬ МЕЖЫ..."

***Напярэдадні навагодніх святаў часопісу "Спадчына" спаўняецца дваццаць пяць гадоў. А таму з гэтай нагоды я і вырашыў сустрэцца з загадчыкам аддзела, кандыдатам мастацтвазнаўства спадаром Вячаславам РАКІЦКІМ. Нашыя пастаянныя чытачы напэўна паспелі заўважыць, што Вячаслаў аднaчасова з'яўляецца членам рэдкалегіі нашага штотыднёвіка, прынамсі, як гэткім з'яўляецца і яшчэ адзін "спадчынец" спадар Кастусь Тарасаў. А між тым са свайго боку заўважу, што ў склад рэдкалегіі, бадай, аднаго з самых славутых беларускіх часопісаў уваходзіць галоўны рэдактар "Культуры" спадарыня Вольга Іпатава...***

**Вячаслаў Ракіцкі:** Не здзіўляйцеся, Міхась!

Як гэта ні прыкра, — але нас мала ў гэтай краіне. Між іншым, у вашай газеце сябрамі рэдкалегіі з'яўляюцца галоўны рэдактар "Полымя" Сяргей Законнікаў і галоўны рэдактар "Нёмана" Анатоль Кудравец. Мне зараз успомніўся адзін факт з гісторыі сусветнага тэатра... Калісьці ў Францыі, у барацьбе з камерцыйным мастацтвам аб'ядналіся чатыры розныя і яскравыя індывідуальнасці — рэжысёры. Луі Жувэ, Гастон Баці, Жорж Пітоеў, Шарль Дзюлен аб'ядналіся ў "Картэль чатырох", каб ва ўзаемадапамозе адстойваць свае права на новую тэатральную культуру. Баюся, што сёння ў нашай краіне, калі, пачынаючы з самых вярхоў топчацца мова, гісторыя, культура народа, калі пануе невуцтва накшталт "Сапега — наш сучаснік", трэба ўсім нам аб'яднацца ў адну рэдкалегію і адстойваць у рэшце рэшт свае права мець магчымасць казаць праўду.

**Міхась Равуцкі:** Вячаслаў! Ну вось, нібыта і святочнае інтэрв'ю... Чытач чакае ад нас нечага незвычайнага, а мы пачалі з такой даволі сумнай ноты...

**В.Р.:** Што зробіш, калі жывеш у няпэўнасці. Калі бачыш, што ўладам культура, а тым больш слова праўды пра гісторыю народа ўсяго толькі пусты гук. Да таго ж, улады зусім не прадказальныя. Мы ўжо змірыліся са сваімі нецывілізаванымі ўмовамі працы. Дзесяць чалавек у адным пакойчыку... Ніякіх кампутараў. Зарплата трохі больш за дапамагу па беспрацоўі. У рэшце рэшт можна і так, абы ўвогуле нас не зачынілі...

**М.Р.:** Тым не менш, "Спадчына" мае вялікі і стабільны тыраж сярод беларускіх выданняў. І не сакрэт — для адных, часопіс з'яўляецца сябрам (такіх безумоўна большасць), а для іншых — бяльмом у воку...

**В.Р.:** Пра апошніх мне сёння гаварыць навогул не хочацца. А пра сяброў-прыхільнікаў — з задавальненнем!

Мы разумеем, хто гэтыя восем-дзесяць тысячаў нашых падпісчыкаў. Гэта — нацыянальна сведамая частка грамадства, якую не запалохаеш уяўным нацыяналізмам. Для якіх слова Айчына мае рэальны і гістарычны сэнс. Гэта людзі, якія не вядуць адліку свайго ад даты нараджэння. Яны — нашчадкі полацкіх князёў, гэтак жа як і герояў дваццатага стагоддзя. Ведаеце, гады тры назад, калі яшчэ не было новых падручнікаў па гісторыі, тоўстых манаграфій, я радаваўся як дзіця, бачачы ў бібліятэках нумары "Спадчыны", зачытаныя да дзір, ці калі даведваўся, што студэнты ВНУ вывучаюць гісторыю Беларусі па "Спадчыне".

**М.Р.:** Наколькі я ведаю, "Спадчына" выходзіць пяць гадоў, а паўсюль вас віншуюць з дваццаціпяцігоддзем...

**В.Р.:** Вы закранулі прынцыповае для нашай рэдакцыі пытанне. Так, "Спадчына" ў сённяшнім выглядзе, у сённяшняй канцэпцыі выходзіць толькі пяць гадоў. Але гэты часопіс узнік не на голым месцы. Ён узнік на базе бюлетэня "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі", які выходзіў дваццаць гадоў у часы таталітарызму. Так, у ім пераважалі артыкулы пра Суворава, Леніна і да іх падобных. Але і ў тыя часы людзі, якія працавалі ў "Помніках...", знаходзілі час ад часу магчымасць прыадчыніць цьмяныя старонкі нашай пакутнай гісторыі. І калі пачалі рушыцца камуністычная ідэалогія, СССР, — з'явіліся новыя людзі, якія адчулі, што ў новых умовах можна кардынальна памяняць змест і аблічча часопіса. Пяць гадоў назад тая ж Вольга Іпатава, пісьменнік Кастусь Тарасаў, я, крыху пазней Вінцук Вячорка кінулі больш прэстыжныя пасады і лепшыя заробкі, каб стварыць якраз тое, што і маем. Дарэчы, двое з нашай рэдакцыі — адказны сакратар Зінаіда Мікішчанка і мастацкі рэдактар Уладзімір Крукоўскі, працавалі яшчэ ў "Помніках...". Так што "Спадчына" пачала сваё жыццё дваццаць пяць гадоў назад...

**М.Р.:** Тады, у восемдзесят дзевятым, першыя нумары новага часопіса сталі сенсацыйнымі. Яшчэ існавала цэнзура. І мяне, у прыватнасці, цікавіць, як тады на вокладку "Спадчыны" трапіў герб Беларускай Народнай Рэспублікі, што само па сабе здавалася немагчымым?

**В.Р.:** Нумар, які вы ўзгадалі, для ўсіх нас самы дарагі. Магчыма, з яго і распачалося публічнае шэсце па новай Беларусі "Пагоні". Так, прыходзілася пераадольваць вельмі вялікую цэнзуру, непрыязныя погляды з боку ўладаў. Але ўжо тады для нас стала прынцыповай канцэпцыя выдання: найперш друкаваць раней забароненае, зняслаўленае, растаптанае. Мы першымі вярнулі чытачу публіцыстыку Янкі Купалы 1919-1920-х гадоў, асобныя творы Ларысы Геніюш, Вацлава Ластоўскага, Аркадзя Смоліча, Язэпа Лёсіка, Адама Станкевіча, Уладзіміра Жылкі, Алеся Гаруна, Аляксандра Цвікевіча, Юркі Віцьбіча, Яна Пазьняка, Станіслава Булак-Балаховіча ды іншых. З жахам успамінаю, колькі давялося пераджыць, вяртаючы народу добрыя імёны, да прыкладу, Францішка Аляхновіча ці Аўгена Калубовіча.

Часам цэнзура прапускала гэтыя матэрыялы з-за сваёй непісьменнасці, а часам махала рукой, бо бачыла свой канец. Страшней і цяжэй іншае: кожнаму з нас перамагчы ў сабе цэнзара, стаць вышэй за ўзаконеныя гісторыкамі плёткі. Гады працы ў "Спадчыне" далі мне вельмі шмат. Я адукоўваў іншых і адукоўваўся сам.

**М.Р.:** Вы не баіцёся, што спадчына вычарпальная? І ў хуткім часе можа стацца так, што і расказваць ужо не будзе пра што. Бо то там, то тут чуеш: няма ў нас гісторыі, культуры, яна кароткая ці, увогуле, належыць ледзьве не суседнім дзяржавам. Толькі не падумайце, што я асабіста з'яўляюся прыхільнікам гэткіх думак.

**В.Р.:** Вашае пытанне надзвычай ёмістае і важкае. Па-першае: наша краіна мае тысячагадовую гісторыю. Думаю, што каб яе пазнаць, трэба не менш часу. Зазірнем, да прыкладу, у наш апошні нумар. XVIII стагоддзе на сённяшні дзень практычна недаследаванае. І вось тэатразнаўца Вацлаў Арэшка друкуе свой пераклад "Дыярыюша князя Міхала Казіміра Радзівіла". Гэта унікальны дакумент жыцця беларускага гаспадарства тае пары. Публікацыя яго зойме шмат нумароў. Тут жа даследаванні найноўшай гісторыі Беларусі. Міхал Баразна пераконвае, што і плакат эпохі таталітарызму з ягонымі ленінамі і сталінамі — "заснавальнікамі БССР" — таксама наша спадчына. Ад яе, як і ад заблытанай расстаноўкі сілаў у гады другой сусветнай вайны (Язэп Малецкі "Пад знакам "Пагоні"), не адцураешся, як бы гэта каму ні хацелася. Па-другое, вы канстатавалі думку нацыянал-нігілістаў, нібыта наша гісторыя — частка гісторыі Расіі ці Польшчы. Удакладню, з гэтымі краінамі многія старонкі нашай гісторыі, культуры сапраўды шчыльна знітаваныя. Многае са сваёй культуры мы аддалі іншым народам. Думаю, што жыццё і дзейнасць такіх асобаў, як Міцкевіч, Касцюшка, павінны вывучацца разам з палякамі. Што мы і робім у часопісе "Спадчына".

Шмат помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры знаходзіцца па-за сучаснымі межамі Беларусі. Мы не заклікаем перасоўваць межы ці ісці рабаваць. Мы марым, натуральна, пра вяртанне некаторых з помнікаў на радзіму. Але як мінімум мы расказваем пра іх нашым чытачам. Па-трэцяе, мы не толькі друкуем ненадрукаванае раней. У нас вельмі шырокае кола аўтараў — сучасных беларускіх даследчыкаў. Мы друкуем артыкулы і (а аб'ём нашага выдання дазваляе) манаграфіі. Як гэта здарылася ў нас з кнігай "Невядомая вайна", у якой таленавіты гісторык Генадзь Сагановіч распавёў праўду пра вайну з Масковіяй 1654 — 1667 гг. Нарэшце, Беларусь — еўрапейская дзяржава і мае еўрапейскую гісторыю і еўрапейскае мастацтва. Таму на нашых старонках з'яўляюцца доследы і замежных аўтараў, якія тычацца культуры ў цэлым і Беларусі ў прыватнасці. Між іншым, і на Усходзе і на Захадзе ёсць шэраг навукоўцаў (і неабавязкова беларускага паходжання), якія даследуюць нашую гісторыю. Гэта нармалёва. Мы імкнемся найбольш цікавае з гэтых доследаў надрукаваць у "Спадчыне". Прыгадаем публікацыі ангельскага вучонага Гая Пікарды ці польскіх даследчыкаў Анджэя Кэмфі, Юрыя Туронка, ці рымляніна Роберта Талучанскага і г.д. Самае галоўнае, што канцэпцыя і накірунак часопіса вызначаныя.

**М.Р.:** Часопіс выходзіць адзін раз на два месяцы, і многія чытачы з нецярплівасцю чакаюць: а што там будзе? Не маглі б Вы, калі не баіцеся канкурэнцыі, прыадчыніць таямніцу рэдакцыйнага партфеля.

**В.Р.:** І ўсё ж я не хачу пазбаўляць чытача нейкай загадкавасці. Скажу так: мы добра бачым, якімі будуць наступныя тры-пяць нумароў. Тут будзе некалькі, без перабольшання, сенсацыйных матэрыялаў, звязаных з нашымі пошукамі некаторых дакументаў. Цяпер яны ўжо ў рэдакцыі. З'явяцца новыя публікацыі з эміграцкай літаратуры. Падрыхтаваны да друку артыкулы пра выдатных дзеячаў замежнай культуры, чые імёны звязаныя з Беларуссю. Ну а адну перспектыўную публікацыю я ўсё ж назаву, бо гэта, напэўна, будзе мець вялікі рэзананс: па замове рэдакцыі Лявон Баршчэўскі робіць пераклад на беларускую мову фрагментаў незавершанай п'есы вялікага Шылера "Дзмітрый", у якой асэнсаванне цэлага пласта гісторыі Беларусі.

**М.Р.:** Шылер і Беларусь?

**В.Р.:** Так! А яшчэ Гётэ і Беларусь. У бліжэйшым нумары вы прачытаеце артыкул Віктара Скарабагатава, што ўпершыню "Фауст" быў пакладзены на музыку беларускім кампазітарам Генрыкам Антоніем Радзівілам у цесным супрацоўніцтве з самім Гётэ.

**М.Р.:** Разумею, дзеля такой праўды пра гісторыю культуры варта працаваць. Нават у такім пакойчыку. Вытрымкі вам і поспехаў, калегі-спадчынцы!

**Міхась РАВУЦКІ**

---

***Міністр культуры і друку Анатоль БУТЭВІЧ:***

# "ДЗЯРЖАВА БЕЗ КУЛЬТУРЫ — ГЭТА ЎЖО НЕ ДЗЯРЖАВА"

**— Анатоль Іванавіч, якія сёлетнія падзеі ў культурным жыцці нацыі можна назваць найбольш значнымі?**

— Думаю, што 1994 год быў для нашай культуры адметным і ў плане творчым, і, калі можна так сказаць, у плане вытворчым. Быў ён таксама адметным і са станоўчага боку, і з боку адмоўнага.

Асабіста для мяне гэты год стаўся ўваходжаннем у прафесійную сферу культуры. Як Вы ведаеце, сёлета адбыліся ажно дзве рэарганізацыі нашага міністэрства. На пачатку года Міністэрства інфармацыі ўвабрала ў сябе і Тэлерадыёкампанію, і Белінфарм, а падчас апошняй рэарганізацыі мы аб'ядналіся з Міністэрствам культуры, адасобілася Тэлерадыёкампанія, але далучыліся дзяржаўныя структуры спорту, рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, Савет па справах рэлігій. Таму ў гэтым годзе давялося пазнаёміцца з жыццём нашага мастацтва і культуры больш глыбока. Я і раней не быў па-за імі, але адна справа — бачыць артыста на сцэне, і зусім іншая — ведаць, чым ён жыве "пасля сцэны".

Беларуская культура пацвердзіла ў гэтым годзе высокую вартасць сваіх мастацкіх дасягненняў праз шматлікія фестывалі, пленэры, гастролі на бацькаўшчыне і за яе межамі. Многія нашыя артысты і гурты з поспехам удзельнічалі ў міжнародных конкурсах — у тым ліку юныя, што мяне асабліва цешыць: значыцца, беларуская культура будзе мець добры працяг. Існуе такая прымаўка:" Лес расце, пакуль у ім ёсць падлесак". Дык вось у нашым мастацтве, можна сведчыць — добры падлесак ёсць.

У гэтым годзе ў нас, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, адкрываліся новыя ўстановы культуры: Маладзёжны тэатр у Мінску, музеі К.Чорнага, М.Гарэцкага ды іншыя. З іншага боку, ішло скарачэнне культуры, перш за ўсё — яе матэрыяльнай базы. Закрываюцца клубы, бібліятэкі, кінатэатры, асабліва ў сельскай мясцовасці, і нас гэта вельмі турбуе і непакоіць, прымушае шукаць неверагодныя шляхі выйсця са становішча. Бо я разумею: кнігу сёння не кожны можа купіць, а калі ў вёсцы закрыецца бібліятэка, кнігі для многіх стануцца ўвогуле недаступнымі. У нас сёння з'явіліся гарады, і не малыя, дзе няма ніводнага кінатэатра, — у прыватнасці, Баранавічы, і мне прыкра за людзей, якія не маюць магчымасці "схадзіць у кіно". Відэапрадукцыя кіно не заменіць, тым больш што яна сёння не лепшай якасці, а беларускі фільм на відэастужцы знайсці амаль немагчыма.

Гаворка пакуль ішла пра аб'екты культуры, а ёсць яшчэ матэрыяльны аспект у жыцці саміх творцаў. Мяне з першых крокаў у аб'яднаным міністэрстве турбуе праблема, як захаваць у нашай культуры выдатных майстроў і славутыя калектывы, як дапамагчы ім пераджыць складаны гістарычны час. На жаль, пачала назірацца тэндэнцыя, калі нашыя лепшыя майстры з'язджаюць за мяжу. За апошнія тры гады толькі з філарманічных калектываў з'ехала каля 30 чалавек — і не толькі ў "далёкае замежжа", але і ў Літву, Латвію, Расію, бо там матэрыяльныя ўмовы лепшыя, чым на радзіме. Мяне турбуе, што праз развал выдатных калектываў мы страцім тое, што беларуская культура набывала дзесяцігоддзі, а мо' і стагоддзі. Аднаўляць будзе вельмі цяжка. Дзяржава без культуры — гэта ўжо не дзяржава. Без нацыянальнай культуры дзяржава не мае ўласнага твару. Таму клопат пра людзей для мяне сёння — найгалоўнейшы.

На жаль, па зарплаце сфера культуры знаходзіцца ледзь не на апошнім месцы ў дзяржаве: у кастрычніку сярэдняя зарплата складала ў нас 92 тысячы, а ў прафесійным мастацтве — 82 тысячы. Вось чаму лепшыя артысты і музыканты з'язджаюць ад нас. Я разумею, што сёння цяжка ўсёй дзяржаве, што дзе-нідзе дапамагаюць спонсары, але хачу выказаць спадзяванне, што разуменне праблем культуры, якое існуе ў Кабінеце міністраў і адміністрацыі Прэзідэнта, увасобіцца ў канкрэтныя справы.

Сёлета ўрад прыняў пастанову, паводле якой народныя мастакі, пісьменнікі, архітэктары і г.д., якія працуюць ва ўстановах культуры, атрымліваюць даплату ў памеры 5 мінімальных зарплат. Гэта не так шмат, але ж гэтых людзей, гонар і творчы патэнцыял нацыі, трэба было падтрымаць, бо некаторых абставіны ўжо выпхнулі за мяжу беднасці. Не вырашана пакуль пытанне з заслужанымі дзеячамі культуры і мастацтва: сёння яны атрымліваюць за гэтае званне 15 рублёў. Назавіце мне, што можна купіць сёння за гэтыя грошы? Я думаю, у наступным годзе ўрад здолее падтрымаць гэтых паважаных усімі намі людзей. Сёлета нам удалося зафундаваць 25 дзяржаўных стыпендый для творчай моладзі і яшчэ 25 — для стала працуючых майстроў культуры. Гэта, вядома, не шмат, але і вялікае складаецца з малога.

Падсумоўваючы адметнасці гэтага года, скажу: цешыць, што беларускае мастацтва выйшла на вельмі высокі ўзровень па кваліфікацыі, майстэрству, міжнародным прызнанні (і гэта не навагодняя пахвальба, а сапраўды так), але невырашаных праблем у нас сталася яшчэ болей.

**— Што пажадалі б Вы працаўнікам беларускай культуры ў Новым годзе?**

— Калі коратка — пажадаў бы творчасці і цярплівасці, цярплівасці і творчасці. Не заўсёды мы будзем бедныя, галоўнае — захаваць духоўнае багацце, якое мы маем сёння, і перадаць яго таму "падлеску", што наступнічае нам. Я маю на ўвазе і творчую моладзь, і моладзь увогуле. Калі нашая моладзь будзе мець высокую культуру, то многія нягоды нашага жыцця — эканамічны крызіс, злачыннасць ды іншыя — мы пераможам.

**Інтэрв'ю запісаў**
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

---

***Валянцін ТАРАС:***

# "ШАГАЛАЎСКІ ПЛЕНЭР — ДНІ ГОНАРУ КРАІНЫ"

Мінулы год застанецца ў памяці перш за ўсё Шагалаўскім пленэрам у Віцебску, хоць сам я на ім не быў, а толькі глядзеў тэлевізійную трансляцыю гэтай падзеі, менавіта п а д з е і — на маю думку, значнай у культурным жыцці Беларусі і вельмі павучальнай. Згадвалася, не магла не згадвацца ў тыя шагалаўскія дні ганебная вакханалія, узнятая вакол імя Марка Шагала напрыканцы 1987 года ў так званым партыйным друку — у нядобрай памяці "Политическом собеседнике", у рэспубліканскіх газетах, у рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, калі знялі з работы супрацоўніцу БелСЭ Ірыну Шалянкову — за тое, што падрыхтавала для чарговага тома энцыклапедыі артыкул пра Шагала як пра вялікага мастака, выдатнага сына беларускай зямлі. Лямантавалі: ён не вялікі! Ён незразумелы! Ён такі-гэтакі! А галоўнае — ён не наш! Ён нам не патрэбны са сваімі "нянасскімі" матывамі!.. Згадвалася, як даводзілася бараніць імя мастака, бараніць тую ж Ірыну Шалянкову, падпісваць разам з Васілём Быкавым, Святланай Алексіевіч, Рыгорам Барадуліным ліст у "Советскую культуру", змешчаны ў ёй у кастрычніку 1987 года, што падняло ў адказ новую, яшчэ больш брудную і бязглуздую хвалю шагалафобіі ва ўсіх "политических собеседниках" разам узятых!..

І вось "не наш" Марк Шагал склікаў на Беларусь мастакоў і дзеячаў культуры з усяго свету! І Віцебск паўстаў перад вачыма грамадскасці як горад, які некалі быў нашым Парыжам, — у тыя часы, калі ў ім жыў і працаваў Шагал. І цяпер — у 1994-м — уваскрос як той шагалаўскі Парыж, як Мекка мастакоў усёй планеты. Гэта былі дні гонару Беларусі, дні яе мастацкай славы. І якімі пігмеямі яшчэ раз паўсталі тыя крыклівыя "политические собеседники" і партыйныя "энцыклапедысты" побач з постаццю вялікага майстра!

А яшчэ гэты Шагалаўскі пленэр падараваў мне сустрэчу з сябрам пасля амаль пятнаццацігадовага расстання — з мастаком Барысам Заборавым, які напрыканцы сямідзесятых з'ехаў у сталіцу Францыі, збег ад надзьмутых партыйных бонзаў, ад мастацтвазнаўцаў у цывільным, якія ў сваёй барацьбе з рознымі "ізмамі" кіраваліся таксама "ізмам" — дзікунскім антысемітызмам камуна-фашысцкага кшталту...

Ёсць усё-ткі справядлівасць на свеце! Гістарычны час — хай сабе цяжкі і складаны — вярнуў нам Марка Шагала, вярнуў нямала іншых каштоўнасцяў культуры, імёнаў, з ёю звязаных. У тым ліку і імя Барыса Заборава — сусветна вядомага сёння мастака, народжанага Беларуссю.

Так, менавіта за той Шагалаўскі пленэр, за сустрэчу з Барысам я ўдзячны году, які адышоў у вечнасць...

МАСТЫХІН

# XX СТАГОДДЗЕ: ПОГЛЯД З БЕЛАРУСІ

***Народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка завяршыў напрыканцы года гіганцкі "Габелен веку". Сваё першае інтэрв'ю з гэтай нагоды ён і даў нашай газеце.***

**— Калізіі года Блакітнага сабакі правяралі грамадзян нашай дзяржавы на духоўную і фізічную трываласць...**

— ...І мастакі нібыта — не выключэнне. Але разам з тым для мяне гэты год быў годам напружанай творчай працы ў майстэрні. І як вынік гэтых дзён — мой "Габелен веку", завершаны літаральна месяц таму на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва. Дакладней, гэта вынік маіх шматгадовых няпростых пошукаў, сумненняў, роздумаў.

**— У Беларусі і краінах СНД Вас даўно ведаюць як таленавітага жывапісца і манументаліста. Як майстра габелена цяпер Вас згадваюць і на Захадзе, і ў Амерыцы. Ваш габелен "Чарнобыль", што вытканы для залы Эканамічнага і сацыяльнага Савета ААН, выклікаў у Нью-Ёрку сапраўдны фурор...**

— Дарэчы я быў там на прэзэнтацыі гэтага габелена. Памятаю, як тагачасны Генеральны сакратар ААН Перэс дэ Куэльер, калі ўбачыў маю працу, увесь час паўтараў: "Герніка Пікасо..."! "Герніка Пікасо...". Гэта быў сапраўдны трыумф маёй рэспублікі. Менавіта тады я зразумеў: як мастак і як грамадзянін я патрэбен Беларусі. Па просьбе памочніка дзяржсакратара ЗША мне давялося выступіць на сустрэчы. І, здаецца, выступ удала. У прысутнасці многіх палітыкаў розных краін свету і прадстаўнікоў беларускай дыяспары я заўважыў: "Эсхіл гаварыў, што мастацтва — гэта вочы нацыі. Я прывёз вам вочы маёй Беларусі і талент беларускіх ткачых. Чарнобыль — не толькі сённяшняя трагедыя. У розных, але аднолькава трагічных формах, яна была і да нас — у той жа Хірасіме... Грэшны чалавек у сваёй амбіцыёзнай гардыні, у сваім індывідуалізме можа знішчыць не толькі сваё мінулае, але і будучае". І няхай кожны, гавару я, прачытае мой "Чарнобыль" так, як падказвае яму яго сумленне, яго душэўны камертон... Менавіта там, у комплексе ААН, у атачэнні архітэктуры Ле Карбюзье і У.Харысана, упершыню і нарадзілася ідэя "Габелена веку". Я хацеў, каб Беларусь сродкамі манументальнага мастацтва заявіла пра сябе свету як вялікая і самабытная дзяржава.

**— А чаму менавіта габелен?**

— Упэўнены, што габелен як від творчасці для Беларусі вельмі арганічны і натуральны. Ён мае глыбокія нацыянальныя карані, асабліва ў арнаменце, які браў свае вытокі ў XIV — XVI стагоддзях. Мала хто па-сапраўднаму ведае, што такое беларускі геаметрычны або расліна-геаметрычны арнамент. Па сваёй прыгажосці, вытанчанасці колеру, калі хочаце — пластычнай філасофіі, ён займае ў свеце высокае месца. Не выпадкова ж мы, мастакі, за кароткі час здолелі знайсці ў сучасным габелене і новыя выяўленча-выразныя структуры, і новыя модулі, свае тэхналагічныя канцэпцыі, словам, новае разуменне гэтага віду мастацтва. Дзякуй Машэраву — ён шмат зрабіў для развіцця габелена, дапамог арганізаваць у свой час габеленавы ўчастак на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва. Ды наогул, у той "застойны" час для мастакоў рабілася многае: былі так званыя "сацыяльныя", дзяржаўныя заказы, у выніку чаго ствараліся непаўторныя манументальныя творы. Сёння ж у хаосе і разбурэнні мы фактычна дзяржаве не патрэбны, мы жывем і дыхаем выпадковымі заробкамі, прадаем за бясцэнак свае творы на Захад, каб пракарміцца. Праўда, у апошні час з'явіліся спонсары-мецэнаты культа-лту Сяргея Пракаповіча, Тамары Віннікавай, якім далёка не абыякавы лёс нашай нацыянальнай культуры. І за гэта ім вялікая ўдзячнасць, але такіх людзей пакуль яшчэ вельмі мала...

**— А цяпер — пра Ваш новы твор. Што ён з сябе ўяўляе?**

— Такога вялізнага габелена ў сусветным мастацтве да мяне ніхто не рабіў. Мяркуйце самі: памер яго — 19 метраў вышыні і 14 — шырыні, гэта значыць — 260 метраў палатна з фарбаванай авечай воўны. Агульная даўжыня ніц габелена — больш за 800 кіламетраў. Звыш года яго ткалі спачатку 9, а потым 14 высокапрафесійных ткачых, якія затрацілі амаль 270 кілаграмаў воўны.

**— Гэты твор па ўсіх параметрах варты Кнігі Гінэса... Пра што ж ён апавядае?**

— Пра XX стагоддзе. Пра стагоддзе прагрэсу, вялізных узрушэнняў і сацыяльных драм, стагоддзе прарыву ў космас і вялікіх адкрыццяў, стагоддзе пошуку ісціны: што ёсць чалавек? У габелене няма якогасьці дакументальнага рэпартажу або "праўды факта". Я б назваў гэтую кампазіцыю жанрам філасофскага эпасу. Эпоху я паказваю з нейкай сузіральнай адлегласці — з 90-х гадоў нашага стагоддзя. Гэта не столькі адлюстраванне канкрэтных падзей, колькі роздум пра адвечнае, асэнсаванне яго ў маштабе ўсёй сусветнай гісторыі, пачынаючы з гісторыі Адама і Евы ў сучаснай інтэрпрэтацыі і заканчваючы крахам камуністычных ідэалаў і распадам СССР. Ад такога філасофска-эпічнага падыходу — і своеасаблівае наслаенне часоў і сюжэтаў у драматургіі габелена, дзе спалучаюцца вобразныя сімвалы, алегорыі і метафары, знітаваныя агульнай ідэяй. У Храме Розуму галактыкі, створанага ў выглядзе каркаса старажытнага хрысціянскага крыжовакупальнага сабора, жыве сярод іншых сусветаў і наша планета. І ў душы гэтай бесцялеснай зменлівай планеты, створанай Богам, нібы генеруюцца чалавечыя справы і ідэі, канцэпцыі і пастулаты, сацыяльныя рэвалюцыі і міжканфесійныя канфлікты. А ўвесь фон пабудаваны з двух модуляў рознага маштабу. У кожным модулі — чалавечая фігура з запаленай свечкай як сімвал вечна жывой формы, клеткі жыцця.

**— Якія ж сюжэты габелена?**

— Іх мноства. Евангелічныя сюжэты, звязаныя з хрысціянствам: пад купалам, уверсе. Пантакратар — Хрыстос, які бласлаўляе, Серафім, архангелы Міхаіл і Гаўрыіл, Марыя з дзіцем. Далей — нясенне крыжа, узняцце крыжа і плакальшчыцы. Тут і Ноеў каўчэг, і Ікар, які падае з космасу. І прарок у чырвонай калясніцы вечнасці лётае па кругу планеты: з-пад колаў разлятаюцца рэшткі нашай папранай культурнай спадчыны, нашай гісторыі: спапялёныя німбы святых, кавалкі разбураных храмаў... І фігура Часу, ў вобразе рыцарападобнай істоты, які выбівае са сваіх шаляў душы грэшнікаў. І Вечнасць з крыламі, якая трымае ў руках Сонца і Месяц як сімвалы дня і ночы. Адна з цэнтральных сцэн — тайная вячэра, дзе, у маім разуменні, кожны апостал шукае сваю ісціну. У мяне адлюстравана не апошняя ноч Хрыста перад смерцю, а пошук той самай Ісціны, так і не знойдзенай чалавецтвам за тысячы гадоў. На першым плане, перад сталом — Хрыстос і Антыхрыст, вечная барацьба дабра са злом. Пасланец Сатаны Антыхрыст, прыгожы, малады, наносіць удар мячом па ўзнятай руцэ Хрыста. Але нягледзячы на грозны лацінскі надпіс на мячы "Vis vincit" (перамагае мацнейшы), меч надломваецца аб далонь Сына Божага, Богачалавека: вера мацнейшая за сілу!

**— Ну проста гіганцкі ўсяленскі спектакль...**

— ... У якім на роўных правах "іграюць" даручаныя ім ролі і гістарычныя персанажы са сваімі лёсамі, і міфалагічныя вобразы, і архітэктурныя дэталі, і колеравыя градацыі...

**— У Вашым габелене больш за 100 канкрэтных вобразаў вядомых палітыкаў, дзяржаўных і рэлігійных дзеячаў, пісьменнікаў, філосафаў, вучоных, музыкантаў, мастакоў XX стагоддзя. Штосьці неверагоднае для аднаго твора!**

— Над гэтым чалавечым пантэонам асобаў, якія зрабілі ўплыў на ход сусветнай цывілізацыі нашага стагоддзя, мне давялося цяжка папрацаваць. У іканаграфічным матэрыяле дапамаглі замежныя пасольствы, якія прадстаўляюць на Беларусі свае дзяржавы. Але і сам пакалупаўся ў бібліятэках. Бо тут не столькі канкрэтныя партрэты, але ў асноўным — завершаныя самастойныя кампазіцыі-карціны. Скажам, Біла Клінтана як сімвал сённяшніх ЗША, я адлюстраваў адвольна: ён аголены, з крыламі бяжыць на фоне амерыканскай архітэктуры; Шарль дэ Голь вядзе за руку Марыяну — маладую Францыю; Гельмут Коль, які абапіраецца на Кёльнскі сабор, у рыцарскіх латах з двума мячамі, абвітымі ружамі, сімвалізуе аб'яднанне дзвюх Германій. Лех Валенса з нацыянальным сцягам на плячы трымае ў адной руцэ бакал, другую ўзняў у пераможным прывітанні. Ёсць сюжэт з выездам у карэце каралевы Англіі Елізаветы II. Маргарэт Тэтчэр паказана ў дыялогу з яе пераемнікам — Мэйджарам. Растраповіч іграе на віяланчэлі, а са створак зламанага грыфа вылятаюць дэльфіны, на рэштках грыфа — аголеная Муза... Знайшлі ўвасабленне ў розных іпастасях вобразы Тагора і Эйнштэйна, Феліні, Шагала і Малевіча, Пікасо, Кандзінскага і Шастаковіча; Брандта і Кастра, Мао Цзэдуна і Насэра, Леніна, Сталіна, Гарбачова і Ельцына... Тут і літаратары — лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, і забітыя Гандзі, Кінг, Альендэ... Можа хтосьці і не пагодзіцца з пералікам гэтых імёнаў, але яны ў маім ўяўленні — люстэрка XX стагоддзя...





**— Ну а хто з беларусаў увайшоў у Ваш Пантэон?**

— Янка Купала, заснавальнікі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія сталі ля вытокаў Беларускай народнай рэспублікі, браты Антон і Іван Луцкевічы, а таксама першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка...

**— Цяжка ўявіць сабе тыя сотні, тысячы замалёвак, накідаў, эскізаў... Аднаму чалавеку нават тэхнічна стварыць гэта немагчыма. Хто дапамагаў Вам?**

— Мой бліжэйшы памочнік і таленавіты мастак Тамара Кіршына. Яна , як кажуць, не разгіналася, даводзячы эскізы да ладу, увасабляючы іх у памер арыгінала. Кіраўнік галерэі "Штандарт" Марына Дзлун здабывала банкаўскія крэдыты пад эскіз, картон і выкананне габелена ў натуры, ды наогул яна мой менеджэр, здольны арганізатар усёй работы. Дапамагалі мне і студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў. Ну а без барысаўскіх ткачых габелена не было б наогул...

**— Цікава, які лёс наканаваны гэтаму унікальнаму твору?**

— Пытанне найскладанае. Па маіх звестках, некаторыя замежныя дзяржавы хацелі б мець гэты габелен у сябе, валодаць ім. Але мая мара, каб ён застаўся на Беларусі. Гэтай думкі, дарэчы, прытрымліваецца і Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, з якім я не так даўно сустракаўся і гутарыў. Разумею, грошай у дзяржавы на сённяшні дзень бадай што няма... Што будзе далей — пакуль не ведаю. Габелен такога маштабу, на мой погляд, павінен мець спецыяльнае збудаванне. Там магла б быць, скажам, рытуальная зала з гэтым габеленам, вітражамі, нацыянальнымі атрыбутамі, можа — і з Бібліяй Скарыны. Тут пад гукі старажытнай беларускай музыкі можна было б прымаць гасцей самага высокага ўзроўню. Ёсць пакуль тэарэтычны варыянт: размясціць падобны комплекс для ўрачыстых рытуалаў у Палацы Рэспублікі. Урэшце ўсё будзе залежаць ад таго, ці выдаткуе сродкі дзяржава, або ад жадання і магчымасці спонсараў...

**— Аляксандр Міхайлавіч, а ці будзе далей развівацца мастацтва габелена? Не сакрэт: дасюль на Беларусі няма нават майстэрні па выхаванні прафесійных кадраў мастакоў-габеленшчыкаў.**

— Праблема надта сур'ёзная. Я ўжо даўно думаю пра гэта. Ну проста як паветра нам патрэбна такая майстэрня! У Мінску існуюць акадэмічныя майстэрні Міхася Савіцкага — па жывапісе, Заіра Азгура — скульптурная, Георгія Паплаўскага — графічная. Але майстэрні па габелену дасюль няма. А чаму б, зрэшты, не надаць маёй творчай майстэрні адпаведны статус? Я мог бы ўзначаліць яе і набіраць з ліку таленавітых выхаванцаў мастацкіх навучальных установаў маладых людзей і, скажам, на працягу трох гадоў вучыць іх прафесіі. Яны б выходзілі з майстэрні з адпаведным дыпломам, які даваў бы ім права працаваць не толькі на Беларусі, але і за мяжой. Ды для гэтага, дарэчы, многага і не патрабуецца: талент, невялікі ткацкі станок, ніткі, воўна. Гэта былі б своеасаблівыя маленькія ткацкія філіі, габеленавыя майстэрні. Напрыклад, пры Беларускім цэнтры культуры ў Хертэне (Германія), дзе мне нядаўна давялося пабываць. Упэўнены, што праца маіх вучняў акупілася б з лішкам. Я не кажу ўжо пра тое, што слава нашай Айчыны як незалежнай і таленавітай дзяржавы памнажылася б...

**— Жадаю, Аляксандр Міхайлавіч, каб мары Вашы спраўдзіліся. З надыходзячым Новым годам!**

Гутарыў Барыс КРЭПАК

*На здымках:* Аляксандр Кішчанка і эскіз яго нага габелена.




цэнтар
эўрапейскіх досьледаў
і культурных ініцыатываў




Пад дахам Скарынаўскага цэнтру нядаўна распачаў сваю дзейнасьць "ЭЎРОФОРУМ" (Цэнтар эўрапейскіх досьледаў і культурных ініцыятываў). Дваццаты выпуск "ЗНО" ў нейкім сэнсе прэзэнтуе гэтую новую арганізацыю, бо прадстаўленыя тут матар'ялы запачаткоўваюць вэктары інтэлектуальных "інтэрвэнцый" "ЭЎРОФОРУМУ", да таго ж усе тэксты сшытка (за выключэньнем перакладаў Яна Чыквіна) падрыхтаваныя тымі, хто браў чынны ўдзел у першых яго паседжаньнях ды сэмінарах.

Стратэгічная задача, на якой засяроджваецца пераважная большасьць ініцыятываў "ЭЎРОФОРУМУ", — гэта праблема Сярэдне-Усходняй Эўропы, як уласна беларуская праблема. Прынамсі, так, мне здаецца, яе можна сфармуляваць, каб падкрэсьліць актуальнасьць наяўных азначэньняў Сярэдне-Усходняй Эўропы для азначэньняў наяўнасьці Беларусі.

Зрэшты, хаця падобнае меркаваньне (аб актуальнасьці для нас актуаліяў Сярэдне-Усходняй Эўропы) і дамінуе ў найпершых "мэтах і задачах" "ЭЎРОФОРУМУ", але толькі культуралягічныя практыкі беларускага інтэлектуалізму змогуць пацьвердзіць (ці абвергнуць) сапраўдную вартасьць гэтага меркаваньня...

Дзеля апошняга, як бачыцца, і быў сфармаваны праект "ЭЎРОФОРУМУ".

**В.А.**

# ДРУГАЯ ЭЎРОПА — КУЛЬТУРЫ ЦЕНЮ

## (фрагмэнты дыскусіі)

**Ігар Бабкоў:**

— Я хацеў бы пачаць сваё выступленьне з аднае ідэі, з цытаты, пакуль не ўдакладняючы ані аўтара, ані часу яе нараджэньня:

"...Моц знака (больш дакладна — знакавай сыстэмы) — залежыць не ад ягонай паўнаты (наяўнасьці азначанага й азначальніка ў завершаным выглядзе), не ад ягоных, так бы мовіць, каранёў, але перш за ўсё ад тых сувязяў, што знак падтрымоўвае са сваімі суседзямі (рэальнымі альбо патэнцыйнымі), ад таго, што можна назваць ягоным навакольлем."

Я думаю, што гэтая цытата ідэальна акрэсьлівае ўзаемаадносіны беларускай культуры і ейнага магчымага Сярэдне-Усходнеэўрапейскага кантэксту. Асабліва істотнымі мне падаюцца першыя словы — "моц знаку", бо разглядаючы Беларусь як адну са знакавых прастораў, мы разумеем, што праблема кантэксту — гэта ня толькі праблема абмену, дыялёгу, уплываў, але й праблема ўкаранёнасьці самога знаку, таму што культура ўкаранёная ня столькі ў глыбіню, у "рэчы", як у іншыя культуры, у свае магчымыя кантэксты.

Канешне, нельга сказаць, што Беларусь увесь гэты час была няўважлівая да свайго навакольля. Але вокны, праз якія гэтае наваколле аглядалася, былі расчыненыя пераважна на Усход, — і гэта стварыла пэўны культурны (сэміятычны) дысбалянс, які рэальна пагражае істотнасьці самой культуры. Таму памкненьне ўкараніцца ў Сярэдне-Усходнюю Эўропу, акрамя культуралягічных і мэтафізычных (?) матывацыяў, мае яшчэ абсалютна практычную мэту ўзнаўленьня раўнавагі й балянсу ўплываў усярэдзіне беларускай культуры.

Што ж за наваколле, што за ляндшафт бачны беларускаму воку, якія меткі мы можам расставіць для сябе ў гэтай прасторы — Сярэдне-Усходняя Эўропа?

Зноў жа, я хацеў бы пачаць зь дзьвюх ідэяў, ужо сфармуляваных і абгавораных, праінтэрпрэтаваных і аспрэчаных. Адна зь іх належыць Мілану Кундэру, другая — Чэславу Мілашу, так бы мовіць, двум культурным героям гэтага рэгіёну.

У свой час Мілан Кундэра прапанаваў вельмі цікавы інтэлектуальны ход. Усе каланізацыі і заваёвы з Усходу, — і асабліва маўклівую згоду Захаду з гэтымі каланізацыямі й заваёвамі, — ён расцаніў як пэўную інтэлектуальную здраду заходняе культуры, якая прывяла да адмежаваньня і, у пэўным сэнсе, да абсячэньня вельмі істотнае часткі агульнае, адзінае Эўропы. Тое, што засталося, — уласна заходнеэўрапейская культура, — можа лічыць сябе ўцэнтраванай, цэльнай, са сваёй уласнай традыцыяй, але, тым ня менш, паводле Кундэры, яна абсечаная і пазбаўленая сваёй надзвычай істотнай часткі. Такім чынам, ідэя Сярэдняе Эўропы — гэта амаль што мэсіянская ідэя вяртаньня заходняй культуры яе страчанай паловы. Гэта значыць, што сутнасьць не ў хуткай вэстэрнізацыі альбо ў некрытычных пазычэньнях пэўных заходніх мадэляў, сутнасьць ва ўзаемнай сустрэчы дзьвюх частак, зь якой мусіць паўстаць страчаная агульнасьць.

Ідэя Чэслава Мілаша была больш інструментальнай. Ён прапанаваў у якасьці крытэрыя Сярэдняе Эўропы "запозьненае" гарадзкое барока. Натуральна, што Вільня была крыніцай ягонага натхненьня. Там, дзе мы можам назіраць усходнеэўрапейскае (віленскае) барока, там і знаходзяцца межы гэтага рэгіёну. Праўда, потым ён ужо не прыгадваў гэты крытэрый і ў апошніх сваіх "прадмовах" — улюбёным жанры — ён піша аб пэўнай пустотнасьці гэтае прасторы, пры якой хіба не найбольшая яе асаблівасьць — адсутнасьць усялякае сталіцы і ўсялякага цэнтру, усялякае стрыжнявое ідэі, альбо цэнтральнага, галоўнага наратыву, што зрэшты таксама можна праінтэрпрэтаваць як "сытуацыю барока".

Што тычыцца маіх уласных развагаў, — дык мяне зацікавіў сам момант паўставаньня гэтага макрарэгіёну, які, мне здаецца, супадае з момантам фіксацыі ў агульнаэўрапейскае сьвядомасьці гэтае мяжы: усход і захад Эўропы. І што цікава - у 16 стагодзьдзі мы яшчэ не назіраем гэтае мяжы. На той час Эўропа існавала як агульнае цэлае і матрыцай, што яднала гэтыя прасторы, былі (паводле Норбэрта Эліяса) куртуазнае грамадзтва і хрысьціянская цывілізацыя. Менавіта гэтыя два крытэрыі, узятыя разам, — дастаткова дакладна акрэсьліваюць прастору агульнае Эўропы.

Але потым адбываецца досыць дзіўная рэч. Пасьля тэхналягічных і эканамічных мутацыяў 17 стагодзьдзя зьяўляецца група дзяржаваў — эканамічных і тэхналягічных лідэраў, якія паступова ператвараюць рэшту Эўропы, а потым і ўвесь сьвет, — у сваю пэрыфэрыю.

Далей пачынаюцца гульні "вялікіх дзяржаваў" і расейскае імпэрыі. Менавіта ў гэты момант у сьвядомасьці эўрапейцаў паўстае гэты разлом, — і тэрыторыі паміж Вялікімі дзяржавамі і імпэрыяй пачынаюць разглядацца як нічыйныя, як прастора патэнцыйнае каланізацыі, падзелаў і далучэньняў.

Па сутнасьці, менавіта адсюль бярэцца пачатак пэўнае саматоеснасьці, — як несамадастатковае, няпоўнае прасторы, якая дзеля паўнаты абавязкова мусіць быць далучаная, — да Захаду альбо да Усходу. І адсюль азначэньне *ўсходнеэўрапейскі* набывае пэўныя канатацыі другаснасьці й нявартасьці.

Мне здаецца, што гэтым тлумачыцца як разлом агульнае Эўропы, так і адсутнасьць цэнтру, аб чым казаў Мілаш. Бо цэнтар не пасьпеў паўстаць у тыя часы, калі сама ідэя цэнтру яшчэ мела нейкую вартасьць — у часы Новае Эўропы...

Цяпер я зноў бы хацеў вярнуцца да Кундэры, але ўжо падмацаваўшы ягоныя думкі аўтарытэтам Жыгімонта Фройда. Рэч у тым, што сытуацыя зь дзьвюма часткамі Эўропы, якія калісьці былі адзінай часткай, і з гэтым сюжэтам разлому, здрады і каланізацыі — прагне быць праінтэрпрэтаванай у псыхааналітычных тэрмінах. Бо надта ўжо гэтыя тэрыторыі ці, больш дакладна, — іхні культурны зьмест, нагадваюць фройдаўскае выцесьненае — г.зн. тое, што выцясьняецца з узроўню сьвядомасьці і сьвядома-несьвядома забываецца. Гэта ня значыць, што яно не існуе, — сьмешна адмаўляць існаваньне Усходняе Эўропы. Але яно пераходзіць у культурную падсьвядомасьць, не трапляе ў агульнаэўрапейскі наратыў. І, калі далей працягваць ужо ў юнгаўскіх тэрмінах, яно падобнае да "ценю" — альтэрнатыўнага "Я" чалавека, да якога абавязкова трэба зьвяртацца дзеля аднаўленьня ўласнае цэльнасьці. У гэтым сэнсе ідэя Кундэры, што вяртаньне да Эўропы ня ёсьць бяздумнай вэстэрнізацыяй, а хутчэй узаемапрызнаньнем і дыялёгам — сапраўды адпавядае рэальнай сытуацыі і можа быць пакладзеная ў падмурак усіх магчымых усходнеэўрапейскіх праектаў.

І што яшчэ хацелася б адзначыць напрыканцы — сёньняшнія зьмены ў Эўропе ёсьць сапраўдным канцом гэтай ганебнай каланійнай саматоеснасьці і, у пэўным сэнсе, пачаткам новай эпохі, — эпохі самарэфлексіі, эпохі мадэрнісцкіх праектаў, фармаваньня агульнага мэтанаратыву і агульнага культурнага канону.

**Алесь Анціпенка:**

— Мне падаецца, што варта ня толькі пазначыць, але й далей прадумаць тэзу аб другаснасьці краінаў гэтага рэгіёну. Гэта вельмі цікавы момант, бо калі мы пагледзім крыху ў гісторыю, мы пабачым, што гэтыя краіны альбо былыя калёніі (Заходняе Эўропы й Расеі), альбо правінцыі гэтых калёніяў, як гэта было ў выпадку Беларусі й Польшчы. Да таго ж гэта краіны са значна больш слабой культурнай традыцыяй і са значна больш позна зрэалізаванай ідэяй дзяржаўнасьці. Дадамо яшчэ шматлікія этна-культурна- філялягічныя праблемы...

Што тычыцца псыхааналітычных інтэрпрэтацыяў, дык само існаваньне гэтых краінаў і гэтых культураў чамусьці ўспрымаецца як ганьба нашымі ўсходнімі і заходнімі суседзямі. Ім так хочацца быць і выглядаць вялікімі культурамі, — а само існаваньне Усходняе Эўропы пабудавана на іншым прынцыпе: не вялікія культуры, а розныя культуры, — і менавіта гэты прынцып рознасьці відавочна перамагае ў сёньняшняй Эўропе...

**Валянцін Акудовіч:**

— Што тычыцца праблемы, дзе мы знаходзімся, дык я хацеў бы паставіць пад сумніў наяўнасьць самой праблемы. Сп. Мальдзіс паведаміў, што на канфэрэнцыі ў Кракаве яны доўга дыскутавалі аб межах Сярэдне-Усходняй Эўропы й так не прыйшлі да пэўнай высновы. У мяне ж такое адчуваньне, што ўжо ніхто й ніколі ня прыйдзе ў гэтым пытаньні да пэўнай высновы. Бо верагодна, што часы геаграфічнай тэрміналёгіі даўно мінулі. Можа, мая тэза выглядае крыху авантурна, але мне здаецца, што геаграфічна-прасторавае мысьленьне (рэлікт эры лёгацэнтрызму), якое так шмат значыла для эўрапейскага чалавека з часу Калюмбавых адкрыцьцяў, — сёньня проста неактуальна. Раней у цэнтры заўсёды мусіла быць нешта: бог, эвалюцыянізм, гісторыя — што заўгодна — і натуральна, мусіла быць пэрыфэрыя, і заўсёды была мяжа. Гэтыя тры складнікі (цэнтар, пэрыфэрыя й мяжа) вызначалі ня толькі мысьленьне, але й жыцьцё й цывілізацыю. Паколькі я спрабую мысьліць (і існаваць) не лёгацэнтрычна, а дыскурсыўна, дык для мяне прастора сутнасна перамяніла свае значэньні. Калі ў часы геаграфічных адкрыцьцяў прастора была тым, што разьмяжоўвае, і яна поўнілася знакамі разьмежаваньня — Эўропа, Амэрыка, Усходняя, Сярэдняя Эўропа, — то сёньня прастора так насычаная камунікацыйнымі сродкамі, што яна ўжо не разьмяжоўвае, а зьбівае, яднае ўсіх. Прастора ўжо сама ператварылася ў суцэльны камунікацыўны сродак.

Сёньня прасторавыя знакі, што засталіся нам у спадчыну, ужо не высьвятляюць сутнасьць таго, дзе мы знаходзімся. Як у культуралягічным, так і ў дыскурсыўным пляне. Яны толькі ўсё блытаюць...

**Кшыштаф ЧЫЖЭЎСКІ:**

Шмат часу ўжо не пакідае мяне ўпэўненасьць, што ўсё тое, што тычыцца нашае сытуацыі ў Сярэдняй і Усходняй Эўропе, аб чым дыскутуюць нашыя інтэлектуалы ў мас-мэдыях і на розных канфэрэнцыях, нагадвае стаячую ваду, якая даўна ня мае аніякага выйсьця...

Першае, што зьбіраюся зрабіць — гэта рэестар анахранізмаў, рэестар, які мяне самога пужае: анахранічнай ёсьць дыскусія пра стэрэатыпы, скаргі на нацыяналізм, разьдзіманьне праблемаў нацыянальных меншасьцяў, разварушваньне размаітых мітаў "крэсаў" і "айчызнаў", нацыянальных ранаў і суседзкіх крыўдаў, анахранічным ёсьць само пытаньне: ці існуе Сярэдняя Эўропа, ці не існуе? Усё гэта анахранічна, тут і цяпер, у Сярэдняй Эўропе. Чаму?

**Алесь Анціпенка:**

— Вельмі спрэчная пазыцыя. І спрэчная ў інтэнсыфікацыі тэзы, якую выказаў сп.Акудовіч. Сапраўды, з 19 стагодзьдзя па-

# ДРУГАЯ ЭЎРОПА — КУЛЬТУРЫ ЦЕНЮ

### (фрагмэнты дыскусіі)

*(Заканчэньне. Пачатак на стар. 5)*

радыгма мысьленьня зьмянілася, мы разьвіталіся зь філязофскімі сыстэмамі, зь ілюзіямі цэнтру, зь лёгацэнтрычным мысьленьнем. Але гэта зусім ня значыць, што адмененая сама прастора са сваімі знакамі і спосабамі арыентацыі ў ёй. Прастора стала істотнай, у ёй няма сёньня далёкага й нязначнага: усё істотна і ўсё можа стацца цэнтрам. Бо цэнтар рухомы...

**Аляксей Крукоўскі:**

— Мне хочацца зьвярнуць увагу на тое, як паўставала Эўропа пасьля таго, як яна зьнікла напачатку Рэнэсансу. Мы казалі ўжо, што адным з эмпірычных фактараў ёсьць помнікі эпохі барока. Гэтыя помнікі зьвязаныя зь дзейнасьцю езуітаў, зь езуіцкай тэхналёгіяй, і ў гэтым сэнсе пабудова новай Эўропы зьвязаная для мяне з тымі новымі тэхналёгіямі ўсталяваньня асобы, якія яны прапанавалі на руінах як каталіцкай (да рэфармацыі), так і праваслаўнай традыцыі. Тут мы бачым пэўную калізію паміж традыцыяй уласна хрысьціянскай і гнастычнай. У гнастычнай традыцыі, для якой статус асобы зусім не відавочны і неўдакладнены, існуе два варыянты існаваньня асобы. Першы — гэта жорсткая аскеза цела, другі, наадварот, адпусканьне цела на волю. Усходняя і Сярэдняя Эўропа адрозьніваецца ад Заходняй тым, што кантроль над целам у ёй не такі ўсталяваны, як у Заходняй. Прыгадаем, як Ларыса Геніюш, якая была закаханая ў Чэхію, апісвае пасьляваенныя часы як часы амаль містэрыяльнай нянавісьці чэхаў да немцаў. І гэта адзін з самых талерантных народаў. Вядома, гэта можна патлумачыць палітычна, але мэтафізычны аспэкт — гэта якраз "адпусканьне цела на волю", калектыўнага цела, вядома...

Для Беларусі гэта амаль тыповая сытуацыя. "Калектыўнае цела" не зазнала аніякай аскезы, аніякага кшталту. Яно з самага пачатку адпушчанае на волю і робіць немаведама што. У гэткай сытуацыі тыповыя паводзіны беларускага інтэлектуала — бясконцая самарэфлексія: а ці ёсьць увогуле Беларусь ды што яна такое... Для мяне выйсьце — у хрысьціянскай тэалёгіі кантролю над целам і над інтэлектам... пры пазначэньні пэўных вольных ад кантролю прастораў — эканоміка й прыватнае жыцьцё асобы.

**Алег Дзярновіч:**

— Рэч у тым, што фэномэн Сярэдне-Усходняе Эўропы сапраўды гістарычны і, можна сказаць, ідэалягічны праект. У 15 — 16 стагодзьдзях ім займаліся Ягелоны, а калі іхнія спробы скончыліся нічым, — Габсбургі. Урэшце панэўрапейскую манархію стварыць не атрымалася, а тыя, хто ўсё ж такі ўпарціліся, апынуліся ў геапалітычнай ізаляцыі, як ВКЛ. Сёньня адзінае, што сапраўды яднае тыя краіны — гэта памяць аб былой залежнасьці ад Расеі. Але гэта не надоўга. Таму мы мусім канструяваць наш рэгіён наноў. І нават калі Беларусі на бліжэйшыя гады наканавана быць эканамічным і палітычным сатэлітам Расеі, — мы мусім спраўджваць гэтую ідэю як альтэрнатыўную магчымасьць, якая для культуры, магчыма, будзе не альтэрнатыўнай, а цэнтральнай.

**Іван Чарота:**

— У Рамэна Раляна была такая фраза ці, хутчэй, зварот: "Эўропа! Пашырся альбо згінь!" Гэта вельмі актуальна для цяперашняй Эўропы. Між тым, усе нашыя размовы ішлі ў рэчышчы, якое вызначалася пазыцыямі Кундэры і Мілаша. Гэта значыць, што мы бачым сваё месца ў "другой", "іншай" Эўропе. Што вельмі небясьпечна. Згадваюцца словы аднаго швэдзкага знаёмага, які сказаў: "Мне лягчэй было б пайсьці пешкі да месяца, чым узяцца чытаць кніжку аднаго славянскага клясыка". Тут ужо паўстае нешта аксыялягічнае, шкала вартасьцяў — "другі", а па аналёгіі далей і "трэці" сьвет... Калі мы кажам аб вяртаньні страчанай паловы Эўропы (згодна Кундэры), то адразу паўстае яшчэ адно пытаньне: а ці хоча сама Эўропа ўзяць гэтую палову? А калі ня хоча, дык што?..

*У дыскусіі "ЭЎРОФОРУМУ" бралі ўдзел Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Алег Дзярновіч, Віталь Зайка, Алесь Істомін, Аляксей Крукоўскі, Адам Мальдзіс, Валерка Булгакаў, Іван Чарота.*

Ірына ШАБЛОЎСКАЯ

# ДЫСЫДЭНЦТВА ЯК ЛІТАРАТУРНЫ ФЭНОМЭН



На Беларусі слова дысыдэнт зьявілася зусім нядаўна, ці ня ў кнізе Уліцёнка з трапнай назвай "Іншадумцы". Гэта беларускае слова, бадай, яскрава перадае сутнасьць фэномэну, які ахапіў большасьць краін сьвету, пазначыў XX стагодзьдзе і набыў асэнсаваньне ў многіх досьледах. Дысыдэнцтва спадарожнічала цывілізацыі здаўна, але на розных этапах яе разьвіцьця прымала розныя выявы. Дысыдэнцтва — гэта як бы другі бок посттаталітарызму. Другі твар, глыбока схаваны таталітарнымі рэжымамі. Схаваны ў турмах, спэцсховішчах.

Ня ўсе, відаць, блізка сутыкнуліся са спэцсховішчамі савецкіх бібліятэк. А пра гэта варта напісаць навуковае дасьледаваньне. Чаму, напрыклад, у іх апынуліся некаторыя кнігі? Галаву зламаеш, не спасьцігнеш лёгіку забарон і перасьцярог. Вось я выцягваю шуфлядачку ў замежным аддзеле і бачу найменьні, якія мяне цікавяць. Хачу заказаць, але супрацоўніца папярэджвае: калі картка пазначана чырвонай зорачкай, кніга у спэцсховішчы. Кнігу выдаваць забаронена. Патрэбны асобы дазвол ад асобых інстанцый. У выніку, напрыклад, я, спэцыяліст па чэскай літаратуры, не магла чытаць Шкворэцкага, Грабала, Івана Кліму, Людвіка Вацуліка, Гавэла, многія літаратуразнаўчыя працы. Нават дзіцячыя кніжкі падпадалі пад забарону.

Дысыдэнцтва ў літаратуры, мабыць, пачалося вельмі даўно. Мо з узьнікненьнем самой літаратуры. Пісьменьнік, калі ён думаньнік і вольны чалавек, які мае права жыць сваім розумам, — заўсёды дысыдэнт, а мастацкая літаратура, як усё мастацтва — дысыдэнцтва. Як часьціна гуманітарнай культуры яна ратуе элітарнасьць, духоўнасьць і свабоду. І перадусім — Асобу. Чалавечае жыцьцё. Яго душу. Пра гэта бліскуча напісаў Вацлаў Гавэл. Прэзыдэнт Чэхіі, пісьменьнік і вядомы ў Эўропе абаронца правоў чалавека, вызначае дысыдэнцтва як пратэст асобы супроць таталітарызму, як немагчымасьць асобы жыць у ілжы. Аналізу дысыдэнцтва Вацлаў Гавэл прысьвяціў эсэ "Моц бязмоцных", грунтоўнае навуковае дасьледаваньне палітычнай сыстэмы, якая непазьбежна спараджае дысыдэнцтва. "Моц бязмоцных" напісана як мастацкі твор: у аснове яго сюжэту — паралель камуністычнай дзяржавы з крамай "садавіна-гародніна", дзе вітрыну ўпрыгожвае лёзунг "Пралетарыі ўсіх краін яднайцеся". Чаму ён тут — побач з морквай і гарбузамі? — пытаецца аўтар і нясьпешна аналізуе крок за крокам мэханізмы ўлады, што прызначаны пасьці асобу, агарадзіць ёй дзялянку і пільна сачыць, каб яна ня выбегла з-за плоту.

Дзякаваць Богу, тыя малыя, хто сёньня немаўля, магчыма, ніколі ў жыцьці не сутыкнуцца з тым, што іх бацькі, мае суайчыньнікі старэйшага ўзросту, зьведалі як адзіна дазволеную норму. Мы яшчэ не забыліся на вітрыны розных крамаў, дзе абавязкова чырванелі ідэалягічныя заклікі — і ў будзённыя дні, і асабліва ў перадсьвяточныя. Няцяжка было і спалохацца ў прыцемках гэтага ідэалягічнага эксгібіцыянізму. На самой справе, як пераконвае эсэ Гавэла, гэта не хвароба, а самаабслугоўваньне і самазабесьпячэньне сыстэмай сваёй улады на тым этапе, калі "клопат аб сваёй уласнай тэарэтычнай канцэпцыі пераўышае клопат аб канкрэтным чалавечым жыцьці: у гэтым і крыецца патэнцыяльная небясьпечнасьць новага паняволеньня чалавека".

Чэская літаратура пераконвае ў гэтым. Пачынаючы са старажытнасьці, яна адстойвала родную мову і культуру і выпрацавала на працягу стагодзьдзяў свой асаблівы сярэднеэўрапейскі тып іроніі (знакамітая зь сярэднявечча праская іронія), адметны характэрны стыль паводзін і побыту, сумаўленьня за куфлям піва. Тыповы нацыянальны гумар і стыль паводзін, які трапна азначае слова "швэйкаваць". Гэта дысыдэнцтва на ўзроўні, так бы мовіць, паводзін і асабістага жыцьця асобы, яе выйсьце да "жыцьця ў праўдзе". У самыя змрочныя часы рэакцыі, "закручваньня гайкаў" альбо "моцнай рукі" (як ні назавем, а сутнасьць адна — уціск на асобу), калі дысыдэнцтва ў літаратуры, прынамсі, на ўзроўні мовы, слова, перасьледуецца цэнзурай і заганяецца ў самавыдат, швэйкаваньне — адзінае, што дае асобе магчымасьць пачувацца незалежнай на ўзроўні паводзін. Тады выпрацоўваецца асаблівая эзопава мова, як казалі раней, альбо свая знакавая сыстэма, як бы вызначылі сёньня. Паводзіны Швэйка, на маю думку, плённа разглядзець як адмысловы сэміятычны код. Такія паводзіны асобы выслабаняюць энэргію душы, патрабуюць руху, нездарма ўсё гэта звычайна знаходзіла выйсьце ў карнавалах, фэстах. І не выпадкова гэтыя натуральныя для чалавека формы сьвятаў былі забаронены пры сацыялізьме, балазе заменены дэманстрацыямі зь іх рэглямэнтаваным тыпам паводзін, распрацаваным і зацьверджаным у адпаведных інстанцыях уладнай пірамiды.

Апошняя чвэрць стагодзьдзя ўвойдзе ў гісторыю чэскай літаратуры пад знакам дысыдэнцтва. Да яго спрычыніліся ня толькі тыя пісьменьнікі, хто займаўся актыўнай палітычнай дзейнасьцю ў самой краіне, як Вацлаў Гавэл, Людвіг Вацулік, але і тыя, хто ня ўмешваўся ў палітыку і хацеў застацца апалітычным, як Багуміл Грабал. Мелі дачыненьне да дысыдэнцтва і пісьменьнікі эміграцыі. Сярод іх Мілан Кундэра, за якім трывала замацавалася слава моднага парыскага бэлетрыста, і Ёзаф Шкворацкі, які стварыў у Таронта (Канада) выдавецтва, у назьве якога "68 pablisher" адлюстраваўся галоўны напрамак — прапаганда забароненай на радзіме літаратуры, мастацкай і навуковай. Як бачым, дыяпазон дысыдэнцтва даволі шырокі. І ўсё ж такі, відаць, палітычная аснова тут вызначальная. Калі кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі была ў асноўным выканана пралетарыятам, хоць і задумана інтэлігенцыяй, то аксамітная чэская рэвалюцыя — цалкам дзея інтэлігенцыі, перадусім інтэлігенцыі творчай, студэнцтва. Праўда, яе сувязі з народам маюць своеасаблівы характар. Я б назвала творчай інтэлігенцыяй увесь чэскі народ: шафёраў, якія апантана сьпяваюць народныя чэскія песьні, піваварaў, якія вараць знакамітае чэскае піва, афіцыянтаў, якія б'юцца аб заклад і спрачаюцца, на якім воку ў Жыжкі была павязка і хто памыляўся: гісторык ці скульптар, фіксуючы біяграфічныя асаблівасьці нацыянальнага героя. Усіх, хто робіць справу нацыянальнага самасьцьвярджэньня самааддана, апантана і non stop. Хто жыве з патрыятычнай ідэяй,

*Мілан Кундэра — сёньня адзін з самых знакамітых пісьменьнікаў Эўропы. Чэх па паходжаньні, з 1978 году жыве ў сталіцы Францыі, у славутым парыскім квартале Мантпарнас. Эміграваў пасьля падзей 1967-1968 гадоў у Празе, пасьля крушэньня Праскай вясны. З 1981 году ён грамадзянін Францыі. Кундэра зьяўляецца ляўрэатам шэрагу літаратурных прэмій. Эўрапейская крытыка вельмі высока ацэньвае творчасьць пісьменьніка, аўтара раманаў "Жарт", "Сьмешныя любові" (толькі гэтыя дзьве кнігі аўтару ўдалося выдаць на сваёй радзіме), "Жыцьцё ў іншым месцы", "Вальсік на разьвітаньне", "Кніга сьмеху і забыцьця", "Невыносная лёгкасьць быцьця", "Несьмяротнасьць". У заходнеэўрапейскай літаратуры Кундэра вядомы перш за ўсё як раманіст, але мала хто ведае, што пачынаў ён як перакладчык, быў аўтарам дзьвюх пасьпяховых тэатральных п'есаў, выдаў 3 кнігі паэзіі, вывучаў музычную кампазыцыю ў вядомага чэскага музыказнаўцы Капрала. Магчыма, усё гэта было забыта з поўным правам, таму што было толькі прэлюдыяй, а ўласны цэнтар цяжару творчасьці Кундэры пакладаецца на мастацтва раману, аб якім у 1986 годзе пісьменьнік выдаў у Парыжы тэарэтычную працу з такой жа назвай: "Мастацтва раману".*

*Раманы Кундэры — гэта цудоўны фэномэн, таму што яны ўвабралі ў сябе і рысы масавай літаратуры, і філязафізм інтэлектуалізаванай працы. Кундэра піша ў сваіх кнігах аб каханьні і здрадзе, аб філязофіі Ніцшэ і Пармэніда, аб падзеях у Чэхіі пасьля ўваходу ў Прагу савецкіх танкаў, аб таталітарнай сыстэме, свабодзе асобы і думках сабакі па мянушцы Карэнін. Раманы пісьменьніка — гэта сынтэз палітыкі, псыхалёгіі, філязофіі і прыгожага эратызму.*

*Спадзяемся, што чытачом будзе цікава пазнаёміцца з апавяданьнем Кундэры і асобнымі ўрыўкамі зь "Несьмяротнасьці", якія даюць уяўленьне і аб бэлетрыстычнасьці, і аб філязафічнасьці гэтага аўтара.*

**Перакладчык**

# Мілан КУНДЭРА



## ФАЛЬШЫВЫ АЎТАСТОП

### 1

Стрэлка на паказальніку паліва апусьцілася да нуля і малады кіроўца двухмясцовага ўласнага аўтамабіля заўважыў, што проста прыкра, колькі гэтае аўта жарэ."Толькі б мы зноў не засталіся без бэнзыну", — сказала дзяўчына (амаль дваццаці двух гадоў) і нагадала вадзіцелю некалькі месцаў на мапе, дзе зь ім такое ўжо здаралася. Хлапец адказаў, што ня трэба клапаціцца, таму што ўсё перажытае з гэтым аўто мае для яго прывабнасьць прыгоды. Дзяўчына пярэчыла; калі ім не хапала бэнзыну, заўжды гэта было авантурай адно для яе, таму што хлапец хаваўся і яна павінна была злоўжываць сваёй прывабнасьцю: спыняць машыну, прасіць адвезьці сябе да бліжэйшай запраўкі, зноў спыняць машыну і вяртацца з каністрай назад. Хлапец запытаўся ў дзяўчыны, ці здаваліся ёй такімі непрыемнымі ўсе тыя кіроўцы, якія яе везьлі, бо яна гаворыць аб сваім заданьні як аб крыўдзе. Дзяўчына адказала (зь нязграбнай какетлівасьцю), што часам трапляліся вельмі прыемныя, але што яна з таго мела, калі была абцяжарана каністрай і павінна была зь імі разьвітацца раней, чым пасьпявала нешта пачаць. "Прайдзісьвет",— вымавіў хлопец. Дзяўчына заявіла, што прайдзісьвет якраз ён, а не яна; Бог ведае, колькі дзяўчын спыняе яго на шашы, калі ён едзе на машыне адзін! Юнак ахапіў дзяўчыну за плечы і лёгка пацалаваў у лоб. Ён ведаў, што дзяўчына яго кахае і раўнуе. Рэўнасьць, бясспрэчна, вельмі непрыемная рэч, але калі ёй не злоўжываць (калі яна спалучаецца са сьціпласьцю), то мае ў сабе апроч няёмкасьці і штосьці мілае. Прынамсі юнак гэтак думаў. Таму што меў толькі дваццаць восем гадоў, але ўяўляў сябе старым і абазнаным ва ўсім, што можа ведаць мужчына аб жанчынах. У дзяўчыне, што сядзела поруч, ён шанаваў менавіта тое, што дагэтуль у жанчынах не сустракаў, — яе чысьціню.

Стрэлка была ўжо на нулі, калі юнак з правага боку заўважыў паказальнік, які тлумачыў (чорнай выявай), што бэнзазапраўка знаходзіцца праз пяцьсот мэтраў. Дзяўчына ледзь пасьпела прамовіць, што зь яе сэрца спаў цяжар, як юнак ужо паварочваў налева і заяжджаў на пляц перад запраўкай. Аднак ён вымушаны быў спыніцца на ўзбочыне, таму што на запраўцы стаяў бэнзавоз зь вялікім мэталічным бакам і тоўстай кішкай напітваў станцыю бэнзынам.

"Пачакаем",— вымавіў хлопец і выйшаў з машыны. "Як доўга гэта будзе працягвацца?",— аклікнуў ён маладога рабочага. "Хвілінку",— адказаў той, але хлопец прабурчэў:"Ведаю я тую хвілінку". Ён хацеў зноў сесьці ў машыну, але ўбачыў, што дзяўчына таксама выйшла праз другія дзьверы. "Я пакуль адскочу",— прамовіла яна. "Куды?",— запытаўся ён наўмысна, бо жадаў убачыць яе зьбянтэжанасьць. Яны знаёмыя ўжо цэлы год, але дзяўчына заўсёды

дыхае ёю. Хто адстаяў сваю мову, гісторыю і культуру, нягледзячы на стагодзьдзі няволі. Хто абраў прэзыдэнтам драматурга і філёзафа Вацлава Гавэла...

Савецкія танкі, якія прайшліся па сьпелай пшаніцы і мірных вуліцах чэскіх гарадоў, прайшлі і па сэрцах народу, яго веры ў сацыялізм, якому Дубчык хацеў надаць чалавечы твар. Прайшліся зрэшты і па ідэі камунізму, такой прыцягальнай не для аднаго пакаленьня чэхаў. У гэтай сытуацыі дысыдэнцтва абрала сабе ўся нацыя, у апазыцыі да палітыкі танкаў аказаліся ўсе, хто меркаваў рэфармаваць здэградаваную дзяржаўную сыстэму, значная частка творчай інтэлігенцыі. З дапамогай філёзафаў, мастакоў, навукоўцаў, артыстаў выдавалася падпольная прэса, ствараліся Хартыя-77, Грамадзянскі Форум, розныя патрыятычна-вызваленчыя рухі, ставіліся абсурдныя п'есы і вельмі павучальныя паэтычныя праграмы ў кабарэ. Кнігі, мастацкія творы, апавяданьні, эсэ перапісваліся ад рукі, на машынцы і распаўсюджваліся маленькімі тыражамі, часам па чатыры-пяць асобнікаў.

Інвазія 68-га парушыла разьвіцьцё чэскай культуры, на дваццаць год забясьпечыла супрацьстаяньне ўлады і народу; дваццаць год — зацятае маўчаньне і чаканьне, адстойваньне годнасьці асобы і нацыі.

Дысыдэнцтва ў Чэхіі назапасіла вялікі вопыт, мноства імён, багата кніг, новыя формы і новы зьмест. Мне давялося пражыць у Празе два жніўні: першы жнівень у 1988 годзе, юбілейны год інвазіі, калі паліцэйскія сырэны, вадамёты і вайскоўцы з аўчаркамі былі пастаўлены супроць дэманстрантаў. Адна з рэпэтыцый аксамітнай рэвалюцыі скончылася турэмнымі арыштамі для многіх інтэлектуалаў. Я і сёньня чую шалёны віскат сабак, лаянку тых, па чыіх сьпінах прайшліся паліцэйскія дубіны, і бачу твары артыстаў, чый спэктакаль перабрахалі сырэны.

Другі жнівень амаль праз год пасьля таго, як Чэхія перастала быць сацыялістычнай. У дзень акупацыі па ўсёй Празе адбыліся народныя дзействы, сьвяткаваньні. Мноства розных групаў паказвалі свае праграмы, уражвалі камэдыянцкія шэсьці — усе на адну тэму; разьвітаньне з палітыкай танкаў. Адзін з савецкіх жалезных волатаў, перакулены на Вацлаўскім пляцы, раптам стаў сымболем бездапаможнасьці сыстэмы, на ім скакалі дзеці і дарослыя, малявалі надпісы, так бы мовіць, без усялякай цэнзуры. Перад ім весяліліся па-сапраўднаму, у народу больш не было патрэбы швэйкаваць. На сцэнічным узвышэньні сьпявалі рок-гурты, моладзь паводзіла сябе адпаведна, у лепшых традыцыях праскай іроніі, вагантаў. На Карлавым мосьце, перад сьвятым Янам Непамуцкім, сьмешна выглядала фігура Сталіна з пап'е-машэ. Яе рэзалі на кавалачкі і проста на вачох прывід тырана пераўтвараўся ў груду сьмецьця. Старажытнае камэдыянцкае дзейства, відавочна, стала сродкам разбурэньня сымулятараў, разбурэньня аб'ектыўнай бачнасьці, гаворачы тэрмінамі тэатру ўхіненьня Брэхта. Калі першы жнівень я магу пазначыць сэмантычна як сацыялістычна-рэалістычны, то другі асацыюецца ў маёй сьвядомасьці з карнавалам і фіестай. Нездарма, відаць, бальшавікі замянілі іх дэманстрацыямі адпаведна свайму ідэалягічнаму разуменьню сьвята ў жыцьці новай сацыяльнай фармацыі і маральнаму кодэксу будаўніка камунізму, якому, вядома, не да сьвятаў.

Тады ж я перачытала нелегальную газэту "Лідавыя новіны" (Народная газэта) за некалькі год, перавыдадзеную вялікімі сшыткамі. Зьвярталі на сябе ўвагу артыкулы Гавэла, дзе быў выдадзены падрабязны аналіз палітычнай сытуацыі ў яе дачыненьні да культуры, адкрыты ліст да Густава Гусака, інфармацыя пра сучасны стан літаратуры і нават артыкул пра нашыя Курапаты (нумар газэты за сьнежань 1988). Пазьней, калі перакладала кнігу Гавэла пра дысыдэнцтва, я прыгадала ўсю лёгіку яго жыцьця, падпарадкаванага адной мэце — разбурэньню хлусьні, пошуку шляхоў разбурэньня зданяў дыктатуры, якія яна ўмацоўвае, каб зьберагчы сябе. Артыкулы Гавэла і яго мастацкая дзейнасьць зьнітаваныя і падпарадкаваныя надзённым праблемам. Ён зьвярнуўся да тэатру абсурду, бо абсурд панаваў у акаляючым яго асяродзьдзі. Уладныя структуры ўспрымалі абсурд як сьведчаньне прынамсі зьнешняга апалітызму. Для самога пісьменьніка — гэта яго адносіны да сьвету, погляд "зьнізу" альбо "звонку", які грунтуецца на пачуцьці абсурду: "Менавіта ўнутранае адчуваньне адасобленасьці дапамагае чалавеку лепш разглядзець абсурднасьць сьвету і свайго асабістага існаваньня ў ім". Не аднойчы Гавэл вяртаецца ў шматлікіх інтэрвію да асэнсаваньня абсурду ў мастацтве сучаснасьці, падкрэсьлівае філязофскі падтэкст тэатру абсурду, падтэкст, схаваны за будзённай побытавай сытуацыяй, увагу да праблем чалавека і яго крызыснага стану. Адну са сваіх абсурдных п'есаў "Аўдыенцыя" Гавэл напісаў у сярэдзіне сямідзясятых, калі яму было забаронена друкавацца, і ён працаваў дзе давядзецца — пад пільным вокам рэжыму. Напісаў ён яе дзеля жарту, хутчэй каб пазабавіць сяброў, але атрымалася, што менавіта гэтая п'еса выклікала вялікую зацікаўленасьць за мяжой.

"Аўдыенцыя" — п'еса ў адной дзеі, якую складае дыялёг пана Сладэка, кіраўніка невялікай піваварні і яго падначаленага Ванэка. Падчас размовы Сладэк частуе Ванэка, п'е бесьперапынна піва з мэтаю высьветліць, чым, як кажуць, дыхае гэты інтэлігент, драматург, які мае адукацыю эканаміста, але вымушаны цягаць бочкі ў піўніцы. Сладэк мае заданьне сачыць за Ванэкам, што яму недаспадобы, і ён даводзіць падначаленаму, што лепш таму самому напісаць на сябе цыдульку, распавесьці пра свае паводзіны, сувязі, карацей, даць аб сабе зьвесткі, неабходныя тым, хто "зьверху". Быццам бы прымітыўная размова, а на самой справе ў ёй выкрывае сябе сыстэма, якая сутыкнула двух неблагіх людзёў, супрацьпаставіла чалавека сыстэмы і аўтсайдэра. Адзін ня можа захаваць у сабе асобу, залежыць ад антыгуманнай улады і служыць ёй, хоць гэта яму не падабаецца і нават абражае яго. Другі — выкінуты сыстэмай, пазбаўлены свабоды як творца і асоба, але ён застаецца чалавекам, не дае сябе зьнявечыць і абірае дысыдэнцтва, хоць шлях гэты патрабуе мужнасьці, патрабуе ахвяр. Дысыдэнцтва — гэта выбар кожнага. Выбар асобай мадэлі паводзін у дачыненьні да дзяржавы. Гэта і сродак самасьцьвярджэньня асобы і праверка яе сталасьці. Можа выкажу зараз парадаксальную думку, але п'янства таксама форма дысыдэнцтва, толькі, так бы мовіць, — пасыўнага.

Кожны з дысыдэнтаў, безумоўна, ідзе сваім шляхам, сам выбірае, што яму рабіць: друкавацца ці пісаць у шуфлядку, займацца палітыкай ці не... Ён вольны стаць аўтсайдэрам, абраць альтэрнатыўны шлях пакут. У чэскай культуры знойдзем мноства розных варыянтаў дысыдэнцтва, прыклады абсурднай драматургіі Гавэла і спантаннага маналёгу Грабала. Існуе, напрыклад, істотная розьніца паміж літаратурай, якая стваралася ў эміграцыі, і той, што шукала сябе дома, пераадольваючы страх. Так Багуміл Грабал, які сёлета адзначыў восемдзясят, і зьяўляецца адным з самых шырока вядомых у сьвеце чэскіх празаікаў, абраў свой шлях дысыдэнта ў гады Пратэктарату. Менавіта тады ён пачаў пісаць свае сюррэалістычныя тэксты, увайшоў у склад групы 42, створанай вядомым мастаком Іржы Коларам. Грабал не друкаваўся і, маючы дыплём юрыста, не працаваў па адукацыі. Дысыдэнцтва стала яго лёсам. Каб не служыць сыстэмам, ён зарабляў сабе на хлеб, працуючы рабочым на заводзе альбо ўпакоўшчыкам макулятуры. На пачатку шасьцідзясятых раптам былі выдадзены адна за адной каля дзесяці аповесьцяў, раманаў і зборнікаў апавяданьняў саракагадовага пісьменьніка і сталага майстра, але Праская вясна хутка мінае. Грабалу зноў даводзіцца чакаць і пісаць кніжку за кніжкай, без надзеі іх выдаць. Зрэшты ён пагаджаецца выдаць у 1976 годзе адзін з найлепшых сваіх раманаў, і моладзь яму гэтага не даравала, паліла кніжку, выдадзеную акупацыйнымі ўладамі.

Грабал доўга не даваў свае рукапісы на Захад. Як толькі іх пачалі выдаваць за мяжой, да пісьменьніка прыйшла сусьветная слава. Адзін за адным выйшлі раманы "Я абслугоўваў ангельскага караля", "Пастрыжэньне", "Жыцьцё бяз смокінгу" і, зрэшты, знакамітая "Занадта гулкая самота", на думку Сьюзан Сонтаг, найлепшы твор Грабала.




Гэта — маналёгі філёзафа часоў сасьпелага сацыялізму, мудраца і аўтсайдэра, які на працягу чвэрці стагодзьдзя пакуе макулятуру, з асалодай чытае кнігі, непатрэбныя імпэрыям, прыгадвае любімых Канта і Эліота, цытуе сусьветную клясыку, жыве ў напружаным інтэлектуальным космасе духу. Слава прыйшла да Грабала, але на радзіме ён заставаўся забароненым да 1989 году.

Філёлягі сьвету ведалі, што Грабала трэба шукаць у карчме "У залатога тыгра", што ён не пашырае кола знаёмстваў, але калі ўжо хто праб'ецца да яго, зьведае асалоду сумаўленьня з па-сапраўднаму значнымі людзьмі Чэхіі: унівэрсытэцкай прафэсурай, публіцыстамі, мастакамі. Дарэчы, сюды, да "Залатога тыгра" завіталі да Грабала прэзыдэнты Гавэл і Біл Клінтан падчас яго афіцыйнага візыту ў Прагу.

У чэскай літаратуры знойдзем самыя розныя прыклады дысыдэнцтва. Тут створана багатая "іншая" літаратура, альтэрнатыўная, апазыцыйная, самавыдавецкая (назваў багата, сутнасьць — адна). Сюды дапасуюцца вялікая каталіцкая, наогул рэлігійная літаратура, дзесяткі так званых легіянэрскіх раманаў, літаратура мадэрнісцкая...

Карацей кажучы — іншадуманьне ў мастацтве, літаратуры, палітыцы, навуцы. Хаця — азначэньне гэтае, на думку Гавэла, дастаткова праблематычнае, перадусім з этымалягічнага пункту гледжаньня: "... "дысыдэнт" азначае, як вядома, "адступнік", але "дысыдэнты" сябе не пачуваюць адступнікамі, бо проста ні ад чаго не адступаліся. Хутчэй наадварот: яны прыхінуліся да саміх сябе, а калі ад чаго і адступіліся, дык толькі ад таго, што было ў іх жыцьці фальшывае і адчужаючае, ад жыцьця ў ілжы". Але гэта не галоўнае. Дысыдэнцтва мае абарончы характар, яно ратуе асобу ад ізаляванасьці і адзіноты, ад наступу недэмакратычнага ладу жыцьця. Дысыдэнты парушылі правілы гульні посттаталітарнай сыстэмы , яе рытуал самаруху, які робіць аднолькава безуладнымі і бясьсільнымі і прэзыдэнта, і мастака. Адшукалі моц бясьсільных, сілу безуладных. У гэтым пераконвае чэскі прыклад.

саромелася яго і гэтыя моманты яе сарамлівасьці былі дарагія яму; часткова таму, што гэтым яна адрозьнівалася ад жанчын, зь якімі ён сутыкаўся раней, а таксама таму, што ведаў пра закон усеагульнай марнасьці, які рабіў для яго дарагім і сарамлівасьць дзяўчыны.

## II

Дзяўчына сапраўды не любіла моманты, калі ў дарозе мусіла (юнак часта езьдзіў шмат гадзін безь перапынкаў) прасіць аб маленькай затрымцы недзе каля лясочка. Яна заўсёды злавалася, калі ён з найграным зьдзіўленьнем пытаўся, навошта павінен спыняцца. Ведала, што яе сарамлівасьць выглядае сьмешна і старамодна — на працы яна колькі разоў пераконвалася, што зь яе далікатнасьці сьмяюцца і наўмысна яе правакуюць. Яна заўсёды загадзя саромелася таго, што будзе саромецца. Часьцяком яна тужыла па тым, каб умець адчуваць сябе ў сваім целе вольна, бесклапотна і бязбоязна, так як гэта ўмела большасьць жанчын вакол яе. Дзяўчына нават выпрацавала для сябе і адмысловыя выхаваўчыя правілы: яна паўтарала, што кожны чалавек атрымлівае пры нараджэньні адно цела зь мільёну падобных, як атрымаў бы адзін пакой зь мільёну ў агромістым гатэлі: што цела, такім чынам, выпадковае, не сваё ўласнае; што гэта толькі пазычаная рэч. Так яна заўжды паўтарала, але адчуць так ніколі ня ўмела. Гэты дуалізм цела і душы быў ёй чужы. Яна сама была толькі сваім целам і таму адчувала сябе заўсёды боязна.

З такой жа баязьлівасьцю яна падыходзіла і да хлопца, якога ведала ўжо год і зь якім была шчасьлівай можа менавіта таму, што ён ніколі не аддзяляў яе цела і душу адно ад аднаго і яна магла зь ім жыць цэльнай. У адсутнасьці падвоенасьці і было шчасьце, аднак за шчасьцем імгненна паўставалі падазрэньні, і дзяўчына была поўная імі. Часта ёй прыходзіла ў галаву, што іншыя жанчыны (небаязьлівыя) больш прыцягальныя і спакусьлівыя і што юнак, які ня ўтойваў, што добра ведае гэты тып жанчын, калі-небудзь сыйдзе ад яе да такой жанчыны. (Хоць ён і казаў, што такімі кабетамі на цэлае жыцьцё прысычаны, але яна ведала, што ён дагэтуль у многім больш малады, чым думае пра сябе). Яна жадала, каб ён цалкам належаў адно ёй, а яна — яму, але ёй часта здавалася, што чым больш яна імкнецца даць яму ўсё, тым часьцей ён зьвяртае ўвагу менавіта на тое, што дае чалавеку неглыбокая і павярхоўная ласка, што дае чалавеку флірт. Яна пакутавала ад таго, што можа быць сур'ёзнай і ня ўмее быць лёгкадумнай.

Але на гэты раз яна наогул ня мучылася і не аб чым такім ня думала. Ёй было добра. Быў першы дзень іх адпачынку ( чатырнаццацідзённыя вакацыі, пра якія яна марыла ўвесь гэты тужлівы год), было блакітнае неба (цэлы год яна думала пра тое, ці будзе неба сапраўды блакітным) і зь ёй быў хлопец. На яго "куды" яна пачырванела і бяз словаў адбегла. Абышла станцыю, якая месьцілася на краю шашы зусім побач з полем; амаль за сто метраў адгэтуль ( у накірунку іх далейшага руху) пачынаўся лес. Яна пайшла да яго, згубілася ў ім за кусточкамі і праз пэўны час выклікала ў сабе пачуцьцё душэўнай раўнавагі. (Радасьць ад прысутнасьці каханага мужчыны лепш адчувалася менавіта ў самоце. І затрымаць яе можна было толькі ў такія хвіліны.)

Потым яна выйшла на шашу; адгэтуль была бачна запраўка; бэнзавоз ад'яжджаў, а іхнае аўто ўжо пасунулася да чырвонай вежы. Дзяўчына пайшла па дарозе далей і толькі празь некалькі хвілін угледзела, што машына едзе. Дзяўчына спынілася і пачала махаць так, як машуць да чужой машыны тыя, хто едуць аўтастопам. Аўто прытармазіла і спынілася побач зь дзяўчынай. Юнак нахіліўся да ваконца, выкруціў яго ўніз, усьміхнуўся і запытаўся:"Куды б вы хацелі?" "Падкінеце да Быстрыцы?"— спыталася дзяўчына і зваблiва ўсміхнулася. "Прашу вас, садзіцеся",— хлапец адчыніў дзьверы. Дзяўчына села, і машына ад'ехала.

## III

Хлапец быў заўсёды рады, калі яго дзяўчына была вясёлай; гэта было ня так часта: яна мела дастаткова цяжкую працу, змрочны асяродак, шмат звышурочных гадзін, дома — хворую маці; яна не вылучалася ні асаблiва моцнымі нэрвамі, ні ўпэўненасьцю ў сабе і лёгка аддавалася непакою і страху. Таму ён вітаў кожнае праяўленьне яе весялосьці зь пяшчотнай клапатлівасьцю апекуна. Юнак усьміхнуўся і вымавіў:"Я сёньня шчасьлівы. Ежджу на машыне ўжо пяць гадоў, але такую прыгожую вандроўніцу ніколі не падвозіў".

Дзяўчына была ўдзячна юнаку за кожны камплімэнт; яна хацела троху затрымацца ў яго цяпле і таму сказала:

"Маніць умееце добра". "Выглядаю як ілгун?" "Выглядаеце, быццам любілі падманваць жанчын", — адказала дзяўчына і ў яе словах міжволі было трохі старога непакою, таму што яна сапраўды верыла, што яе хлопец любіць ілгаць жанчынам.

Юнака дзявочая рэўнасьць раней злавала, але на гэты раз ён мог больш лёгка ўспрымаць яе, бо словы ўсё ж такі адносіліся не да яго, а да незнаёмага кіроўцы. І ён толькі проста запытаўся: "Вам гэта замінае?"

"Калі б я была Ваша кабета, то замінала б",— сказала дзяўчына і гэта быў тонкі намёк юнаку; але канчатковыя словы тычыліся толькі незнаёмага вадзіцеля: "Я вас ня ведаю, і таму мне гэта не перашкаджае". "Са сваім мужчынам жанчыны заўжды сварацца значна больш, чым з чужым,— гэта быў са свайго боку тонкі намёк юнака дзяўчыне:"Таксама ўлічваючы тое, што мы чужыя, то маглі б добра разумець адзін аднаго".

Дзяўчына наўмысна не хацела разумець гэтыя намёкі, і таму зьвярталася выключна да незнаёмага вадзіцеля:"Што з таго, калі мы праз хвіліну разьвітаемся?"

"Чаму?"— спытаў хлопец.

"Каля Быстрыцы я ўсё ж такі выходжу".

"А што, калі я выйду з вамі?"

Дзяўчына пасьля гэтых словаў юнака паглядзела і знайшла, што ён выглядае менавіта так, як яна яго ўяўляла ў гадзіны пякучай рэўнасьці; яна напужалася, як зь ёй (незнаёмай падарожніцай) ён лісьліва какетуе і як гэта яму да твару. Таму яна адсекла яму з упартай дэманстратыўнасьцю:"Што вы будзеце са мной рабіць, выбачайце?" "З такой прывабнай жанчынай я б шмат ня думаў, што рабіць",— гжэчна адказаў хлопец, які ў гэтыя хвіліны зьвяртаўся больш да сваёй уласнай дзяўчыны, чым да ўяўнай спадарожніцы. Але дзяўчына адчула сябе так, нібы гэтай лісьлівай фразай яна яго выкрыла, нібы нейкімі хітрыкамі вымантачыла прызнаньні, яна адчула раптам моцнае раздражненьне і нават злосьць і запыталася, ці ня надта вялікія вочы ён робіць.

Юнак падзівіўся на дзяўчыну, яе ўпарты твар здаўся яму працятым сутаргамі, ён зьлітасьцівіўся і затужыў па яе знаёмым, звыклым поглядзе (аб якім ён казаў, што ён дзіцячы і просты); юнак нахіліўся, абняў яе рукой за плечы і прашаптаў імя, якім звычайна яе называў і якім хацеў цяпер парушыць гульню.

Але дзяўчына выкруцілася і прамовіла:"Што за рэзкія рухі!"

Адштурхнуты хлопец сказаў:"Выбачайце",— і стаў моўчкі глядзець на дарогу перад сабой.

## IV

Рэўнасьць пакінула дзяўчыну так хутка, як і ахапіла. Яна ўсё ж мела розум і ведала, што гэта толькі гульня, і цяпер ёй нарэшце зрабілася сьмешна, што яна адштурхнула мужчыну ў раўнівай разьюшанасьці — ёй было б непрыемна, калі б ён даведаўся пра гэта. На шчасьце, яна мела неверагодную здольнасьць зьмяняць сэнс сваіх учынкаў; цяпер яна выкарыстала гэту магчымасьць і вырашыла, што адштурхнула яго не са злосьці, а таму, каб працягваць далей гульню, якая сваёй вычварнасьцю так добра падыходзіць да іх першага дня адпачынку.

Зноў яна стала спадарожніцай, якая толькі што адштурхнула назолу-вадзіцеля, каб запаволіць авалоданьне і яшчэ больш узбудзіць яго. Яна павярнулася да хлапца і ласкава прамовіла:

"Пан, я не хацела Вас пакрыўдзіць!" "Выбачайце мне, болей да Вас ужо не дакрануся", — адказаў юнак.

Ён быў раззлаваны на дзяўчыну за тое, што яна не паслухала яго і адмовілася быць сама сабой, калі ён па тым стаў тужыць, і калі дзяўчына далей працягвала гуляць сваю ролю, усю сваю раздражнёнасьць юнак перанес на чужую вандроўніцу, якую яна састроіла зь сябе; нечакана ён адкрыў характар і сваёй ролі; адышоў ад далікатнасьці, якой хацеў пацешыць сваю дзяўчыну, і пачаў граць мужчыну цьвёрдага, павернутага да жанчын хутчэй грубымі бакамі мужнасьці: воляй, сарказмам, упэўненасьцю ў сабе.

*(Працяг на стар. 8)*




Вацлаў БЕЛАГРАДСКІ

# КУЛЬТУРА, РЫНАК І ПРАЎДЫ

У маіх сьпярэчках аб аб'ектыўным характары постмадэрністычнага грамадзтва бы "ostinato" паўтараюцца чатыры матывы. Першым і вядучым ёсьць крытыка апакаліптычнага тону ў голасе сучаснага інтэлектуала, што паклікаецца на праўды, аб'яўленьне якіхператворыць жывучых на зямлі людзёў у людзтва. Слова "апакаліптычны" мы ўжываем тут у ягоным асноўным значэньні: apkalupto — адкрываю, аб'яўляю.

Чэскі інтэлектуал вельмі добра высваіўся з апакаліптычным тонам у культуры, часткова зь віны адраджэнчае перацэны ролі інтэлектуалаў у культуры й палітыцы наагул, часткова пад уплывам нямецкае філязофіі, якую Масарык у сваёй працы "Сьветная рэвалюцыя" назваў "мэтафізычным тытанізмам". Разьдзелам у гісторыі гэтага германскага тытанізму, які прагне збудаваць сьвет із пэўнага "гляньва таталітарызму", ёсьць марксізм і камуністычнае гаспадарства. Чэскі інтэлектуал Людвік Главачэк пісаў, што пры дэмакратыі не змагаюцца за праўду, а толькі ходзяць ізь ёю на торг. Падставаю гэтага пагляду ёсьць уяўленьне, што інтэлектуал прывыкне да вулічнае гаманы, навучыцца ў ёй гукаць і ўжо ня будзе чакаць, пакуль тлум змоўкне пры выглядзе суровага й патэтычнага гэсту асьвечанага валадара.

Я падабаю адзін із фільмаў Гічкока, назвы якога ўжо не памятаю. Два студэнты, будучы пад уражаньнем лекцыяў свайго прафэсара-ніцшэанца, замардавалі калегу, каб давесьці сабе, што яны годныя ідэі свайго настаўніка. Адлі яны зладзілі нешта накшталт прыйма, на якім за стол служыла скрыня із замардаваным калегам усярэдзіне. На мерапрыёмства яны запрасілі й свайго прафэсара, які нешта вычуваў, але яму ня стала адвагі здагадацца аб усёй праўдзе. Калі студэнты зьясьнілі яму, што зрабілі гэта ў імя ідэі, якую ён сам вясьціў, прафэсар папікнуў іх: "Як вы маглі паставіцца да гэтага спаважна, гэта толькі культура!"

Мяркую, што таталітарызм быў наўперад наступкам занадта спаважнага трактаваньня філязофіі й літаратуры — пагляду, што дзейнасьць у гэтых галінах можа гэтак радыкальна зьмяніць нашую сытуацыю ў сьвеце, што ўсе іншыя стылі жыцьця будуць павінны падпарадкавацца іхнаму ўплыву.

У маіх калегаў марксістаў я маю за аблуднае тое, што яны вельмі спаважна трактавалі культуру; безналежная павага да кнігаў і залучаных у іх формул была іхнаю найгоршаю правінаю. Філязофія й культура ня могуць ісьціва зьмяніць нашае сытуацыі ў сьвеце, яны адно могуць павесяліць, усьцешыць, прыгадаць тое, што забылася, спабыць нас ляку перад будучыняй. Але ні ў якім прылучаі імі не пасуляецца нам "выйсьця з валадарства цемры".

Я належу да пакаленьня, якое перажыло левы бунт моладзі на Захадзе, менаваны "парыскім траўнем 68 году".

Толькі цяпер выявілася, што істою гэтага часу ўсілства й масавага палітычнага ідыятызму быў ляк "грэцка-хрысьцянска-асьветнага" тыпу інтэлектуала з постмадэрністычнага торжышча ідэяў і жыцьцявых стыляў, ідзе ўжо нічога нельга гіерархічна ўпарадкаваць ад асяродку, ад вышшага да ніжшага, ад бліжшага да дальшага. Тут усё мяшаецца, ніводнае слова не пераконвае ўсіх, бо яно ўжо ніколі "не заглушыць" усіх іншых словаў. Парыская палітычная вясна была ў запраўнасьці вялікім ГЭПІНІНГАМ, якім барадатыя інтэлектуалы разьвіталіся з апакаліптычным тонам у культуры, вельмі дзеля іх папулярным. Апошняга разу яны гарлалі ў гасьцінных мэтраполіях Захаду, апошняга разу яны абецавалі адмяніць людзёў у людзтва затым, што ім аб'явілі праўду й яны зарганізуюць усё грамадзтва ўзглядам "таталітарызму". Гэты тып інтэлектуальнага заангажаваньня незваротна мінуў. Грамадзтва — гэта нешта нявыразнае, і гэткім яно застанецца. На постмадэрністычным торжышчы ідэі прадаюцца як кажны іншы тавар і маюць толькі гэткую цану, якую людзі гатовыя за іх заплаціць.

Ролю постмадэрністычнага "духовага чалавека" я здэфініяваў бы на наступны спосаб: ствараць антыцелы для апакаліптычнага тону ў культуры, для той марнуючай хваробы, зародак якой замыкаюць у сабе ўсе ідэі, народжаныя грэцка-хрысьцянска-асьветнай традыцыяй.

Трэба памятаць, што ідэі маюць пэўныя рысы жывых арганізмаў: яны хочуць множыцца, выжываць, падпарадкоўваць сабе іншыя ідэі або жыць за іхны кошт; яны зайздросныя й могуць пажэрці адна адну. Аднак яны паўстаюць ў суровым атачэньні, якім ёсьць крытычнае грамадзкае меркаваньне. Гінуць жа яны ў шматгалосьсі агрэсыўнасьці. Выжываюць толькі тыя, якія найлепей датарнаваліся да гэтага суровага атачэньня. Аб гэткіх ідэях кажуць, што яны "праўдзівыя" або "вечна жывыя". Аднак здараецца, што нейкія ідэі супоўна авалодваюць чалавекам і ён выбаўляе іх із гэтага суровага атачэньня ды пачынае бараніць як "найвышшыя й сьвятыя" ідэі. І гэтак іх прасякае апакаліптычны тон. Карль Попэр цьвярдзіць, што развагавы той чалавек, які бароніць сваё жыцьцё, дазваляючы паміраць сваім ідэям. Аблудная ідэя памірае й чалавек здабывае зь яе сьмерці навуку. Аднак здараецца, што ідэі набываюць гэткую энэргію, што іх ужо немагчыма асьперачыць. У выніку гэтага масава паміраюць людзі, а ня іхныя ідэі. Тут ход ідзе галоўна аб таталітарызьме, пяршыні ідэі над даведаньнем чалавека.

Другім матывам маіх развагаў ёсьць пахвала грамадзянскіх цнотаў. У лібэральнай дэмакратыі цэннасьць жыцьця ў першы рад залежыць ад цэннасьці ўсеагульных прынцыпаў і іхнага ўсеагульнага вызнаньня. Непавага да ўсеагульных прынцыпаў, праваў, абавязваючых усіх, можа быць карысная для індывіда толькі тады, калі ўсе іншыя грамадзяне іх шануюць. Тады для гэтага "аднаго" яшчэ болей апраўданае іх невыкананьне.

Гэтую асымэтрыю можна ўхінуць адно тады, калі законы й агульныя правілы будуць прынятыя й шанаваныя бальшынёй грамадзянаў. Ніякі "кантроль згары" ня можа заступіць папраўнасьці праўных нормаў, бо праводжаньне непапраўных "агульных прынцыпаў" вылучна выдаткоўнае. Гэта праўдзівая прычына канца камунізму як палітычнае і эканамічнае сыстэмы.

Існуе яшчэ адна важная розьніца спаміж вытворцам і спажыўцом. Мы спажыўцы чысьленых рэчаў, але жывем за кошт толькі аднэй. Напрыклад: малое падвышэньне цаны цукру нязначна ўдарыць па нашых кішэнях, і было б неапраўдана змагацца "дэмакратычнымі сяродкамі" з гэткай драбязой, таму што гэта вымагала б вялікшых выдаткаў насупраць таго, што мы маглі ашчадзіць. У адваротнасьць гэтаму для вытворцаў цукру апраўдана праводзіць свае інтарэсы праз групу націску, адвакатаў, хабары, бо цукар — асноўнае жарало іхных даходаў. Згэтуль выплывае, што спажыўцы безабаронныя ўзглядам інтарэсаў вытворцаў, калі кіравацца адно толькі сваім беспасярэднім спажыткам. Кажны з нас быў у сытуацыі, у якой цьвярдзіў, што "ход тут ідзе аб прынцыпах". Ход ішоў аб тым, што надабе бараніць пэўную пазыцыю, не зважаючы на беспасярэднюю карысьць. Дэмакратыя дзеяла толькі тады, калі грамадзяне часта цьвярдзілі: "ход ідзе аб прынцыпах" і баранілі прынцыпы, не бяручы пад увагу спажытак.

Сёньня забыліся аб тым, што дэмакратыя — гэта ня толькі рынкавая гаспадарка, але й "культывацыя грамадзянскіх цнотаў".

Трэйцім матывам маіх развагаў ёсьць абарона эканамічнага гляньва. Часта гэты матыў выклікае "скандаль", бо ён уносіць разлад у мэтафізычныя ўяўленьні аб цэннасьцях людзёў і рэчаў. Кажны з нас мае сваю собскую гіерархію цэннасьцяў, у якой жыве як у нейкай мыльнай бурбалцы: адукацыя, вада, парасон, кніга... Усе яны маюць пастойную цэннасьць незалежна ад зьменлівых акалічнасьцяў. Калі падчас залевы нехта прадае парасон (які патрабуецца болей як учора, калі дождж ня йшоў) у два разы даражэй як учора, дык "гэта злодзей". Адылі парасон ня мае цаны "сам сабою". Ягоная цэннасьць іншая, калі дождж ідзе, і іншая, калі даждџу ня йдзе, значыцца, ён ня нейкая незалежная ад акалічнасьцяў іста. Вось жа ягоную цану вызначае няўпынна зьменлівы стасунак спаміж прадметам і тым, чаго мы павінны выперціся, каб здабыць яго ў дадзеную часіну і ў дадзеным месцы. У доме я маю найхарошшы парасон, які я атрымаў у падарак, але цяпер, у дождж, ён зусім непатрэбны, бо ляжыць у доме. Я маю дзьве магчымасьці: прамокці або купіць парасон за новую цану. Загэтым запраўдная цана гэтага парасону — прамакненьне.

Чацьвертым матывам маіх развагаў ёсьць пасягненьне дэмакратыі як супольнасьці людзёў, якія ўзаемна вучацца гістарычна жыць у лёсавызначальным часе, за якога сэнсу таго, хто робіць і кажа, можна зразумець толькі з рэакцыі іншых людзёў. Тое, што сэнс дадзены вылучна дзеля рэакцыі іншых людзёў, мае той самы наступак: праўда таго, хто кажа — заўсёды заслуга іншага; яна імне ня дадзеная наперад, але ўнесеная ёю, чытар "адкрыў" яе і безь яго яна б не існавала. Жыць гістарычна азначае затым рабіць усе высновы якраз з гэтае пэрспэктывы.

Ідэалам дэмакратыі ня ёсьць нейкая канфэдэрацыя гістарычных сьветаў пры пастойных і вартаваных межах. Наадварот, дэмакратыя ўсьпіраецца на пазаркое даведаньне "tra-ductio" (пераклад, перасяганьне праз мяжу, прышчапленьне іншага сэнсу структурам нашае мовы).

Я думаю, што эўрапейскі спадак унівэрсальны ў адзіным дачыненьні — ніводнае іншае грамадзтва не прасякненае гэтак глыбака жаданьнем, патрэбай "tra-duktio".

*"Literárni noviny". 1992, № 27*

**Пераклаў Валерка БУЛГАКАЎ**

# ФАЛЬШЫВЫ АЎТАСТОП

*(Працяг са стар. 7)*

Гэтая роля была цалкам працілеглай хлапечым клапатлівым адносінам да дзяўчыны. Да знаёмства зь ёю ён інакш трымаўся з жанчынамі, хутчэй сурова, чым мякка, але на дэманічнага мужа не выдаваў ніколі, бо не вылучаўся ані сілай волі, ані жорсткасьцю. Ён ня быў падобны да такога, аднак жа жадаў калісьці ім быць.

Вядома, гэтае памкненьне было дастаткова наіўным, але што зробіш: дзіцячыя жаданьні ператвараюцца з часам у пасткі для сталага духу і перажываюцца часта да глыбокай старасьці. І гэты дзіцячы ўспамін паспрыяў магчымасьці хутка ўвасобіцца ў прапанаваную ролю.

Хлапечая халоднасьць была дзяўчыне вельмі дарэчы: яна вызваляла яе ад самой сябе, ад рэўнасьці. У хвіліну, калі яна перастала бачыць побач з сабой далікатна спакушаючага мужчыну і ўбачыла яго недатыкальны твар, яе рэўнасьць утаймавалася. Яна магла забыць пра сябе і цалкам увайсьці ў сваю ролю.

Сваю ролю? Якую? Гэта была роля з таннай літаратуры. Падарожніца спыніла аўто не таму, каб яе падвезьлі, але каб спакусіць мужчыну, які ехаў у гэтым аўто; гэта была хітрая спакушальніца, што цудоўна валодала сваімі чарамі. Дзяўчына ўвасобілася ў недарэчную ролю зь лёгкасьцю, якая яе адразу ж прывабіла і зачаравала.

Так яны і ехалі поруч; чужы вадзіцель і чужая вандроўніца.

## V

Чаго не ставала юнаку ў жыцьці, дык гэта бесклапотнасьці. Шлях ягонага жыцьця быў акрэсьлены з жорсткай строгасьцю; праца не абмяжоўвалася васьмю гадзінамі, яна прасочвалася і ў астатні час абавязковай нудой паседжаньняў і дамашніх заняткаў, пранікала ўвагай шматлікіх калег да яго ўбогага асабістага жыцьця, якое ніколі не заставалася ўтоеным і да таго ж ужо некалькі разоў аказвалася прадметам плётак і таварыскіх разборак. Нават два тыдні адпачынку не далі яму магчымасьці адчуць свабоду і смак прыгодаў; шэры цень строгай распляванасьці панаваў і тут; неабходнасьць прымусіла яго замовіць пакой у Татрах ажно за поўгады і да таго ж была запатрабавана рэкамэндацыя ад заводзкай рады ягонага прадпрыемства, паўсюль прысутная душа якога і тут працягвала свой кантроль.

Тым ня менш юнак быў пакорлівы; аднак часам яго адольваў грозны прывід дарогі, па якой ён гнаны, на якой ён усім бачны і зь якой яму нельга збочыць. Гэта ўяўленьне прыгадалася яму цяпер; цудоўным кароткім яднаньнем злучаліся вобразы шашы, па якой ён ехаў, і прыдуманы вобраз дарогі, — і гэта прывяло яго да раптоўнай безразважлівасьці.

"Куды Вы, казалі, жадаеце ехаць?",— запытаўся юнак.

"Да Банскай Быстрыцы", — адказала дзяўчына.

"І што Вы там будзеце рабіць?"

"У мяне там спатканьне".

"З кім?"

"З адным панам".

Машына якраз прыехала да скрыжаваньня, кіроўца зьнізіў хуткасьць, каб разгледзець дарожныя знакі; потым збочыў направа.

"Што будзе, калі Вы на тое спатканьне не прыедзеце?" "Гэта было б на Вашым сумленьні і Вы павінны былі б паклапаціцца пра мяне". "Вы, відаць, не зьвярнулі ўвагі, што я збочыў да Новага Замку?"

"Сапраўды? Вы звар'яцелі!"

"Ня бойцеся, я пра Вас паклапачуся",— прамовіў хлопец.

Гульня адразу набыла вышэйшую якасьць. Аўто аддалілася ня толькі ад выдуманай мэты — Банскай Быстрыцы, але і ад рэальнай мэты: Татраў і агульнага пакою. Выдуманае жыцьцё лёгка перамагала жыцьцё сапраўднае. Юнак аддаліўся сам ад сябе і сваёй дарогі, зь якой дагэтуль ніколі ня збочваў.

"Але Вы ж казалі, што едзяце да Нізкіх Татраў",— зьдзівілася дзяўчына.

"Еду куды захачу. Я свабодны чалавек і раблю тое, што захачу і што мне падабаецца".

## VI

Калі даехалі да Новага Замку, ужо бралася на вечар. Юнак тут ніколі ня быў і прайшла хвіліна, перш чым ён зарыентаваўся. Яны некалькі разоў спынялі машыну і пыталіся ў прахожых, дзе знаходзіцца гатэль. Тут было некалькі раскапаных вулак, такі ж шлях вёў і да гатэлю, які быў (як усе сцьвярджалі) зусім блізка; усё гэта цягнулася амаль чвэрць гадзіны, пакуль яны нарэшце прыпыніліся перад гатэлем. Выглядаў ён непрывабна, але гэта быў адзіны гатэль у горадзе і хлопцу не хацелася ехаць далей. Тады ён сказаў: "Пачакайце", — і выйшаў з машыны.

Калі ён выйшаў, то, зразумела, зноў быў самім сабой. І яму здалося непрыемным, што ўвечары ён апынуўся зусім у іншым месцы, чым меркаваў: тым непрыемней, што ніхто да гэтага яго не прымушаў і што ён сам гэтага пажадаў. Папракнуў сябе за бяздумнасьць, але потым махнуў рукой: пакой у Татрах пачакае да заўтра і нічога ня здарыцца, калі першы дзень адпачынку яны адсьвяткуюць нейкай нечаканасьцю.

Прайшоў праз рэстарацыю — закураную, запляваную, тлумную, і запытаўся, дзе тут бюро абслугоўваньня. Яго адаслалі назад па прыступках, дзе за шклянымі дзьвярыма сядзела сталага веку бляндынка пад дошкай, поўнай ключоў; зь цяжкасьцю атрымаў ключ ад адзінага вольнага пакою.

Дзяўчына, застаўшыся адна, таксама адышла ад сваёй ролі. Аднак яна не адчувала прыкрасьці ад таго, што апынулася ў нечаканым месцы. Яна была так аддадзеная хлапцу, што ніколі не пашкадавала аб нечым, што б ён зрабіў, і з даверлівасьцю даручала яму частку свайго жыцьця. Але зноў узьнікла думка, што, верагодна, так, як цяпер яна, чакаюць мужчыну ў яго машыне іншыя жанчыны, зь якімі ён сустракаецца на службовых шляхох. Але, надзіва, гэтае ўяўленьне не было балючым. Дзяўчына адразу ўсьміхнулася, бо той чужой жанчынай у гэты момант зьяўляецца яна; той чужой, безадказнай і непрыстойнай жанчынай, адной з тых, да якіх яна так раўнавала; ёй здалося, што гэтым яна ўсіх іх перахітрыла; што яна прыйшла, каб авалодаць іх зброяй, каб даць хлопцу тое, што дагэтуль даць не магла, ня ўмела: лёгкасьць, бессаромнасьць і разбэшчанасьць; яна напоўнілася нейкім асаблівым пачуцьцём спакою. Цяпер яна сама здольная быць усімі тымі жанчынамі і здольная захапіць і паглынуць свайго каханага.

Юнак адчыніў дзьверы машыны і запрасіў дзяўчыну ў рэстаран. У гомане, брудзе ён знайшоў адзіны вольны столік у куце.

## VII

"Як жа цяпер Вы будзеце аба мне клапаціцца? — спытала дзяўчына задзірліва.

"Што любіце са сьпіртнога?"

Дзяўчына не была моцная на алькаголь; яшчэ сяк-так піла віно і падабаўся ёй вэрмут. Аднак на гэты раз наўмысна адказала: "Гарэлку". "Цудоўна!" — усклікнуў хлопец і замовіў гарэлку. "Спадзяюся, Вы мяне не абап'яце".

Хлопец не адказаў і паклікаў афіцыянта, каб замовіць дзьве гарэлкі і біфштэкс на вячэру. Праз хвіліну афіцыянт прынёс паднос з двума кілішкамі і паставіў яго перад ёй. Мужчына ўзьняў чарку і сказаў: "За Вас!" "Больш дасьціпны тост не прыйшоў у галаву?"

Тут было нешта, што пачынала раздражняць мужчыну ў дзявочай гульні; цяпер, калі яны сядзелі твар у твар, ён зразумеў, што гэта ня толькі словы, што зь яго робяць кагосьці чужога, што яна цалкам зьмянілася






# ЧЭСЛАЎ МІЛАШ

## ГОРАД МАЛАДОСЬЦІ

*Прыстойна было ня жыць. А жыць ніяк непрыстойна,*
*Гаворыць той, хто вярнуўся пасьля доўгіх гадоў*
*У горад сваёй маладосьці. І не было нікога*
*З тых, што калісь хадзілі па тых вуліцах,*
*І цяпер ня мелі нічога апроч ягоных вачэй.*
*Спатыкаючыся, ішоў і глядзеў замест іх*
*На сьвятло, якое любілі, на бэз, які зноў жыва цьвіў.*
*Ногі ягоныя, як бы там ні было, былі дасканальшымі,*
*Чым ногі безь існаваньня. І лёгкія ўдыхалі паветра,*
*Як то звычайна жывых, трапяталася сэрца,*
*Зьдзіўленае тым, што яшчэ б'ецца. У целе цяпер кружыла*
*Іх кроў, яго артэрыі жывілі іх кіслародам.*
*У сабе адчуваў іх вантробы, страўнікі, кішкі,*
*Мужчынскасьць й жаночасьць, даўнія, ў ім сустрэліся,*
*І кожная зьбянтэжанасьць, каханьне і смутак.*
*Раз нам даступнае такое разуменьне,*
*Думаў, то ў адной спачувальнай хвіліне,*
*Калі што мяне ад іх аддзяляла, гіне,*
*І дождж кропель з гронкі бэзу сыплецца на твар*
*Яго, яе і мой у тым самым часе.*

## ХТО?

*За чырвоным сьвятлом вуліцы маладое лісьце каштанаў.*
*Кім ёсьць той, хто бачыць?*
*Адкуль прыходзіць і куды зьнікне, хто*
*Ёсьць той, які тут замест яго*
*Бачыць будзе тое самае, але ж ня тое сама,*
*Бо зь іншаю пульсацыяй крыві?*
*І галіны дрэў магутных над стромаю дарогай ўгору,*
*Пахіленыя к сабе, і ў той алеі,*
*За калянадай пнёў, адкрыўшаеся зьзяньне.*
*Для каго яно? І як зьмяняецца*
*За кожным новым паваротам бачаньня?*
*Будзьце сабою, прадметы гэтай зямлі, будзьце сабою.*
*Не давярайце нам і нашаму дыханьню,*
*Ні фантазіям здрадліва-хцівага вока.*
*Сумуем за вамі, за вашай істотай,*
*Каб такімі трывалі ў сабе, якімі вы ёсьць,*
*Чыстыя і нікім не агляданыя.*

## ЭГЕЙ!

*То праўда, што нашае племя пчолам падобнае.*
*Зьбірае мёд мудрасьці, нясе і хавае ў соты.*
*Не адну гадзіну патраплю блудзіць лябірынтам*
*З павера на паверх Цэнтральнай бібліятэкі.*
*Але ўчора, шукаючы слова настаўнікаў і прарокаў,*
*Я зайшоў у высокія рэгіёны,*
*Не наведваныя амаль нікім ніколі.*
*Я браў фаліянты і нічога зь іх ня мог вычытаць,*
*Бо літары выцьвілі і зьніклі са старонак.*
*— Эгей!— ускрыкнуў я, — дык вось што стаецца з вамі!*
*Вам, о паважаныя, вашым бародам і парыкам!*
*Значыць, назаўжды замоўкла збавеннае пасланьне?*
*Таго дня ў хаце варылі сочыва*
*І ваш сабака, што спаў ля каміна, пазяхаючы*
*Абуджаўся і глядзеў на вас, нібыта ўсё разумеючы.*

## ПАСЬЛЯ ПАКУТАЎ

*Гіпотэза ўваскрэсеньня,*
*Якую нейкі вучоны выснаваў з квантавай мэханікі,*
*Прадбачыць вяртаньне да родных месц і людзей*
*Празь міліярд альбо два міліярды зямных гадоў*
*/Што па-за часам роўнае адной хвіліне/.*
*Я рад, што прычакаў зьдзяйсьненьня прадказаньня*
*Аб магчымым альянсе рэлігіі і навукі,*
*Які падрыхтавалі Эйнштэйн, Плянк і Бор.*
*Сур'ёзна не ўспрымаю навуковыя фантазіі,*
*Хоць шаную іхныя формулы і чарцяжы.*
*Тое самае сфармуляваў, карацей, Пётра апостал,*
*Кажучы: Апокатастасіс пантон,*
*Аднаўленьне ўсяіснага.*
*Аднак жа гэта памагае: магчы сабе ўявіць,*
*Што кожная асобіна мае код замест жыцьця*
*У вечнай камэры хаваньня, супэркампутары сусьвету.*
*Ператвараемся ў гніль, прах, мікраўгнаеньне,*
*Але застаецца той шыфр, значыць сутнасьць,*
*І чакае, і нарэшце пакрываеццаа целам.*
*/ ... ... ... /*
*Нешта іншае вернікі ў вясковай царкоўцы*
*Хорам паўтараюць, просячы жывата вечнага.*
*І я зь імі. Не разумеючы,*
*Кім буду, калі прачнуся пасьля неймаверных пакутаў.*

**Пераклаў Ян ЧЫКВІН**

ў рухах, міміцы і што стала падобная да таго пошлага тыпу жанчын, які ён так добра ведаў і да якога адчуваў лёгкую агіду.

І тады (трымаючы кілішак у руцэ) ён выправіў свой тост: "Добра, тады п'ю не за Вас, а за Ваша племя, у якім так пасьпяхова зьядналася ўсё лепшае ад жывёлы і ўсё горшае ад чалавека".

"Залічваеце ў тое племя ўсіх жанчын?" — спыталася дзяўчына.

"Не, адно тых, якія падобныя да Вас".

"Вельмі дасьціпна роўніць жанчыну з жывёлай".

"Добра, — хлапец трымаў узьнятую чарку, — п'ю тады не за Ваша племя, але за Вашы душы; згода? За вашы душы, якія запальваюцца, калі апускаюцца з сэрца ўніз да жывата, і якія згасаюць, калі зноў падымаюцца ўверх да сэрца". Дзяўчына ўзьняла чарку: "Добра, дык за маю душу, якая апускаецца да жывата". "Яшчэ адна папраўка, — прамовіў юнак, — за Ваш жывот, да якога апускаецца Ваша душа".

"За мой жывот", — сказала дзяўчына і яе жывот (калі яго прыгадалі) як бы адказаў на заклік: яна адчула кожны мілімэтар ягонай скуры.

Потым афіцыянт прынёс біфштэкс і хлопец далей спалучаў гарэлку з содавай (пілі ў гэты раз за дзявочыя грудзі), і размова працягвалася ў дзіўным фрывольным тоне. Юнака ўсё больш раздражняла тое, як дзяўчына ўмее быць непрыстойнай; калі яна гэта так добра ўмее, разважаў ён, значыць, яна сапраўды такая; тое, што яна тут уяўляе, ёсьць ёй самой; верагодна, гэтая частка яе сутнасьці, якая ў іншым месцы знаходзіцца пад замком і якая цяпер праз гульню выйшла са схованкі; дзяўчына, верагодна, думае, што ў гульні хавае саму сябе, але, можа, якраз наадварот? Ці ня робіцца яна адно ў гульні сама сабой? Ці не вызваляецца праз гульню? Не, насупраць яго сядзіць нечужая кабета зь целам ягонай жанчыны; гэта толькі ягоная дзяўчына, яна сама і ніхто іншы. Ён назіраў за ёй і адчуваў усё большую агіду.

Але тое не было толькі агідай. Чым больш дзяўчына аддалялася ад яго, тым больш ён жадаў яе; дагэтуль яе цела як бы існавала ў смузе спачуваньня, клопату, пяшчоты, ласкі і ўвагі; яно было як бы згублена ў гэтай смузе. Юнаку здавалася, што ён сёньня ўпершыню бачыць дзявочае цела.

Пасьля трэцяй чаркі гарэлкі дзяўчына паднялася і какетліва сказала: "Пардон". Юнак вымавіў: "Ці можна папытацца, куды Вы ідзяце?" "Папісаць, калі дазволіце", — адказала дзяўчына і пайшла паміж сталоў назад за шырму.


Мастак Ян Зрзавы

## VIII

Яна была спакойная, калі зьбянтэжыла юнака словам, якое ён ад яе ніколі ня чуў; нічога не здавалася ёй лепшым у жанчыны, якую грала, чым какетлівы націск, зроблены на памянёнае слова; але яна была спакойная, была ў найлепшым настроі, гульня яе ўзбуджала, давала магчымасьць адчуць тое, што дасюль не адчувала: пачуцьцё вясёлай безадказнасьці.

Яна, якая заўсёды палохалася кожнага свайго наступнага кроку, адчувала сябе нечакана зусім свабоднай. Чужое жыцьцё, у якім яна апынулася, было жыцьцём без сарамлівасьці, безь сямейнага прыгнёту, безь мінулага і бяз будучага, без абавязкаў; гэта было выключна вольнае жыцьцё. Дзяўчына, будучы падарожніцай, магла ўсё: усё й было дазволена — што хочаш казаць, што хочаш рабіць, што хочаш адчуваць.

Яна ішла паўз залю і заўважыла агульную ўвагу да сябе; і гэта было новае пачуцьцё, якога ня ведала раней: радасьць ад усьведамленьня свайго цела. Дагэтуль яна не магла пазбыцца прысутнасьці ў сабе той чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, якая саромеецца сваіх грудзёў і мае пачуцьцё няёмкасьці ад таго, што яны выступаюць з-пад сукенкі. І калі яна ганарылася сваёй прыгажосьцю і прывабнасьцю, то гордасьць адразу ж карэктавалася сорамам: яна добра адчувала, што жаночая прыгажосьць існуе перш за ўсё як сэксуальны выклік і гэта было ёй непрыемна; яна імкнулася, каб яе цела было зьвернута толькі да чалавека, якога кахае; і калі мужчыны на вуліцах разглядалі яе грудзі, ёй здавалася, што тым спусташалася патаемная частка яе інтымнага жыцьця, якое належыць толькі ёй і яе каханаму. Але цяпер яна была вандроўніцай, жанчынай бязь лёсу, была пазбаўлена пяшчотных путаў сваёй ласкі і яскрава пачала ўсьведамляць сваё цела; адчувала яго тым больш узбуджаным, чым больш чужыя былі вочы, якія яе аглядалі.

Яна праходзіла каля апошняга століку, калі нейкі падпіты мужчына, жадаючы пахваліцца сваёй сьвецкасьцю, аклікнуў яе па-французку: "Combien, mademoiselle?"

Дзяўчына зразумела. Заўважаная ўсімі і адчуваючы кожны рух сваіх клубоў, яна зьнікла за шырмай.

## IX

Гэта была цудоўная гульня. Яе дзіўнасьць была, напрыклад, у тым, што юнак, калі ўжо сам добра ўвасобіўся ў незнаёмага кіроўцу, не перастаў бачыць у спадарожніцы сваю дзяўчыну.

Менавіта гэта было дрэнна; ён бачыў сваю дзяўчыну, якая спакушае чужога мужчыну, і меў горкую магчымасьць прысутнічаць пры гэтым; бачыць зблізку, як яна выглядае і што гаворыць, калі хлусіць яму (калі здраджвала яму, калі будзе здраджваць). Ён меў той парадаксальны гонар быць тым, з кім яна яму ж і здраджвае.

Гэта было тым горш, што ён яе болей абагаўляў, чым кахаў; заўсёды яму здавалася, што яе існаваньне рэальна толькі ў прасторы вернасьці і чысьціні, а за гэтымі межамі яна проста не існуе; перастае быць сама сабой, як вада перастае быць вадой за мяжой пары. І калі цяпер ён убачыў, як яна пераходзіць з натуральнай зграбнасьцю гэтую страшную мяжу, яго напоўніў гнеў.

Дзяўчына вярнулася з прыбіральні і паскардзілася: "Нейкі хлапец мне там сказаў: "Combien, mademoiselle". "Не зьдзіўляйцеся", — адказаў юнак, — Вы ж выглядаеце, як дзеўка".

"Ведаеце, мне гэта наогул не перашкаджае".

"Трэба было ісьці з тым панам!"

"Але я маю цяпер Вас".

"Можаце ісьці зь ім пасьля мяне. Дамоўцеся зь ім аб гэтым".

"Ён мне не падабаецца".

"Але Вы ў прынцыпе нічога ня маеце супраць, каб за ноч было некалькі мужчын?"

"Чаму не, калі яны прыгожыя".

"Любіце па аднаму ці адначасова?"

"І так і гэтак", — сказала дзяўчына.

Размова заходзіла далей да ўсё больших недарэчнасьцяў; дзяўчыну гэта трохі шакавала, але яна не магла пратэставаць. І ў гульні прысутнічае несвабода; і гульня для чалавека пастка; і калі б гэта не была гульня і тут сапраўды сядзелі два чужыя чалавекі, падарожніца ўжо даўно магла б пакрыўдзіцца і пайсьці, але з гульні нельга было ўцячы; каманда ня можа зьбегчы перад канцом гульні з поля; шахматныя фігуры ня маюць магчымасьці пакінуць дошку; межы поля неадольныя. Дзяўчына бачыла, што мусіць прымаць гульню, таму што гэта гульня. Ведала, што чым небясьпячнейшаю

(Працяг на стар. 10)




Міадраг СІБІНАВІЧ

# КАНВЭРГЕНТНАЕ ЦІ ДЫВЭРГЕНТНАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ КУЛЬТУР СЛАВЯНСКІХ АДНОСНА ЗАХОДНЕЭЎРАПЕЙСКІХ

У сувязі зь лёсамі славянскіх народаў і культур іхных адно з найцікавейшых і найістотнейшых пытаньняў — пойдуць яны далей шляхам канвэргентнага, а ці дывэргентнага разьвіцьця ў адносінах да астатніх эўрапейскіх, перадусім заходнеэўрапейскіх, грамадзтваў і культур. Наогул, як вядома, гэта ня новае пытаньне, але новы час і новыя абставіны ва ўсіх "посткамуністычных" /пераважна славянскіх/ краінах яго абнаўляюць і актуалізуюць шэрагам новых аспэктаў. Гэта ўжо зусім ня тая старая дылема Эўропа - Азія /калі такая дылема напраўду некалі была/, а ў першую чаргу пытаньне месца славянскай цывілізацыі між германскай, раманскай і іншымі разьвітымі /жывымі/ цывілізацыямі Эўропы, а затым і сьвету.

Варта было б вызначыць, перш за ўсё, ці мае славянская цывілізацыя сваю ўнутраную субстанцыю дзеля спэцыфічнага разьвіцьця і сьцьвярджэньня сярод іншых. Калі мае, дык што яе, уласна, складае, чым гэтая субстанцыя характарызуецца /фальклёр гэта, рэлігія, асаблівасьці гаспадарчага ладу, нейкія асаблівыя адносіны паміж людзьмі і грамадзкія адносіны ў рамках асаблівых формаў арганізацыі сацыяльных супольнасьцяў альбо штосьці яшчэ/?

Каб адказваць на гэтае пытаньне, значны матар'ял прапаноўвае нам гісторыя - агульная і, зразумела, гісторыя культуры, прычым з акцэнтавана кампаратыўнымі падыходамі... Гэта азначае, што калі-нікалі дзеля асэнсаваньня сучаснасьці трэба зноў і зноў вяртацца да ранейшых пэрыядаў і той матар'ял вывучаць з пазыцыі пазьнейшых, а па магчымасьці і будучых, этапаў разьвіцьця славянскіх культур.

Зьвяртаючыся да названай праблемы, вельмі важна заняцца пошукамі адказаў на пытаньне вось якога кшталту: што, скажам, у творах такіх пісьменьнікаў, як Шэксьпір, Гётэ, Бальзак ці Хэмінгуэй, забясьпечыла ім актыўную рэцэпцыю славянскімі культурамі; што ў творах Гогаля , Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Пастарнака, Чэслава Мілаша, Андрыча, Салжыніцына, Сайфэрта ці Бродскага прывабіла раманскую, германскую і англасаксонскую культурную грамадзкасьць Заходняй Эўропы? Гэтую грамадзкасьць цікавіць, хто Андрыч - харват, сэрб ці мусульманін, а ці яе прываблівае мастацкае адлюстраваньне тыповай югаслаўскай канглямэрацыі розных мэнталітэтаў і цывілізацыйных традыцый? Добрае ўспрыманьне згаданых пісьменьнікаў іншымі цывілізаванымі асяродзьдзямі залежыць, пэўна, ад нейкіх унівэрсальных вартасьцяў іхных твораў, але ж істотна, у якіх формах тыя вартасьці праяўляюцца: гэта нейкія шырэйшыя цывілізацыйныя, рэгіянальныя, нацыянальныя ці індывідуальныя паэтычныя зьместы? Які зь іх пераважае? І канкрэтна ў якіх гістарычных, грамадзкіх, адпаведна культурных акалічнасьцях?..

Ці дагэтуль у славянскіх і заходнеэўрапейскіх народаў грамадзкае і культурнае разьвіцьцё мела адпаведнасьць? Калі мець на ўвазе самыя агульныя этапы і плыні, дык адказ — пры многіх славянскіх адметнасьцях — павінен быць недвухсэнсоўна сьцьвярджальны. Глябальныя супадзеньні часта, як мы ведаем, носяць толькі тыпалягічны характар, але неаднойчы таксама, асабліва на працягу апошніх трох стагодзьдзяў, узьнікалі і як вынік міжнароднага абмену ідэямі, стымулятыўнымі навуковымі альбо мастацкімі дасягненьнямі пэўных нацыянальных ці рэгіянальных культур і асобных творчых індывідумаў.

Аднак сярэдзіна XX стагодзьдзя, як вядома, для славянскіх культур /не для ўсіх у роўнай меры і не для ўсіх аднолькава працягла/ азначана разрывам сынхроннасьці разьвіцьця адносна Заходняй Эўропы — сынхроннасьці, якая склалася ў канцы XIX — на пачатку XX стагодзьдзя. Гэтая эпоха прынесла, магутнымі сродкамі падтрыманае, імкненьне зьдзейсьніць асаблівую сацыяльную праграму і стварыць культуру, адрозную ад той, што падтрымлівалася ў разьвітай Заходняй Эўропе.

Між тым, калі цяпер, пад самы канец XX стагодзьдзя, ва ўсіх славянскіх краінах гэтая праграма адвергнута, дзеля глыбейшага асэнсаваньня сучаснага моманту і дзеля магчымага прагназаваньня пэрспэктыў далейшага разьвіцьця славянскіх культур неабходна перадусім разабрацца, ці ёсьць элемэнты, якія спрыяюць аднаўленьню кантуітэту з тым даўнейшым разьвіцьцём, што было ўласьціва славянскім культурам на пачатку XX стагодзьдзя.

Да элемэнтаў, якія б маглі стаць грунтам далейшага канвэргентнага разьвіцьця адносна Заходняй Эўропы, варта было б, думаецца, залічыць у першую чаргу вось што:

1. Традыцыйная цяга славянскіх культур параўноўвацца з заходнеэўрапейскімі, асабліва ад часоў Асьветніцтва да нашых дзён. Гэта выяўлялася найчасьцей у складаньні розных паралеляў паміж народамі славянскімі і германскімі, славянскімі і раманскімі, у Новы ж час і паміж славянамі і англасаксонцамі. Такі падыход, асабліва сёньня, пры сучасных тэхнічных магчымасьцях міжнароднай камунікацыі і пры некаторых іншых чыньніках, вядзе да таго, што грамадзкія і духоўныя дасягненьні Заходняй Эўропы будуць лічыцца абавязковымі крытэрыямі вартасьцяў таксама для славянскіх культур.

2. Ва ўсіх краінах так званага рэальнага сацыялізму, як і сацыялізму самакіраваньня, адыход ад марксісцка-камуністычнай праграмы атаясамліваецца з паваротам да шляхоў грамадзкага разьвіцьця, уласьцівых народам Заходняй Эўропы.

3. У межах славянскага культурнага кола і на цяперашні момант дзейсная тая частка славянскіх культур, што праз каталіцызм і пратэстантызм ужо шмат стагодзьдзяў была перадатчыкам інтэнсіўных уплываў заходнеэўрапейскіх, найперш германскіх і раманскіх, а ў навейшы час таксама англасаксонскіх культур /пачынаючы ад рэфармацыі, рэнэсансу ці барока, і скрозь — да экспрэсіянізму ці сюррэалізму/.

4. Як элемэнт, што можа забясьпечыць лягчэйшае канвэргентнае разьвіцьцё славянскіх і заходнеэўрапейскіх культур, мы павінны б узяць пад увагу плён вялікай і разнастайнай актыўнасьці ў заходнеэўрапейскім культурным асяродзьдзі XX стагодзьдзя славянскай эміграцыі. Дужа значны, а можа і вызначальны, духоўны ўнёсак выбітных славянскіх філёзафаў, гісторыкаў, пісьменьнікаў, мастакоў, музыкантаў і іншых навукоўцаў ці творцаў, што як прадстаўнікі розных хваляў эміграцыі дзейнічалі у рамках заходнеэўрапейскіх культур, змагаючыся супраць марксісцкай тэорыі ды грамадзкай практыкі. Матар'ялам, які ўводзілі у свае творы, уласнымі канцэпцыямі і ідэямі яны рабілі ўплыў як на сваё эўрапейскае акружэньне, так і на айчынныя славянскія культуры. Сваёй дзейнасьцю яны ў Заходняй Эўропе на самой справе сьцьвердзілі славянскія духоўныя каштоўнасьці, актуалізуючы, у той самы час, зьмест эўрапейскага духоўнага жыцьця паводле ягонага значэньня для славянскіх народаў.

5. Спрыяць зараз і далей падобнаму разьвіцьцю славянскіх і заходнеэўрапейскіх культур можа таксама тое, што з-за цяперашніх міграцыйных працэсаў, выкліканых эканамічнымі і іншымі прычынамі, як і з-за дыктату законаў мультынацыянальнага эканамічнага яднаньня, нават самыя разьвітыя заходнеэўрапейскія, калісьці монанацыянальныя, грамадзтвы пачынаюць сутыкацца са зьмешваньнем розных цывілізацыйных мадэляў у сваім асяродзьдзі і з пэрспэктывамі сынтэзаваць гэтыя мадэлі у нейкіх новых мадыфікацыях. Яны, уласна, пачынаюць сутыкацца з тым, што ў многіх славянскіх асяродзьдзях даўно ўжо актуальна, ды як праблема ўсё яшчэ не знайшло належнага рашэньня.

Разам з тым на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў XX стагодзьдзя актуалізаваліся і зьявы, якія не ствараюць грунту, патрэбнага для канвэргентнага разьвіцьця славянскіх і заходнеэўрапейскіх культур. Адзначым тыя зь іх, якія ўяўляюцца найістотнейшымі.

1. Несупадзеньне на цяперашні момант фазаў разьвіцьця сьвету славянскага і сьвету заходнеэўрапейскага: тады як сучасная Заходняя Эўропа арыентуецца на мультынацыянальнае эканамічнае яднаньне, што абумоўлівае адпаведную ўніфікаванасьць арганізацыі ўсяго грамадзкага жыцьця /а гэта, вядома, закранае і культуру/, у славянскім сьвеце набыў размах адваротны працэс — дэзынтэграцыі /былы СССР, былая СФРЮ, былая ЧССР/.

2. Выразная тэндэнцыя вяртаньня да рэлігіі ў славянскіх краінах, перадусім як рэакцыя на забарону і ўціск яе ў папярэдні пэрыяд — чаго ў заходнеэўрапейскім сьвеце, зразумела, няма.

3. У сувязі зь вяртаньнем да рэлігіі, часта эйфарычным, аднаўляюцца ранейшыя канфрантацыі рэлігійна-цывілізацыйных мадэляў, у якіх некаторыя славянскія народы і нават часткі аднаго народу паварочваюцца на супрацьстаяньні /мусульманска-хрысьціянскае, а ў межах хрысьціянскай мадэлі каталіцка-праваслаўнае/.

4. Значна жывейшы ўдзел фальклёрнай

# ФАЛЬШЫВЫ АЎТАСТОП

*(Працяг са стар. 9)*

будзе гульня, тым больш яна будзе гульнёй і тым больш паслухмянай ёй належыць быць. І было дарэмным клікаць на дапамогу розум і зьвяртаць увагу на звар'яцелую душу, якая мусіць захоўваць ад гульні адступленьне і не ўспрымаць яе сур'ёзна. Менавіта таму, што гэта была толькі гульня, душа не баялася, не баранілася і прагна аддавалася ёй.

Юнак паклікаў афіцыянта і заплаціў. Потым падняўся і сказаў дзяўчыне: "Можам ісьці".

"Куды?", - дзяўчына выказала зьдзіўленьне.

"Не пытайся і ідзі", — прамовіў юнак.

"Як Вы са мной размаўляеце?"

"Як зь дзеўкай", — адказаў хлопец.

## X

Яны ішлі па дрэнна асьветленай лесьвіцы; на пляцоўцы пад першым паверхам каля туалету стаяла група п'яных мужчын. Юнак схапіў дзяўчыну ззаду так, што яго далоні апынуліся на яе грудзёх. Мужчыны каля туалета заўважылі гэта і пачалі пакрыкваць. Дзяўчына хацела вырвацца, але хлопец прыкрыкнуў на яе. Мужчыны падтрымалі гэта з грубай салідарнасьцю і адрасавалі дзяўчыне некалькі пошлых парадаў. Хлопец дайшоў зь дзяўчынай да першага паверху і адчыніў дзьверы ў пакой. Запаліў сьвятло.

Гэта быў вузкі пакой з двума ложкамі, столікам, крэсламі і рукамыйнікам. Яна стаяла насупраць яго з упартай паставай і дзёрзкай пажадлівасьцю ў вачох. Хлопец углядаўся ў яе і імкнуўся за непрыстойным вобразам знайсьці знаёмыя рысы, якія пяшчотна любіў. Было так, нібы ён дзівіўся на дзьве выявы, укладзеныя ў адзін бінокаль, на два вобразы, накладзеныя адзін на аднаго і высьвечаныя адзін праз другі. Гэтыя два вобразы казалі яму, што ў дзяўчыне ёсьць усё, што яе душа жахліва аморфная, што ў ёй умяшчаюцца вернасьць і нявернасьць, здрада і нявіннасьць, какецтва і цнота; гэтая дзіўная сумесь здавалася яму брыдкай, як стракатасьць сьмецьця. Вобразы сталі прасьвечваць адзін праз другі, і хлопец адчуваў, што дзяўчына толькі на паверхні розьніцца ад іншых, але ў сваіх неабсяжных глыбінях яна такая ж, як іншыя кабеты, поўная ўсіх магчымых думак, пачуцьцяў, недахопаў, якія ўспрымаюцца як праўда ўсімі яго патаемнымі сумненьнямі і рэўнасьцю; што ўяўленьне аб аўры яе індывідуальнасьці адно падман, што тая дзяўчына, якую ён так кахаў, была толькі стварэньнем яго жаданьня, яго фантазіі, яго даверу, і што сапраўдная дзяўчына цяпер стаіць перад ім, і яна безнадзейна чужая, безнадзейна іншая, безнадзейна шматаблічная. Ён ненавідзеў яе.

"Чаго чакаеш? Распраніся", — загадаў ён. Дзяўчына какетліва нахіліла галаву і спытала: "Так трэба?"

Тон, якім яна гэта казала, здаўся яму вельмі знаёмым, нібы гэта ўжо казала яму нейкая іншая жанчына, але ён ня ведаў, якая. Ён імкнуўся яе зьняважыць. Не падарожніцу, але ўласную дзяўчыну. Гульня зьлілася з жыцьцём у адзінае цэлае. Гульня на прыніжэньне вандроўніцы стала толькі нагодай да зьневажэньня дзяўчыны. Хлопец забыўся, што гуляе. Ён проста ненавідзеў жанчыну, што стаяла перад ім. Ён пільна паглядзеў на яе і выняў пяцьдзясят кронаў. Аддаў іх дзяўчыне: "Хопіць?"

Дзяўчына ўзяла пяцьдзясят кронаў і прамовіла: "На большае мяне не ацэньваеце?"

Хлопец адказаў: "Большага ня варта".

Дзяўчына прыхілілася да юнака: "Так са мной няможна! Са мной трэба трошкі інакш, ты павінен трошкі зьмяніцца!" Яна абдымала яго рукамі і цягнулася вуснамі да вуснаў. Ён паклаў пальцы на яе вусны і лёгка адштурхнуў яе. Вымавіў: "Цалуюся адно з жанчынамі, якіх кахаю".

"А мяне не кахаеш?"

"Не".

"Каго ж ты кахаеш?"

"Пры чым тут ты? Распранайся!"



Мастак Ян Зрзавы

## XI

Ніколі яна так не распраналася. Баязьлівасьць, пачуцьцё ўнутранай трывогі, вар'яцтва, — усё гэта яна заўсёды адчувала, калі распраналася перад хлопцам (і не магла схавацца ў цемры), — цяпер гэтага не было. Яна стаяла перад ім самаўпэўненая, дзёрзкая, асьветленая і прывабная, калі раптоўна знайшла дагэтуль незнаёмы рух павольнага, раздражняючага распрананьня. Яна напівалася яго поглядам, пяшчотна адкладвала кожную частку адзеньня і цешылася чарговай стадыяй агаленьня.

Потым раптоўна засталася перад ім зусім аголенай, і ў гэтыя хвіліны ў яе галаве пранеслася, што цяпер ужо ўся гульня мусіць скончыцца; што так, як яна скінула сукенку, яна скінула ўдаваньне; гэта азначае, што яна стала сама сабой і хлопец павінен падысьці да яе і зрабіць рух, які ўсё зьменіць і за якім будзе толькі іх даверлівейшае каханьне. Яна стаяла перад юнаком аголеная і ўжо не гуляла; яна апынулася ў разгубленасьці і на яе твары зьявілася ўсьмешка, якая сапраўды належала толькі ёй: нясьмелай і зьбянтэжанай.

Аднак хлопец не падышоў і не спыніў гульню. Ён не заўважыў знаёмай даверлівай усьмешкі; ён бачыў перад сабой толькі чужое прыгожае цела сваёй уласнай дзяўчыны, якую ненавідзеў. Нянавісьць пераадолела ягоную страсьць. Дзяўчына хацела падступіцца, але ён загадаў: "Стой на месцы, хачу добра бачыць цябе". Цяпер ён імкнуўся толькі да таго, каб авалодаць ёю як купленай дзеўкай. Ён ніколі ня меў ніводнай такой дзеўкі і ўяўленьні аб іх чэрпаў адно зь літаратуры. Тады ён прыгадаў гэтыя ўяўленьні і першае, што ўбачыў, было — жанчына ў чорнай бялізне, якая танчыць на бліскучай паверхні раялю. У пакоі раялю не было, адно невялікі столік ля сьцяны, пакрыты льняным абрусам. Ён загадаў дзяўчыне, каб яна залезла на стол. Дзяўчына выканала загад, а хлопец вымавіў: "Заплачана". Калі яна ўбачыла ў хлапечым поглядзе незразумелую апанаванасьць, то паспрабавала працягваць гульню далей, але ўжо не была здольна. Са слязьмі ў вачох узьлезла на стол. Ён быў велічынёй амаль мэтар на мэтар, адна ножка была карацейшай; стоячы на

традыцыі ў славянскіх культурах параўнальна з сучаснымі вядучымі заходнеэўрапейскімі.

Незалежна ад таго, што многія з прыведзеных момантаў маюць выключную актуальнасьць у палітыцы, я не жадаю тут іх палітызаваць. Хоць некаторыя з прыгаданых канфрантацый непасрэдна датычацца існаваньня майго народу, я ўстрымаюся ад камэнтараў на гэты конт. Мною пералічаны зьявы, якія могуць і якія ня могуць быць на карысьць канвэргентнага разьвіцьця славянскіх культур адносна заходнеэўрапейскіх толькі дзеля таго, каб зьвярнуць увагу на верагодныя палюсы, між якіх пульсуе ўнутраная духоўная і эмацыйная моц сучасных славянскіх культур як складніка агульнай эўрапейскай культуры. Абедзьве групы зьяваў, адзначаных мною, можна таксама разумець і як грунт, які дае плён славянскім культурам з канца XIX стагодзьдзя.

А як будуць разьвівацца славянскія культуры з пачатку XXI стагодзьдзя? Гэта ў вялікай меры залежыць ад таго, ці адмовяцца — як, на якіх падставах — у імя ўсеагульнае інтэграцыі /дзеля пашырэньня прасторы культурнымі каштоўнасьцямі/ вялікія заходнеэўрапейскія культуры ад сваіх адметнасьцяў. Ці пераважыць такі у Заходняй Эўропе дух глябальнай інтэграцыі, які б мог узьдзейнічаць і на кірункі разьвіцьця славянскіх культур? Ад гэтага, між іншым, залежыць напэўна і тое, дакуль пойдуць і наколькі працягнуцца сёньняшнія працэсы адраджэньня падкрэсьлена нацыянальна арыентаваных культур асобных народаў. Час пакажа, захаваюцца гэтыя нацыянальныя культуры як нейкі цэльны, асаблівы і пазнавальна славянскі складнік эўрапейскай культуры, а ці ў будучым яны ва ўсім будуць раўняцца на адпаведныя эўрапейскія рынкавыя стандарты. Бо, калі браць даўжэйшыя шляхі, альтэрнатыва гэтым арыентацыям у сучасным сьвеце — ізаляцыя ў вузкіх нацыянальных рамках і правінцыяльнасьць.

**Пераклаў з сэрбскай мовы Іван ЧАРОТА**

**“Другая Эўропа” — мэты й памкненьні:**

*“... прыдумаць, выявіць, акрэсьліць магчымы культурны і інтэлектуальны кантэкст, г.зн. такое асяродзьдзе знакаў, тэкстаў, падзеяў, у якім Беларусь знаходзіла б сябе як істотны і неабходны суб’ект дыялёгу”.*

Ёзаф КРУТВАР

# КЛОПАТ З ЭКЗЫСТЭНЦЫІ: МІТ І ЧЭСКАЯ ЛІТАРАТУРА



Чэская думка — барджджэй прадметная, сухая й стрыманая — ня мае пачуцьця міту. Элемэнты стыхійнасьці ўхаваныя ў столках складанае гісторыі малога народу. Нашае нацыянальнае адраджэньне не апэлюе да мітаў і прараканьняў, але замыкаецца ў цярплівай працы патрыётаў.

Сучасныя нацыянальныя фармацыі тварыліся ў эпосе рамантызму. Рамантычныя ўяўленьні ўкарэніліся ў падсьведам’і нацыі й адчувальна ўплылі ня толькі на думаньне соцыюму, але й на кажнага індывіда. Аднак нашыя рамантыкі... былі нерамантычныя. Мы мелі не вяшчуноў, а арганізатараў, мы мелі ня вольныя душы, а настаўнікоў.

Нашае нацыянальнае адраджэньне, у адваротнасьць да суседняе Польшчы, усьпіралася не на мітах, а на гістарычных фактах. Чэхі не пялі народных песень, а праводзілі дыскусіі; дэклямавалі прамовы, а не паэзію. Мінуўшчыня ня была страчанай крозай, але барджджэй забытай запраўднасьцяй, аддаленай і выпхнутай у нясьведам’е. У гэтым вырашальным пэрыядзе нарадзіўся й чэскі нацыянальны характар. Чэхі — гэта не рамантыкі, а рэалісты. Імі й ёсьць гэтыя слынныя “галовы”. Аднак яны — рэалісты не з натуры, а із знадабнасьці. Чэскаму нацыянальнаму адраджэньню былі патрэбныя наўперад пераконлівыя аргумэнты, праграма загэтым была важнейшая за міт.

Наш рэалізм пытаньне ня расы, а абумоўленасьці. Мы ў ісьце рэалісты, а ня лёгікі. Гэта траха парадаксальнае цьверджаньне, але гэткая праўда. Мы ня душы, а галовы. Мы ніколі не сутыкаліся зь іроніяй і скептыцызмам, хітрадумнымі аналітыкамі й крытыкамі; мы не прагматыкі, не вальтэрыянцы й не спэкулятыўныя філёзафы.

Гульня ў думаньне нам чужая й нас ня надзіць. Розум павінен служыць. Чэскі рэалізм характарызуецца сваеасаблівымі, элястычнымі, але вырахаванымі паводзінамі, пачуцьцём драбніцы й функцыі. Кажны аргумэнт мае свае за й супраць, кажнае пытаньне мае дваякую інтэрпрэтацыю. Дзеля гэтага чэская думка двузначная, яна мае сукрытыя падтэксты й заўсёды бярэ пад увагу запасны выхад.

Вывальненая рамантычная стыхія блізу без астачы ўвабрала ў сабе сярэднеэўрапейскі бідэрмаер і гэтая традыцыя у чэхаў перахавалася. Нямаш нічога дзіўнога ў тым, што гэтаму мяшчанскаму серадовішчу нішто гэтак ня чужое, як патас, драма, міт. Гэткім чынам пацьвердзілася прадметнасьць, сухасьць, стрыманасьць думкі; паўстаў небясьпечны стэрэатып.

Для малога чэскага чалавека (эвалюцыя якога ня гэткая незразумелая) гісторыя сталася сьцягам пусташных здарэньняў, анэкдотаў і ведамак. Не стае ўсэнсаваньня цэласьці. Міт, калі ён наагул існаваў, ужо даўно шчэз і на ягоным месцы атабарыўся абсурд (як паэтычны, гэтак і супоўна празаічны).

Асноўным пытаньнем чэскае літаратуры ёсьць экзыстэнцыя. Гэтае цьверджаньне на першы пагляд ня выняткавае. Аджа пытаньне экзыстэнцыі гэта капітальная праблема ўсялякае літаратуры. Але гэтае пытаньне чэская літаратура перажывае асабліва даткліва й глыбака.

Уся нашая літаратура падпарадкаваная экзыстэнцыі. І тут ход ідзе ня толькі аб ейным сэнсе, але й аб пэратрываньні наагул. Паэзія сама стаецца экзыстэнцыяй. Гэта экзыстэнцыя ў найвытачнейшым значэньні. Верш выклікае ўражаньні толькі тады, калі ён ёсьць выражэньнем быту чалавека.

Чыстая духовая гульня далёкая ад экзыстэнцыі, яна ёй чужая. Падобным парадкам і апісальная лірыка мае значэньне толькі тады, калі яна перасягае межы імпрэсіі й датычыць канкрэтнага пэйзажу, роднага краю або “чэскае старонкі”.

Талент паэты бяз сумлеву падпарадкоўваецца асабістай долі й кону малога народу.

Нас лучыць ня міт, а чыстая экзыстэнцыя. Міт узьнімае чалавека, уцягае яго ў супольнасьць. Адылі экзыстэнцыя можа замыкацца толькі ў сабе або ў іншай, падобнай экзыстэнцыі.

Адзінотны чалавек прынучаны ўсьцяж нанава змагацца за свой быт, за сваё месца, за сваю экзыстэнцыю. Быць можа ў гэтым выпішчаньні істы людзтва крыецца нешта новае, тое, што дае нацыі шанцы на будучыню. Старыя міты ўсюдых зьнікаюць, трацяць магуту й вабнасьць, нацыянальныя структуры рамантычнай Эўропы разбураюцца. Чалавек, не прыгатаваны да гэтага працэсу, лучае ў маральны крызыс. Гэткім чынам іншыя толькі цяпер даходзяць да таго, што мы ўжо добра ведаем.

Чэская экзыстэнцыя няўпынна пакутуе на запамароку, адначасна датрымваючыся фактаў. Беспасярэдняя сувязь із жыцьцём чалавека бароніць яе ад небясьпечнае змусты містыкі. Экзыстэнцыя тут — ня шыфар або сымболь, а канкрэтнае здарэньне, ацэна собскае сытуацыі ў лябірынце запраўднасьці. За тое, што сытуацыя часамі роспачная, сьветчыць пачуцьцё гумару. Нашую экзыстэнцыю характарызуе чыста фізычнае быцьцё й затым яе нельга пераблытаць із духам.

Кім я ёсьць, нашто я ёсьць, кім ёсьць я й кім ёсьць іншыя — гэта асноўныя пытаньні быту й нябыту. Антыподам экзыстэнцыі ёсьць (хіба) эміграцыя. Адыход запраўды дае болей быту, але гэта суб’ектыўнасьць здабываецца цаной страты экзыстэнцыі. Шырыня сьвету — за кошт чэскае глыбіні. (...)

Сучасны міт мадэрнізму быў спароджаны рамантызмам у сараковых гадох мінулага стагодзьдзя. Бідэрмаерская Прага мела тымчасам іншыя зацікаўленьні, іншыя забавы й турботы. Другая пазаркая магчымасьць стварэньня міту надарылася адно каля 1900 году. Прага адмянялася ў меркаваную мэтраполію, у сучасны лябірынт. На ейных вуліцах пульсуе тлум, ап’янены навінамі.

Да мітычнае структуры нэарамантычнае Прагі беспасярэдняе дачыненьне мае Яраслаў Гашэк. Ягоны слынны раман, “Прыгоды добрага ваякі Швэйка падчас сьветнае вайны”, не паўстаў адразу; яго выпярэджвалі чысьленыя дробныя аповяды аб фізыяноміі гораду, парафразы, містыфікацыі, журналістычныя абсурды.

У асобе Швэйка мы знойдзем некаторыя элемэнты міту, але тут ход ня йдзе аб міце sensu stricte. Швэйк — гэта фігурка зь лябірынту гораду, але ягоныя паводзіны нямітычныя. Швэйк ня нейкі мітычны heros — ён не падпаліў сьвятыні, каб увыйсьці ў аналы гісторыі, як гэны дурань Герастрат падпаліў сьвятыню ў Эфэсе. Гашэк ня хоча мець нічога супольнага зь мітам і псэўдамітам.

На іншую мітычную рысу, цяпер супоўна здэградаваную, зьвяртае ўвагу Карэль Крэйчы ў працы “Эпітафія габсбургскай манархіі”. Неразлучныя баёвыя таварышы, Лукаш і Швэйк, маюць сваіх папярэднікаў у

стале, дзяўчына мела пачуцьцё няўпэўненасьці. Але хлопец быў спакойны побач з аголенай фігурай жанчыны, якая ўзвышалася над ім, і яе сарамлівая няўпэўненасьць толькі падштурхоўвала яго. Ён хацеў бачыць яе цела ва ўсіх магчымых паставах, так, як уяўляў, што яго бачылі і будуць бачыць іншыя мужчыны. Ён быў грубы і непрыстойны. Ён казаў ёй словы, якіх яна ад яго ніколі ня чула. Яна хацела запярэчыць, хацела ўцячы з гульні, назвала яго пяшчотным імем, але ён імгненна крыкнуў, што яна ня мае права называць яго так.

У разгубленасьці і з унутраным плачам яна паслухала яго, нахілялася і садзілася паводле яго пажаданьняў, зноў круціла клубамі, дэманструючы твіст, пры хуткім руху пад яе нагой зьехаў абрус і яна ледзь не звалілася. Хлопец падхапіў яе і кінуў на ложак.

Авалодаў ёю. Яна ўзрадавалася, што нарэшце скончылася бязглуздая гульня, і зноў яны будуць такімі, якімі былі і кахалі адзін аднаго. Яна захацела пацалаваць яго вусны. Але хлопец адхіліў галаву і паўтарыў, што цалуе толькі жанчын, якіх кахае. Яна расплакалася ўголас. Але шалёная страсьць юнака паступова падпарадкавала яе цела, якое прыцішыла галашэньне яе душы. На ложку былі два зьлітыя целы, палкія і чужыя. Адбылося тое, чаго дзяўчына ўсё жыцьцё баялася і чаго пазьбягала: страсьць без пачуцьцяў і безь пяшчоты. Яна ведала, што пераступіла забароненую мяжу, але рухалася па-за ёй ужо без аглядак і ў поўнай сьвядомасьці; толькі недзе далёка ў куточку сваёй душы яна адчула жах ад таго, што ніколі ня мела гэткай раскошы і гэтая раскоша (у гэтым выпадку) знаходзіцца якраз за той мяжой.

## XII

Потым усё скончылася. Юнак ляжаў поруч зь дзяўчынай; ён дацягнуўся да доўгага шнура, які вісеў над ложкам; сьвятло згасла. Ён не жадаў бачыць твар дзяўчыны. Ведаў, што гульня скончылася, але яму не хацелася вяртацца да ранейшых адносін; ён страшыўся гэтага вяртаньня. Ляжаў у цемры поруч зь дзяўчынай і ляжаў так, нібы ніколі не дакранаўся да яе цела.

Праз хвіліну ён пачуў ціхія ўсхліпы, дзявочая рука баязьліва, па-дзіцячы дакранулася да яго рукі: дакранулася, адкаснулася, зноў датыкнулася і потым прагучаў умольны, рыдаючы голас, які зваў яго па імю і шаптаў: “Я гэта, я, я гэта, я...”

Хлопец маўчаў, ня рухаўся і ўсьведамляў сумную бяссэнсавасьць дзявочага сьцьвярджэньня, у якім незнаёмае вызначалася праз незнаёмае.

А дзяўчына хутка перайшла ад усхліпаў да гучнага плачу і гэту хапаючую за душу таўталёгію паўтарала незьлічоную колькасьць разоў: “Я гэта, я, я гэта, я, я гэта, я...”

Юнак пачаў клікаць на дапамогу спачуваньне (ён павінен быў клікаць яго здалёк, бо зблізку яго нідзе не было), каб суцешыць дзяўчыну. Наперадзе было яшчэ трынаццаць дзён адпачынку.

# НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ

(Урыўкі)

* * *

Характэрна, што Рыльке так, як пакланяўся Бэціне, схіляўся і перад Расіей, у якой пэўны час жадаў бачыць сваю духоўную радзіму. Таму што Расія троху перасягае землі хрысьціянскага сэнтымэнталізму. Яна пазьбегла як рацыяналізму сярэдневяковай схалястычнай філязофіі, так і рэнэсансу. Новыя часы, заснаваныя на картэзіянскім крытычным мысьленьні, прыйшлі туды стагодзьдзем ці нават двума пазьней. Такім чынам, гома сэнтымэнталіс не знайшоў дастатковай працівагі і стаў сваёй асабістай гіпэрбалай, якая звычайна мае назву славянскай душы.

Расія і Францыя — гэта два полюсы Эўропы, якія заўсёды будуць прыцягваць. Францыя старая, стомленая зямля, дзе ўжо ад пачуцьцяў засталіся толькі формы. Француз напіша вам у канцы ліста: “будзе так ласкавы, дарагі пан, і прымеце запэўненьні аб маіх асаблівых пачуцьцях”. Калі я ўпершыню атрымаў такі ліст, падпісаны сакратаркай выдавецтва Галімард, я жыў яшчэ ў Празе. Я падскокваў ад радасьці да столі: у Парыжы ёсьць жанчына, якая мяне кахае! Удалося ж ёй у канцы афіцыйнага ліста зьмясьціць любоўнае прызнаньне!

І яна ня толькі мае да мяне пачуцьці, але і ясна падкрэсьлівае, што яны асаблівыя. Нічога такога мне не казала ніводная чэшка!

Толькі шмат гадоў пазьней у Парыжы мне патлумачылі, што існуе цэлы сэмантычны вэер заключных пісьмовых формул; дзякуючы ім француз мае магчымасьць з дакладнасьцю аптэкара адважваць тонкія ступені пачуцьця, якое і не пачуцьцё наогул, а жаданьне даць зразумець адрасату ягонае месца сярод іх, “асаблівыя пачуцьці” адлюстроўваюць ніжэйшую ступень афіцыйнай пачцівасьці, якая знаходзіцца амаль на мяжы з пагардай.

О Францыя! Ты зямля Формы, так, як Расія — зямля Пачуцьця! Француз, не адчуваючы ў грудзёх ніякага полымя, заўсёды з зайздрасьцю і настальгіяй глядзіць на зямлю Дастаеўскага, дзе чалавек, падстаўляючы працягнутыя для пацалунка вусны, можа забіць таго, хто адмовіцца іх пацалаваць. (Зрэшты, забіўшы каго, ён адразу патрабуе дараваньня, таму што яднае іх абражаная любоў і яна,як мы ведаем ад Бэціны, робіць іх пачуцьці бязьвіннымі.) У Парыжы сэнтымэнтальны забойца знойдзе ня меней за сто дваццаць адвакатаў, якія адправяцца ў Маскву асобным цягніком, каб абараняць яго.

Да гэтага іх будзе штурхаць не спачуваньне (пачуцьцё занадта экзатычнае і рэдка практыкаванае ў іх землях), але абстрактныя прынцыпы, якія зьяўляюцца іх адзінай прыхільнасьцю. Расійскі забойца гэтага не разумее, і пасьля свайго вызваленьня ён кідаецца на свайго францускага абаронцу, каб схапіць яго ў абдымкі і пацалаваць у вусны. Француз спалохана адступае, расіец крыўдзіцца, усаджвае яму нож у цела і ўся яго гісторыя паўтараецца, як песьня аб сабаку і каўбасе (папе).

***

Ах, расійцы.

Калі я яшчэ жыў у Празе, мне расказвалі там такі анэкдот аб расійскай душы. Чэскі мужчына з пасьпешлівай хуткасьцю займаецца каханьнем з расійскай жанчынай. Пасьля чаго яна кажа яму пагардліва: “Ты валодаў маім целам. Маёй душой ня будзеш валодаць ніколі!”

Цудоўная гісторыя. Бэціна напісала Гётэ пяцьдзясят два лісты. Слова “душа” сустракаецца ў іх пяцьдзясят разоў, слова “сэрца” — сто дзевятнаццаць. Толькі зрэдку слова “сэрца” ўжываецца ў анатамічным сэнсе (“маё сэрца моцна білася”), часьцей за ўсё яно ўжыта як сынэкдаха, азначаючая “грудзі” (“хацелася б прыціснуць цябе да свайго сэрца”), але ў ашаламляльнай большасьці выпадкаў яно азначае тое ж, што і слова “душа”: адчуваючае “я”.

Здаецца, што гэта фраза інтэлектуала, які недаацэньвае боль зуба. Я адчуваю, што гэта ісьціна, якая больш звычайнага мае моц і якая тычыцца ўсяго жывога. Маё “я” істотна не адрозьніваецца ад вашага тым, што разважае. Людзёў многа, думак мала, усе мы мысьлім прыблізна аднолькава і думкі ўзаемна перадаем адзін аднаму, крадзем, пазычаем. Аднак калі нехта наступіць мне на нагу, боль адчуваю толькі я. Асновай “я” зьяўляецца ня мысленьне, але страсьці, якія і ёсьць фундамэнтам усіх пачуцьцяў. У страсьцях нават кошка ня можа сумнявацца ў незамяняльнасьці свайго “я”. У моцнай страсьці сьвет зьнікае і кожны з нас застаецца сам з сабою. Страсьці — гэта ўнівэрсытэт эгацэнтрызму.

“Вы не пагарджаеце мной?”,— пытаецца Іпаліт у князя Мышкіна. “Чаму? Верагодна за тое, што вы пакутавалі і пакутуеце

*(Заканчэньне на стар. 12)*

старажытнай міталёгіі. Кажны Ахіль мае свайго Патрокля. У кажнага Арэста ёсьць свой Піляд. Да гэткіх зразаў датыкаюцца гэтаксама Дон Кіхот і Санча Панса. Ужо ў Кубусі Фаталісьце стасунак спаміж панам і службітам зьмяняецца на карысьць падуладнага. Паручнік Лукаш із сваім чысьцільнікам абутку стаіць на другім канцы лініі эвалюцыі й трэба дадаць, што іх ужо ня кіруе дух ваяўнічасьці.

Інтэрпрэтацыя "Швэйка..." як твору наскрозь антываеннага — аблудная інтэрпрэтацыя. Швэйк паявіўся ў праскім серадовішчы за некалькі гадоў да вайны і толькі пазьней быў у яе ўцягнены. Абразкі з праскіх шынкоў, якія ім няўпынна паўтараюцца, Швэйк забірае із сабой на фронт. Гэта ні ў якім прыпадку не антываенны гумар, але за пэўных акалічнасьцяў ён можа стацца зброяй у змаганьні зь бяссэнсам ваеннае махіны.

Што можна сказаць аб гумары, аб гэтым тыпова чэскім вынаходзе? Чэская экзыстэнцыя вышчаная, але яна не паддаецца, не стаецца самой экзыстэнцыяй. Чэх інстынктыўна бароніцца, а ягонай найдзяйсьнейшай зброяй акурат і ёсьць гумар.

З нашага гляньва, нямаш нічога дзіўнога ў тым, што акурат чэхі падаравалі сьветнай літаратуры адзін із найслыньнейшых гумарыстычных раманаў. Аб гэтай кнізе напісана ўжо шмат трактатаў, але мы гэтак і не даведаліся, ці Швэйк быў уцелаўленьнем дабра, ці выраханым нягоднікам.

Гумар — гэта дзіўная зьява, гэта непасяжнае зіхаценьне быту. Кажная думка ля гэтага цуду выглядае неверагодна ацяжэла. Нездарма кажуць, што гумар вывальняе чалавека. Аджа гумар гэта свабода выбару, які ставарае магчымасьць уцёкаў ад знадабнасьці, кону, ад нямоглае матэрыі штадзеннае запраўднасьці.

Геніяльная містыфікацыя Гашка не выражае нейкіх аб'ектыўных падставаў, думак або паглядаў, але наўперад адлюстроўвае непаўторнае й асаблівае зіхаценьне досьціпу, што свабодна зьзяе спаміж сьвятлом і ценем жыцьця. Аб нечым іншым ход у ісьце ня йдзе. Выгладжваць від Швэйка, рабіць із яго філёзафа або гуманіста — усё гэта ня мае сэнсу.

Швэйк — гэта не характар, а тып; гэта не індывід, а фігурка масавае псыхалёгіі. Швэйка нішто ня ўзрушыць, ён пагадзіўся із сваёй сытуацыяй. Ён паводзіць сябе гэтак, каб ператрываць. Ягонае стаўленьне чыста празаічнае. Швэйк настаўлены вылучна на сваю экзыстэнцыю й ніякае "разгалінаваньне" суб'екту ня можа мець месца.

Экзыстэнцыя ў Гашка — гэта рэдукцыя чалавека да людзкога мінімуму. Рамантызм скончыўся на касьмічным агаломшаньні й марнасьці, а сучасная рэдукцыя затрымваецца на сукрытым у тлуме чалавеку. Ірония змывае ўсе культурныя, палітычныя, рэлігійныя, эстэтычныя й іншыя асадкі бы бруд і вышчвае чалавека гэткім, якім ён ёсьць. Адкрыцьцё экзыстэнцыі ўчастых узрушае й бянтэжыць. Вызуканьне, зьішчанае Гашкам, не даходзіць, праўда, да рамантычнае марнасьці, але так ці інак ейным вынікам ёсьць нішто. Скажам шчыра, экзыстэнцыя — гэта нешта накшталт "анальнага фэномэну": гаўно.

Швэйк сам сабою ня легенда, гэткае стылізацыі ў рамане нямаш. Ягоная экзыстэнцыя гэткая ж ананімная, як экзыстэнцыя Язэпа К. Ад пачатку й да канца, у жыцьці і ў гісторыі, Швэйк — іста, не зьвяртаючая на сябе ўвагі. Аджа Гашэк сам піша аб сваім герої: "Сёньня на праскіх вуліцах можна спаткаць мужчыну, які нават не здае сабе лічбы з таго, якое значэньне ён мае ў гісторыі новай, вялікай эпохі. Ён сьціпла ідзе сваёй дарогай, нікога не чапляе й гэтаксама не чапляюць яго журналісты, просячы, каб ён даў інтэрвію. Калі папытаць, як яго клічуць, ён адкажа папросту: "Швэйк".

Пісьменьнік не зьдзяйсьняе ў рамане магічных штучак, ён нічога не выдумляе, а толькі адкрывае гратэскавыя стасункі й цярпліва дасьлядуе кон свайго героя-не-героя. Гульня замыкаецца ў нечым іншым: у пераплятаньні гучнае фразы з прадметным апісаньнем, вульгарнага прыраўнаньня зь іранічна выказанай праўдай... Прынцып містыфікацыі гэтак дасканальна апанаваны аўтарам, што вельмі глыбака ўвыйшоў яму ў кроў і мову.

Нялюбосьць Гашка да "літаратурнай ашукі", да "жаданьня ўцёкаў", да "літаратурнага ідэалізму" й "паэтычнага патасу". Літаратурны працэс сваёй нястачай патасу дашчэнту ліквідуе ўсе рамантычныя сьхіннасьці. Вялікія ідэі і ўзьнёслыя гэсты — гэта толькі ілюзія. Нішто гэтак не адрынае Гашка, як захапленьне, важныя толькі канкрэтныя драбніцы й факты.

Міт загэтым абавязвае экзыстэнцыю на вышшы быт і мэсіянства, але падобнае ў прыпадку Швэйка немагчымае. Зрэшты, нават гісторыя ня ў лепшай сытуацыі; ейная нутраная зьменлівасьць парушаная, яна распадаецца на сьцяг здарэньняў і малых эпізодаў. Тым ня менш раман Гашка ня толькі збор анэкдотаў, але й гістарычны абраз эпохі. Гэта нэгацыя міту, абсурдальнае адлюстраваньне гісторыі, якая страціла сэнс.

Усё перамяшанае. Гісторыя ня толькі зьведзеная да ўзроўню гісторыйкаў (зь ідэі яна здэградаваная да банальнасьці), але й кажнае дробнае здарэньне набыло рангу гістарычнага. Швэйк, значыцца, выкінены зь гісторыі, але ён вяртаецца ў яе акружною дарогаю. Гэта, відавочна, ня слынны ўход праз Трыюмфальную Арку, але барджджэй абсурдальная драбяза, уход праз заднія дзьверы.

Гашкаў Швэйк — гэта ў запраўднасьці заняпалы мешчанін і гэтаму заняпаду або, калі інакш, гэтаму ўпадку, адпавядае агульная нужа гістарычнае сытуацыі, у якой Швэйк жыве мала як паразыт. Варта адно бліжэй прыгледзіцца да ягоных сумлеўных справаў із сабакамі, якія сьветчаць за тое, што ён ужо не займаецца сумленнай мяшчанскай працай, але работнікам — унівэрсальнаю работніцкаю сілаю ў сучаснай сыстэме — яшчэ ня ёсьць.

Агрэсыўны Гашкаў гумар не ашчаджае нікога, нават найбліжшых. Належна асьмяяць дух патрыятызму (як спадак 19 стагодзьдзя). Гашэк адмаўляе патрыятычную тэзу й ілюзію, маўляў, гісторыя мела быць сумаю асобных эстэтычных цэннасьцяў або вытварам нацыі сумленных індывідаў. Гісторыя — праява супоўна іншых сілаў і праваў. Спаміж задумам індывіда ды рухам грамадзкае масы нямаш беспасярэдняга дачыненьня, спаміж псыхалёгіяй ды сацыялёгіяй гісторыі нямаш зьменлівага пярэйсця.

Паводля Швэйка, запраўднасьць можна інтэрпрэтаваць; на кажную жыцьцявую сытуацыю можна знайсьці адпаведны прыклад. Але гэта ні вечнае зьвярненьне міту, ні навочны прыклад традыцыі. Гашкаў Швэйк застаецца тым, кім ёсьць: літаратурным парадоксам, абсурдам. Швэйк ні да чаго не абавязвае, ён не прыдатны да насьледаваньня, ягоная вонкахлітаратурная роля сытуацыйная, крытычна статыстычная й — галоўна — канстатуючая.

Гашкава спадчына барджджэй двузначная. Вывальняючы малога чалавека ад фальшывых тэндэнцыяў, ён адначасна пераконвае яго ў тым, што абсурд усемагутны і ўсюдыхісны. Шкада, што ў чэскай літаратуры Швэйк ня мае ніякай антытэзы, ніякага супарата на адпаведным узроўні.

Швэйк бяз сумлеву геніяльны тып, але ягоная пастаць неадназначная — як у рамане, гэтак і ў жыцьці. Гэта было б занадта простым разьвязаньнем чэскае бяды.

Тым, хто не зразумеў або ня прыняў Швэйка, застаецца толькі маралізаваць. Дык жа акурат у гэтым замыкаецца слабасьць чэскае гісторыі. Колькі "чэскіх братоў" спасярод нас! Швэйк выкінены зь гісторыі як із шынка, але ён ніколі ня быў адзінотны, яго заўсёды атачалі людзі.

Маралізатар — гэта адваротнасьць грамады, ён унікае таварыства й сам ухінаецца ад супольнасьці. За добрыя інтэнцыі яму адплачваюць няўдзячнасьцяй, якая нясе расчараваньне. Экзыстэнцыя маралізатара — гэта яўная экзыстэнцыя і з усіх экзыстэнцыяў найцяжшая, найбольш абцяжараная віной, найдзіўнейшая і найсьмяшнейшая.

Калі Швэйк ідзе на вайну, каб служыць каралю да апошняе капкі крыві, на вуліцы Більска 10 Франц Кафка распачынае пісаньне Працэсу. Кафка ня чэх, ён не належыць да чэскае літаратуры, але нейкім чынам павінен мець у ёй сваё месца. Ня толькі таму, што ён жыхарыў і пісаў у Празе, але й таму, што ягонае пасягненьне экзыстэнцыі тварылася пад уплывам вылучна значэнных наступкаў сярэднеэўрапейскіх падзеяў. Кафка перажываў іх як чужаземец і як жыд.

Вялікшая ізаляцыя стварала лепшыя ўмовы для выпрацоўленьня маральнага культу і ўцягвала Кафку ў адзінотнае й найцясьнейшае кола быту. Калі Гашкаў Швэйк "самы жарты", дык Язэп К. — "сама павага".

Прыраўнаньне Швэйка зь Язэпам К. не прыпадкавае й ня прынучанае. Гэта адно спроба кансэквэнтнае лёгікі, якая заўсёды аказуецца абсурдальнай і багатай на парадоксы. Яны абодва жылі із сваімі гаспадынямі супакойна, прыстойна й памяшчанску. Пакуль раптоўна іх не выклікала нейкая вышшая інстанцыя: першага на вайсковы набор, другога — на суд.

Абодва раманы пачынаюцца падобна, абодвух герояў напаткае неверагодная ведамка. Напачатку нішто не паказуе на тое, што сытуацыя гэткая спаважная. Зьмена наступае раптоўна. У адным прыпадку яе выклікае бяссэнсоўны працэс, у другім — сьветная вайна.

Сьвет Кафкі пастойна кружыць наўкола нейкага нулёвага пункту. Матэматык сказаў бы: "Гэты пункт мы назавем пунктам К." Гэта пункт экзыстэнцыі. І вось гэтак прыгоды Язэпа К. няўпынна вяртаюцца да выходнага пункту. Паўстае дзіўное ўражаньне, што кнігам Кафкі ў сваёй аснове не стае прыстойнае фабулы.

Язэп К. блукае па лябірынце, ягоная дарога вядзе ў нікуды. Гэта абсурдальнае вандраваньне, блуканьне па коле. Гэта нават ня блуканьне ў звычайным сэнсе гэтага слова, а нейкае нерашучае туптаньне на месцы, нейкі элеацкі рух. Дарога распалася на множасьць паасобных сігаў.

Экзыстэнцыя ў Кафкі — гэта барджджэй фаталістычнае таўро, нешта мулкае. Чалавек пакутуе з прычыны віны, ня ведаючы чаму. Ён безабаронны й адчайны. Ад індывіда нічога не застаецца, гэткай бязьмежнай аказуецца экзыстэнцыя. Чым болей Швэйк выяўляецца ў тысячах здарэньняў, тым болей Кафкава экзыстэнцыя засярэджваецца ў пункце К. Ратункам была б канверсія, але істою сёньняшняй экзыстэнцыі ёсьць абсурд.

Кафкаў "Працэс" ня міт у звычайным сэнсе гэтага слова. Гэтаксама як "Язэп К." і Язэп Швэйк — не пастаці, а тыпы. У абодвух раманах адмаўляецца сэнс гісторыі, абсурд здарэньня ў іх узвышаецца над лёгікай і прычыннасьцяй. Абедзьве фігуры рухаюцца ў сучасным лябірынце. У "Працэсе", як і ў "Швэйку..." міт прытомны ў нэгатыўнай форме. (...)

Франц Кафка, напэўна, застанецца вечна чужым; ён заўсёды будзе ўспрыймацца як зраза сьціпласьці й як дакор. Ягоныя творы, гэткія падаўкія на інтэрпрэтацыю, заўсёды будуць прыцягаць чужыя думкі й надаваць ім сваю форму. Якраз гэта, болей за якія-колечы іншыя пытаньні, вымагае інтэрпрэтацыі.

Швэйк — гэта й фігурка, і монстар гісторыі. Калі Гашэк асьмейвае справядлівасьць, дык Кафка яе ўпорыста шукае. Для Гашка гісторыя — гэта пасьмешышча, распад цэннасьцяў; для Кафкі надвыш усіх учынкаў палягае маральнае права. Праўда прызвычайна аб'яўляецца ні ў нігілізме, ні ў абсалютнай ідэі, а ў людзкой экзыстэнцыі.

Экзыстэнцыю адчувае той, хто ёю паглынены, хто нечага выперся, хто ўжо ня можа інакш. Бяз сумлеву, чэскай літаратуры заўсёды было знаёмае гэтае вычуцьцё. Часамі, праўда, яно адмянялася ў комплекс, але ўчастых і ў найважнейшы стымул самарэалізацыі.

**Пераклаў Валерка БУЛГАКАЎ**

* Разьдзел кнігі Potiže s dějinami



# НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ

## (Урыўкі)

*(Заканчэньне. Пачатак на стар. 11)*

больш за нас?" "Не, таму што я ня варты сваіх пакут".

Я ня варты сваіх пакут. Вялікая думка. Зь яе выцякае тое, што страсьці-пакуты зьяўляюцца ня толькі асновай "я", яго адзіным несумненным анталягічным доказам, але і выдзяляюцца з усіх пачуцьцяў тым, што найбольш вартыя павагі: каштоўнасьць усіх каштоўнасьцяў. Таму Мышкін схіляецца перад усімі жанчынамі, якія пакутавалі. Калі ён упершыню бачыць фотаздымак Настасьсі Філіпаўны, то гаворыць: "Гэта жанчына мусіла шмат пакутаваць". Гэтыя словы амаль першыя ад пачатку, сказаныя яшчэ раней, чым мы маем магчымасьць убачыць Настасьсю Філіпаўну на сцэне раману і пазнаць, што яна ўзвышаецца над усімі астатнімі. "Я нічога, але вы, вы пакутавалі",— скажа зачараваны Мышкін Настасьсі ў пятнаццатым разьдзеле першай часткі і з той хвіліны зьнікне.

Я казаў, што Мышкін схіляецца перад усімі жанчынамі, якія пакутуюць, але я мог бы сваё сьцьвярджэньне перайначыць: ад хвіліны, калі яму спадабалася нейкая жанчына, ён узяў яе як пакутніцу. І так як ня можа нічога змоўчыць, што думае, то імгненна распавядае ёй аб гэтым. Гэта быў урэшце выніковы мэтад (шкада, што Мышкін змог для сябе так мала зь яго ўзяць!), таму што калі мы скажам якой-небудзь жанчыне "Вы вельмі многа пакутавалі", то гэта нібы зварот да яе душы, ласка і яе ўзвышэньне. Кожная жанчына гатовая нам прамовіць у такія хвіліны: "І калі маім целам яшчэ не валодаеш, мая душа ўжо належыць табе!"

Пад поглядам Мышкіна душа расьце і расьце, становіца падобнай да гіганцкага грыба, высокага, як пяціпавярховы дом, становіцца падобнай да паветранага шара, які з кожнай хвілінай падымаецца з камандай вандроўнікаў да неба. Душа прыходзіць да зьявы, якую я называю гіпэртрафіяй душы.

***

Несьмяротнасьць. Гётэ не баяўся гэтага слова. У сваёй кнізе "З майго жыцьця", азначанай вядомым падтытулам "Вершы і праўда", ён піша аб заслоне, на якую ён у захапленьні глядзеў у новым тэатры, калі яму было дзевятнаццаць гадоў. На ёй удалечыні быў адлюстраваны храм славы, а вакол яго вялікія тэатральныя дзеячы ўсіх часоў. Вольным цэтрам сярод іх, даруючы ім увагу, ішоў "якісьці муж у лёгкім паліто проста да таго храма; яго было відаць ззаду і на ім не было нічога незвычайнага. То быў Шэксьпір, які ішоў без папярэднікаў і не клапаціўся аб узоры, ён рухаўся на сваю рызыку насустрач несьмяротнасьці" (цытую Гётэ).

Несьмяротнасьць, аб якой казаў Гётэ, ня мае нічога агульнага з рэлігійнай верай у несьмяротнасьць душы. Гаворка ідзе аб іншай, поўнасьцю зямной несьмяротнасьці тых, хто застанецца пасьля сьмерці ў памяці нашчадкаў. Кожны чалавек можа дасягнуць большай ці меншай, кароткай ці доўгай несьмяротнасьці і ўжо ад маладосьці апанаваны ёю ў думках. Аб старасьце адной мараўскай вёскі, куды я хлапцом часта хадзіў гуляць, расказвалі, што ён меў у хаце адчыненую труну і ў шчасьлівыя хвіліны, калі ён адчуваў у сабе надзвычайны спакой, то клаўся ў труну і ўяўляў сабе сваё пахаваньне. Нічога больш прыгожага ў сваім жыцьці ён не пазнаў, чым тыя хвіліны ў труне, калі ён апускаўся ў мары: ён знаходзіўся ў сваёй несьмяротнасьці.

Што датычыцца несьмяротнасьці, то людзі зусім ня роўныя. Мы мусім распазнаваць так званую малую несьмяротнасць, памяць аб чалавеку ў думках тых, хто яго ведаў ( "несьмяротнаьць", аб якой марыў стараста мараўскай вёскі), і вялікую несьмяротнасьць, якая азначае памяць аб чалавеку ў думках тых, з кім ён асабіста ня быў знаёмы. Існуюць жыцьцёвыя шляхі, якія ад самага пачатку ставяць чалавека твар у твар з такой вялікай несьмяротнасьцю; гэта жыцьцёвыя шляхі мастака або дзяржаўнага дзеяча.

З усіх еўрапейскіх дзяржаўных дзеячоў нашых часоў тым, хто сапраўды найбольш займаўся разважаньнямі аб несьмяротнасьці, быў Франсуа Мітэран: памятаю незабыўную цырымонію, якая была пасьля выбраньня яго прэзыдэнтам у 1981 годзе. Плошча Пантэона была запруджана захопленым натоўпам і ён ад яго аддзяліўся: ён ішоў уверх адзін па шырокай лесьвіцы (амаль такім чынам, як ішоў Шэксьпір да храма славы на заслоне, аб чым пісаў Гётэ) і трымаў у руцэ тры ружы. Потым ён зьнік для натоўпу і быў ужо адзін, сам з сабой сярод надмагільных помнікаў шасьцідзесяці чатырох вялікіх мёртвых, ён узьнімаўся ў задуменьні і самоце толькі на вачох кінематаграфічнага штабу, камэраў і некалькіх мільёнаў французаў, якія пільна глядзелі на экраны, зь якіх грымела Дзявятая сымфонія Бэтховэна. Ён адна за адной паклаў тры ружы на магілы трох мёртвых, якіх выбраў сярод усіх. Ён быў нібы каморнік, які ўсаджвае тры ружы як тры калочкі на неабсяжнай будаўнічай пляцоўцы, каб прама аддзяліць трохкутнік, сярод якога будзе ўзвышацца яго палац.

Валеры Жыскар д'Эстэн, які быў прэзыдэнтам перад ім, запрасіў у 1974 годзе на сваё першае сьнеданьне ў Елісейскім палацы сьмецяра.

Гэта быў жэст сэнтымэнтальнага буржуа, які тужыў па прыхільнасьці простых людзёў і жадаў, каб верылі, што ён адзін зь іх. Мітэран ня быў такім наіўным, каб жадаць быць падобным да сьмецяра (такая ілюзія прэзыдэнта ня можа зьдзейсьніцца!), ён жадаў быць падобным да мёртвых, што было больш мудрым, таму што сьмерць і несьмяротнасьць як неразлучная пара каханкаў...

**Пераклала з чэскай**
**Алена ВОСТРЫКАВА**



*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў.*

## МАСТЫХІН



# ПАКЛАНЕННЕ ЗОРКАМ — ПАКЛАНЕННЕ ЗЯМЛІ

Асабіста для мяне крытэрыем каштоўнасці твора мастацтва з'яўляецца ступень уздзеяння на падсвядомасць, здольнасць выклікаць пачуцці, абуджаць успаміны і фантазіі. У гэтым сэнсе невялікі графічны аркуш альбо міні-габелен можа валодаць большай энергетычнай сілай, чым велізарная фрэска альбо мазаіка. Пра гэта мне падумалася на выставе габеленаў мастачкі Вольгі Дзёмкінай. Выстава праходзіла ў экспазіцыйных залах Заслаўскага гісторыка-культурнага запаведніка. Габелены ў асноўным невялікіх памераў, камерныя па форме. Іх хочацца разглядаць зблізку, памацаць рукою (хоць музейныя правілы гэта забараняюць). Яны маглі б упрыгожыць і інтэр'ер грамадскай установы, офіса, і прыватнае жытло. Большасць работ — новыя, але ёсць і ўжо добра вядомыя. За вонкавай прывабнасцю прачытваецца глыбокі сэнс. Вольга Дзёмкіна - адзін з нямногіх на Беларусі мастакоў гісторыка-рамантычнай плыні. У гэтым няцяжка пераканацца, пабачыўшы яе габелены, прысвечаныя гісторыі Заслаўя. Выяўленчая мова мастачкі, мае рысы унікальнасці. І ў гэтым сэнсе творчасць Вольгі — адметная з'ява ў сучаснай культуры Беларусі.

Выстава мае паэтычную назву "Пакланенне зоркам", але па сэнсе — гэта пакланенне зямлі. І тут няма супярэчнасці: Зямля — таксама зорка Сусвету.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымку:* габелен "Панадпрыпяцкая завіруха"

# "LIEBSCHAFT", або ЮНАЦКІЯ ФАНТАЗІІ

Маладое мастацтва Беларусі нарэшце выйшла на афіцыйны ўзровень: прэстыжныя выставачныя залы сталіцы прытулілі "мурзатае дзіця" — адна за адной адчыніліся выставы маладых іспанскіх і беларускіх мастакоў у Дзяржаўным мастацкім музеі, экспазіцыя "Liebschaft" (Любоўная сувязь) у Нацыянальнай мастацкай галерэі (Палацы мастацтва).

Але гэта пытанне выключна палітычнае і да ўласна мастацкага працэсу яно мае (ці павінна мець) ускоснае дачыненне. Таму хацелася б спыніць сваю ўвагу не на "міжусобіцах" пакаленняў, не на сутыкненнях таталітарысцкай настальгіі з пошукам творчай самаідэнтычнасці, а на тых праявах мастацкай рэчаіснасці, якія гэтыя выставы выразна прадэманстравалі.

Абедзве выставы пакідаюць прыкры прысмак местачковага "паміжсабойчыка", бо відавочна адсутнасць сур'ёзнай аналітычнай працы галерыстаў, якія, такое ўражанне, увогуле не займаюцца канцэптуальнай распрацоўкай праектаў. Экспазіцыі ладзяцца па прынцыпе: сустрэў адзін мастак другога і прапанаваў яму выставіцца. А калі ў гэтай кампаніі апынецца які іншаземец, то ўвогуле — стрэл у дзесятку. Само па сабе гэта, можа, і нядрэнна, але такая практыка не дае магчымасці ўбачыць тую ці іншую з'яву ў пэўным зрэзе, мастацтва выпадае з кантэксту прафесійных даследаванняў і робіцца прадметам "для хатняга карыстання".

Сучасны еўрапейскі вопыт сведчыць, што мастацтва сёння ўяўляе сабою штосьці падобнае да лабараторыі, дзе ў вялікім дыяпазоне кшталтуюцца ідэі — ад "ratio" да адкрытай шызафрэніі, ад эстэтычна-філасофскага пошуку да непрыхаванага эпатажу. Нашае ж "мурзатае дзіця" працягвае трымаць палец у носе і пры гэтым адчувае сябе першаадкрывальнікам. Безумоўна, постмадэрнісцкая рэальнасць прызнае цытаванне як сродак выразнасці, але тут ужо трэба весці гаворку аб ступені прысутнасці гэтага цытавання. Мяне ж сёння імкнуцца пераканаць, што "капуснік" на тэму еўрапейскага мастацтва 60-х гадоў — гэта моцна.

Свядома пазбягаю персаналіяў, бо не надышоў іх час. Нават дзве розныя выставы не маюць прынцыповага адрознення. Таму, каб у наступнай "любоўнай сувязі" не пацярпець фіяска, не грэх паклапаціцца аб "дыяпазоне прымальнасці". XX стагоддзе ўжо канчаецца!

**Ульяна ГРОМАВА**

# "НІРВАНА"

Выстава карцін з такой назвай адкрылася ў Гомелі, у памяшканні абласнога цэнтра народнай творчасці. Гледачы мелі магчымасць азнаёміцца з творамі маладых гомельскіх мастакоў Івана Папова, Івана Фірцака, Ігара Кавалёва і Сяргея Каўрыгі. Пры арыентацыі на авангард па манеры выканання, аўтары не выходзяць далёка за рамкі звыклага.

Усе выдаткі — ад арэнды памяшкання выставачнай залы да транспарціроўкі прац, афармлення і размяшчэння рэкламных шчытоў — мастакі ўзялі на сябе, бо зварот да гарадскіх уладаў і камерцыйных структур горада быў безвыніковы. А паколькі ў маладых мастакоў ёсць што паказаць і вельмі хочацца гэта зрабіць, зацягнулі шчыльней паясы і — наперад.

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ**



На здымку: праца мастака І.Папова "Паляванне на ружовых сланоў. Аўтапартрэт"

**Фота аўтара**



Вялікая выстава пінскіх мастакоў праходзіць зараз у Берасці, у карціннай галерэі Саюза мастакоў Беларусі. На суд гледача прадстаўлены каля 80 карцін і гравюр. Гэта аповяд аб пінскай зямлі і людзях, што жывуць на ёй. Гэта экспазіцыя адкрывае серыю выстаў, на якіх будуць прадстаўлены творцы з іншых гарадоў Берасцейшчыны.

*На здымках:* гравюра Сяргея Харошаўцава "Стары Пінск"; пінскія мастакі Наталля Бандарэнка, Жанна Шкроба, Сяргей Капрусаў, Сяргей Мігалевіч, Аляксандр Ганжураў, Віктар Зайко, Сяргей Харошаўцаў, Яўген Шатохін на адкрыцці выставы ў Берасці.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ**

# ПАЧАТАК ЗНАЁМСТВА



# МЕТАФАРЫЧНЫЯ МЕТАМАРФОЗЫ

У галерэі "Верхні горад", якая месціцца ў будынку Саюза кампазітараў Беларусі, праходзіць выстава жывапісу Уладзіміра Скрыганава. Гэты мастак досыць вядомы як удзельнік былой авангарднай суполкі "Жоўты дом". Разам з сябрамі ён удзельнічаў ужо ў трох выставах у Мінску і аднойчы ў Германіі. Цяперашняя выстава — персанальная — адлюстроўвае апошні па часе перыяд эвалюцыі мастака.

Напэўна, галоўнае, што адрознівае гэты цыкл твораў ад папярэдніх, — насычанасць містыкай эзатэрычных вучэнняў. Па-ранейшаму ў тэматычным цэнтры кожнага твора — чалавек, які пакутліва шукае сваё месца ў сучасным "шматрэалістычным" свеце. Мы бачым, як ператвараецца чалавек у лялльку, безаблічнае люстэрка, сюррэалістычную пачвару або загадкавую пасму туману... Разам з тым, творы кідка прыгожыя: шмат аголенай жаночай натуры і светлая, амаль імпрэсіяністычная колеравая гама. Адчуваецца ўплыў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва (вітраж, насценны роспіс і г.д.), якім працяглы час займаўся Уладзімір. Магчыма, таму многім карцінам трохі цеснавата ва ўласных рамах. Зрэшты, хіба не цесна і кожнаму з нас у "рамках" ягоных жыццёвых абставін?

Напрыканцы са шкадаваннем адзначым, што сюррэалістычнае бачанне свету Уладзімірам Скрыганавым амаль не адбіваецца на знешнім выглядзе газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі "ЛіМ", дзе ён працуе мастацкім рэдактарам. Але гэта — не ягоная віна: нацыянальнае адраджэнне, якому патрануе газета, — "надта сур'ёзная" справа, каб дазволіць сабе безаглядныя жарты і двухсэнсоўныя эксперыменты.

**Ю.Б.**





*На здымку:* мастак і адзін з твораў экспазіцыі.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЎНУТРЫ

***(Дыялог з Уладзімірам НЯКЛЯЕВЫМ — з лірычнымі адступленнямі аўтара)***

***Ён з людзей выключна абаяльных. Уладзіміра Някляева ведаюць як паэта, галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца", яго песнямі поўніцца ўся Беларусь. Блізкія сябры паэта лічаць, што вонкавая абаяльнасць Уладзіміра ёсць праявай яго тонкай душэўнасці, рамантызму, радаснасці, здольнасці адчуваць прыгажосць і гармонію свету.***

**— А можа, гэта толькі здаецца сябрам?..**

— Пэўна, сябры надта любяць мяне... Але ў адным з імі магу пагадзіцца: сябе патаемнага ў паўсядзённым жыцці я не надта дэманструю. Хаця гэта ўдаецца толькі часткова.

**— Часткова?**

— Так. Інакш я не быў бы паэтам. Паэзія, як разумееш, гэта і ёсць праява ўнутранага свету.

**— І з якімі ж людзьмі табе лягчэй самавыяўляцца?**

— Ні з якімі. Але лягчэй з тымі, у каго можна "не ўжывацца", а па жаданні ці быць з імі, ці заставацца аднаму. Цяжэй з сябрамі, роднымі. Яшчэ цяжэй з любімымі людзьмі, і ўжо зусім цяжка сам-насам з сабою...

**— І тым не менш ты, пэўна, навучыўся сябе трохі разумець?**

— Вядома ж, і вершатворчасць дапамагала, а апошнім часам і астралогія падказвае. Я — Рак па гараскопе. Не выкідваю старыя рэчы, не мяняю сяброў, не пазбаўляюся нават шкодных звычак... Адным словам, я пастаянны. Але пастаянства больш важна для мяне тады, калі я з чалавекам — надоўга. А падчас выпадковага вечара ў кафэ, калі, скажам, за пяццю столікамі сядзяць мае знаёмыя, то я з цікавасцю (і жаданнем!) пастараюся падысці да ўсіх... Каб не пачалося з кім-небудзь з іх часовае пастаянства.

**— Такіх мужчын цэняць жанчыны...**

— А я ў жанчыне цаню ўсё, з чаго яна ўтворана. Паколькі адмовіўся ад прэтэнзій яе зразумець.

**— Валодзя, у адносінах з жанчынамі мужчыны звычайна становяцца галантнымі, праяўляюць і рыцарскія якасці. Дарэчы, для цябе галантнасць і рыцарства — гэта адно і тое ж?**

— Не, гэта два розныя ўзроўні самавыяўлення чалавека. Галантнасць паказваецца "на людзях", рыцарства жыве ўнутры. Галантнасць — гэта набытае. І хам можа быць галантным, урэшце, як і шулер альбо злодзей...

**— Нешта накшталт Астапа Бэндэра?**

— Так. Але найбольш галантнымі могуць быць цынікі... Галантны цынік прыемны ва ўсіх адносінах. У жанчын ад яго круціцца галава (мусіць, блытаюць з рыцарам). Рыцарства ж...

**— Рыцары — гэта, вядома, донкіхоты...**

— Так. Але з патэнцыялам дон-кіхоцтва нараджаюцца. Яно не такое прыемнае ва ўсіх адносінах, як галантнасць. Можа нават злаваць, раздражняць. Калі галантнасць афішуе, падкрэслівае сваю прысутнасць, то рыцарства выяўляецца бескантрольна, і нават сябе не ўсведамляе. Гэта ўласцівасць выключна цэльных натураў, а мне сябе да такіх прылічваць цяжкавата...

*Падчас напісання гэтых нататкаў падумалася: ці такія ўжо яны ворагі — галантнасць і рыцарства, як тое спрабуе давесці Уладзімір? Першае ж можа быць яшчэ і натуральнай, гарманічнай формай выяўлення другога... Гэтак жа, як і абаяльнасць: яна — водбліск унутранага святла, якое чалавек мае ў душы.*

*А яшчэ я вызначыла б галантнасць як праяву прыроднай здольнасці быць узнёслым, чуллівым, спагадлівым, што так умела прыхоўваюць, дарэчы, менавіта Ракі. Мне ж здаецца, што мой Рак-суразмоўца вонкава галантны выключна таму, што ўнутры яго жыве ад нараджэння — рыцар...*



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

**— Як думаеш, а ці быў ты цэльнай натурай у дзяцінстве? Ці быў радасным рыцарам?**

— Так. Тыя, хто добра мяне тады ведаў, гаварылі, што больш радаснага, ззяючага хлапца яны не сустракалі. Напэўна, у дзяцінстве чалавеку лягчэй даецца галоўнае — цэласнае ўспрыманне свету, яго хараства...

**— І калі ж радасць пачала цябе пакідаць?**

— Мусіць, як пачаў усведамляць сябе, стаў закрывацца ад свету...

**— Тады ж рыцарскія латы пачалі скоўваць пяшчотную істоту ўнутры?**

— Натуральна. Адзін — для сябе, другі — для іншых. Каб не параніцца...

*... У сваіх вершах Уладзімір Някляеў цікава асэнсоўвае тэму падвоенасці душы чалавека. Варта прыгадаць "Вадэвіль у двух актах". Яго герой сам Някляеў, у якім суседнічаюць два чалавекі. Адзін (той, хто ўнутры) — верыць у сваю дабрыню, гатовы адгукнуцца на чужы боль і нават прагне гэтага. Другому ж Някляеву ажыццявіць гэта цяжкавата. Верш пісаўся 20 гадоў таму. Пэўна, думае аб гэтым паэт і сёння. Але развагі адно, а ў паўсядзённасці вучыцца ізноў успрымаць свет цэласна, пераадольваць замкнёную прастору сваёй душы — зусім іншае...*

**— А калі па шчырасці — хочацца часам дазволіць сабе раскошу — быць самім сабой?..**

— І зноў стаць радасным хлапчуком?..

**— Так, менавіта хлапчуком — ва ўспрыманні свету, сябе ў свеце...**

— Гэта непазбежна адбываецца, калі нараджаеш верш: пакутліва імкнешся зразумець сябе, свет, спрабуеш пачуць "таго", хто стукае ўнутры. Гэта ў некаторым сэнсе і ёсць вяртанне да сябе. І ўсё ж да сапраўднае радасці, асабліва да радасці дзяцінства, гэта так далёка... У сучасным свеце (у якім і я іграю сваю ролю) з яго праблемамі, сацыяльнымі цяжкасцямі так многа бутафорскага, несапраўднага — і пры гэтым нямногія абцяжарваюць сябе адчуваннем уласнае віны за тое, што адбываецца наўкола...

*... У размовах пра навакольны свет няўхільна ўзнікае рэфлексія: "А іншыя..." Але ж знешняе — толькі многа-многа нас унутраных. Ці не лепш кожнаму з нас паспрабаваць не нараджаць новы боль, новую віну? Цяжкасці і праблемы, якія свет нам прапануе, існавалі з дня ягонага ўтварэння. Змянілася толькі іх якасць. Раней часцей балелі целы, сёння — хворыя душы... Можа, справа ў нас саміх?*

*У нашай няздольнасці, а часцей у свядомым нежаданні ў менавіта такім свеце — іншага ж няма! — выяўляцца цэласна. Не толькі ў творчасці — кніжнай, канцэртнай, выставачнай — але і ў творчасці штодзённага жыцця. У кожны яго момант. І ў першую чаргу ў зносінах паміж людзьмі, у аснове якіх — сардэчнасць. І не толькі з блізкімі, але й з "незнаёмымі" (тымі, хто часам безвынікова стукаюцца ў рыцарскія латы, як да прыкладу, у някляеўскім "Вадэвілі ў двух актах").*

*Аднойчы Уладзімір напісаў, нібы тэлеграму некаму адбіў: "Страчана. крэўнасці. ніць. між людзьмі..." Мо ўжо час шукаць гэтай крэўнасці? Ці таго Адрасата, якому пайшла тэлеграма сэрца?*

*Іншым часам здаецца, што творчыя людзі сёння падышлі да тае мяжы, за якою латы раздвоенасці не ўратуюць, як не ратуе нават браня ад радыяцыі. Само Неба — Іерархія Святла наблізілася, заклікае духоўных лідэраў нацыі жыць у згодзе з сабою — і са сваімі высокімі ідэаламі, калі ў іх ёсць такія, калі яны наогул былі... Пэўна, іншага выйсця няма.*

*Сёння ўжо становіцца модным гуляць выпакутаванай падзвіжнікамі духа ісцінай: свет наш выратуе прыгажосць і духоўнасць. І пры гэтым рэдка бярэцца да ўвагі, што мы самі — часцінкі гэтага свету. А гэта значыць, мы самі павінны стаць больш прыгожымі і больш духоўнымі. Так пры хваробе арганізм знаходзіць унутраныя сілы ратаваць самога сябе. Пры ўмове, што арганізм не пачаў яшчэ развальвацца.*

*Яшчэ першы прарок Заратуштра параіў чалавеку навучыцца быць цэласным: няхай будуць нашыя словы, думкі, пачуцці — адно. Але ж словы і справы чалавека часта цягнуць у процілеглыя бакі, утвараючы бяздонне бездухоўнасці. І таму, пэўна, над гэтым бяздоннем яму так цяжка бывае сам-насам з сабою...*

*... А наўкола буяе, віруе жыццё — з моднымі прэзентацыямі, прыёмамі, якіх стала намнога больш за час дзяржаўнай незалежнасці. Кажуць, і Някляеў там часты госць.*

**— Вось што — цябе разумнага, тонкага, інтуітыўнага паэта — прываблівае ў сучасных "тусоўках", свецкіх раутах?**

— Што прываблівае? Хутчэй адцягвае... ад таго моманту, калі даводзіцца вяртацца да сябе...

**—... і пэўна адказваць на мноства пытанняў накшталт: які ж мой уласны ідэал? У чым мая вера і маё нявер'е? Ці здольны я як паэт выявіцца больш яскрава, і як гэта ўсё спалучыць з думкай пра хлеб надзённы?..**

— Пытанняў пакуль больш, чым адказаў. І вершы пішу часцей у стол... Бывае час, калі нешта ўдаецца, а бывае і наадварот. Але каб зрабіць штосьці значнае, трэба шмат змяніць...

**— Праявіць унутранае, патаемнае не кожнаму ўдаецца. На тое чалавеку патрэбна і смеласць, і нават мужнасць. Здаецца ты ўжо падступіўся да гэтага. Тыя, хто цябе ведае, любіць, верыць, кажуць, што новая "Крыніца" — для цябе — гэта і спроба больш поўна выявіць "унутранага" Някляева... У артыкуле "Назваць і назвацца" ты гаворыш, што важна "каб тое, чым жывеш, хоць вектарна супадала з тым, што робіш; каб займелася воля адольваць марнасць і пустату"... Значыць, праблема цэласнасці цябе хвалюе. Дарэчы, пра новую "Крыніцу" чула дзве процілеглыя думкі — "часопіс кан'юнктурны, подых часу" і "часопіс — падзея ў культурным жыцці рэспублікі..."**

— Чаму "кан'юнктура" — гэта абавязкова дрэнна? Само значэнне гэтага слова ў перакладзе з лацінскай — "звязваю, спалучаю". Так, часопіс кан'юнктурны. Мноства тэкстаў нацыянальнай літаратуры, філасофіі, эстэтыкі не прачытаныя, не засвоеныя. Яны — як эпізоды, якія выпалі з фільма пры яго мантажы. Неабходна толькі намаганне, каб з'яднаць разрозненае. Трэба стварыць уяўленне цэласнасці, каб уключыць беларускую культуру ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Прычым на ўмовах узаемадзеяння і ўзаемаўплыву. Той, каму падаецца, што гэта немагчыма, хто ставіцца да нацыянальнай культуры пагардліва, "Крыніцу" можа і не адкрываць.

**— А твае адносіны да нацыянальнай ідэі?**

— Нацыянальнае — гэта наканаванае. І ніхто не мае сілаў перакрэсліць на зямлі тое, што запісана ў нябёсах.

**— І што, на твой погляд, Нябёсы гавораць беларусам? Адкуль чакаць выратавання?**

— Калі шчыра, то не ведаю... Мусіць, тое, што і раней ратавала — лёс, Вышэйшая Воля. Калі ж запытацца "хто выратуе?", то выратаваць беларусаў могуць толькі самі беларусы. Больш ніхто. І калі самі сабе не ўратуем, адказваць нам самім і давядзецца. Як за грэх самагубства. А самагубства здараецца тады, калі чалавек адварочваецца ад Бога...

**— А значыць і ад сябе самога... Выходзіць, што ўсё ж кожны, каб не згінуць, павінен да сябе вярнуцца. Звязаць цяжка звязваемае, сабраць у адзінае разрозненае, праявіць сапраўднае?... Як лічыш, Валодзя?**

— Падумаем разам...

**Валянціна ШЫМАНОВІЧ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**